# НЯСВІЖСКІЯ КАЕТЫ

**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**

**№ 10** **2022 г.**






Тытульны аркуш оперы
Спіс дзейных асоб
















***Карта ў Нясвіжскім музеі. На паўночны ўсход ад Нясвіжа - белая пляма, толькі ў правым верхнім куточку прытулілася Кунаса з царквой. З мінулага нумара мы пачалі друкаваць гістарычна-літаратурна-этнаграфічны нарыс "Сейлавічы: пад скрып стагоддзяў", прысвечаны 1000-годдзю Сейлавіч. Нарыс павінен заняць звыш сотні старонак, і ўсе падзеі будуць разгортвацца на гэтай белай пляме***

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*I кожны штрых, і летапіс, і дату...*
*Кастусь Жук, Затур'я.*

***Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Чацвёрты год выдання***

**№ 10 ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2022 г.**

## *У НУМАРЫ:*











На правах электроннага рэсурса

Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-3

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**Рэдкалегія:**
**Качановіч Леанід,**
**Плакса Наталля,**
**Суднік Станіслаў**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
kajety@list.ru

**АДРАС САЙТАЎ:**
http//nslowa.by
http//pawet.net
http//kamunikat.org

10,5 друк. аркуша

Часопіс падпісаны да друку 30.12.2022 г.

? *

Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# А душа хоча прыгажосці

Нясвіжчына з году ў год славіцца высокімі ўраджаямі. Але ў штогадовай бітве за цэнтнеры ёсць месца і клопату пра прыгажосць.

Не першы год па ўсёй Беларусі падчас жніва паўстаюць прыгожыя інсталяцыі з саламяных цюкоў і качалак. Гэтыя інсталяцыі сталі ўжо не-












ад'емным элементам беларускага восеньскага пейзажу.

Не прамінула новая завядзёнка і Нясвіжчыну.

Сёлета тут прайшоў як бы своеасаблівы конкурс. Былі сабраныя выявы ўсіх інсталяцый, каб можна было параўнаць палёт творчай думкі і ўменне яе рэалізаваць. Праца працай, ураджай ураджаем, а душа селяніна хоча прыгажосці і ўмее гэтую прыгажосць стварыць нават з саломы.

Ці падводзіў хто якія вынікі? А каб падводзіў, то сейлавіцкі замак аказаўся б не на апошнім месцы. Сапраўды прыгожа.

***Паводле СМІ.***

# У пошуках страчанай оперы Мацея Радзівіла

Серыял "Таямніцы роду Манюшкаў" з'явіўся на старонках "Культуры" яшчэ ў 2020-м. Разынкай той культурнагенеалагічнай галаваломкі стала гісторыя тэатральнай трупы Лявона Перажынскага. У 1784 годзе калектыў паставіў у Нясвіжы адну з першых беларускіх нацыянальных опер "Агатка, або Прыезд пана" на лібрэта Мацея Радзівіла. Яго ж пяру, як сцвярджалі тэатразнаўцы, належала і опера "Войт асады альбанскай". Праўда, калі "Агатка" ўжо "вярнулася" і нават была ўвасобленая на сучаснай айчыннай сцэне, "Войт" заставаўся нейкім прывідам, вядомым толькі па назве і годзе нараджэння.


Мацей Радзівіл

## АДКРЫЦЦЁ ТВОРА

У 1932 годзе польскі гісторык тэатра Людвік Сімон апублікаваў артыкул, у якім распавёў пра знойдзены ў варшаўскай бібліятэцы роду Праздзецкіх друкаваны варыянт лібрэта да оперы "Войт асады альбанскай". Невялічкі аднаактавы твор меў 16 старонак тэксту. На тытульным аркушы значылася: ***"OPERA Pod Tytulem WOYTA ALBIESKIEGO IMIENINY. W dzien doroczney Gall Imienin J.O.X. Imci KAROLA RADZIWILLA Wojewody Wilenskiego, przez zyczliwa JEMU FAMILIA Na Teatrze Nieswiskim GRANA Roku 1785 D. 4 9 bris.".***

Ранейшыя спробы адшукаць выданне былі беспаспяховыя, бо бібліятэка Праздзецкіх, сваякоў Радзівілаў, колішніх уласнікаў Заслаўя і палаца ў Менску (галерэя Савіцкага), падчас Другой сусветнай вайны была дазвання знішчана. Тое нешматлікае, што засталося (напрыклад, рукапіс "Гражыны" Адама Міцкевіча), разышлося па розных установах. Толькі ў 1961-м з'явілася згадка, што, аказваецца, ёсць яшчэ і рукапісны варыянт лібрэта, які захоўваўся ў бібліятэцы Зялінскіх у Плоцку. Сёння адсканаваны дакумент нарэшце дома. На жаль, мы маем толькі тэкст. Хто быў аўтарам музыкі і ці захавалася партытура - пытанні без адказу.

## КНЯЗІ Ў СЯЛЯНСКІХ КАШУЛЯХ

Згодна са спісам акцёраў, у пастаноўцы павінны былі ўдзельнічаць самыя блізкія князю Каралю Радзівілу асобы, князі і графы, высокія ураднікі ВКЛ, якія выконвалі ролі простых вяскоўцаў.

Гэта **Геранім Радзівіл** (зводны брат); **Тэафіла Радзівіл** (сястра), генерал **Ігнат Мараўскі** (яе муж), іх дзеці - **Дуклана, Караль, Кацярына** і яе муж **Міхал Быкоўскі-Лапат**; **Вераніка Радзівіл** (зводная сястра, жонка Францішка Гутэн-Чапскага) і яе дзеці - **Станіслаў, Караль** і **Юзэфа**; **Марыя** (зводная сястра, жонка Бенедыкта Марыконі); **Францішка Рдултоўская** (пляменніца, дачка згаданай вышэй Тэафілы, цётка, а не маці цешчы французскага пісьменніка Анарэ дэ Бальзака, гл. "К" № 50, 2022), яе сястра **Ганна** са сваім мужам **Аўгустам Брулем-Плятэрам**; **Мацей Радзівіл** (зводны брат); **Тэафіла** (сястра Мацея і жонка Германа Ферзена) і яе дочкі **Людвіка** і **Караліна**. Акрамя як для сваякоў, знайшлася роля і для былой любай Пане Каханку - **Францішкі Прыемскай**, якая падабалася ўсяму нясвіжскаму двару і якую пазней Караль Радзівіл выдаў за Занімойскага, а па яго смерці за Пашкоўскага. Такім чынам, павін-

на была ўдзельнічаць 21 асоба. Напрыканцы пастаноўкі да родзічаў мусіў далучыцца сам імяніннік - войт альбанскай асады **Караль Радзівіл**.

### ТРАГЕДЫЯ ЦІ КАМЕДЫЯ?

Часам можна сустрэць сцвярджэнне, што ў "Войце" Мацей Радзівіл асудзіў жорсткае абыходжанне з сялянамі. Падобнае меркаванне памылковае. Яшчэ Людвік Сімон пісаў, што змест оперы вельмі просты. Жыхары Альбы рыхтуюцца да імянін любімага войта Караля. Кожны падрыхтаваў нейкі падарунак: Каруся - чырвоную ружу, Людвіся - белую, Ксаверава - баранчыка, Югася - птушку… Планавалася і ўрачыстае віншаванне, тэкст якога мусіў скласці нейкі Злопайла (Мацей Радзівіл). Каб набрацца адпаведнага паэтычнага натхнення, "пісар" патрабуе гляк піва, столік, пяро, паперу, пазней - гарэлкі і смажаных гусей. У выніку персанаж засынае, і астатнія сяляне вымушаны вырашаць праблему. Але што з гэтага атрымалася, мы пакуль не ведаем: дзясятая, апошняя сцэна аднаактовай оперы абрываецца на самым цікавым месцы.

### РОЗНАЧЫТАННІ ДАТЫ ПАСТАНОЎКІ

Як гаварылася вышэй, у друкаваным варыянце лібрэта згадвалася дата пастаноўкі оперы - 4 лістапада 1785 года. На гэты дзень прыпадалі імяніны Караля Радзівіла "Пане Каханку" і касцельнае ўшанаванне святога Караля (нябеснага патрона князя). У рукапіснай жа версіі не толькі дата іншая (4 лістапада 1786 года), але і назва трошкі адрозніваецца. Вось што напісана на першай старонцы лібрэта: ***"Opera pod tytulem Woyta osady albianskiey przez Familie Xiazat Radziwillow Nieswiezkich grana w Dzien Imienin Xsiazencia Karola Radziwilly Woiewody Wilenskiego w roku 1786 D: 4 Listopada w Nieswiezu. Ulozona i napisana przez Xiazecia Macieia Radziwilla Kasztelana"***. Далей ідзе тлумачэнне, маўляў, Альба - вёска за Нясвіжам, блізу звярынца, у гэтым паселішчы кожны з прадстаўнікоў роду Радзівілаў меў асобную хатку з усёй гаспадаркай. Войтам жа асады быў сам Караль Радзівіл.

Што да іншага года пастаноўкі (1786), выкажу толькі сумнеў у тым, што опера магла ўвасабляцца на сцэне двойчы. У спектаклі быў-такі нейкі элемент сюрпрызу, неспадзяванкі для Пане Каханку. Ёсць і больш сур'ёзны аргумент. Першым у спісе акцёраў пазначаны Геранім Радзівіл, якому дасталася роля лаўніка. Быў ён родным братам Мацея, а Каралю даводзіўся зводным. Як засведчыў пісьменнік Станіслаў Рэйтан, знаўца таямніц нясвіж-



Opera
Pod Tytułem Woyta Osa-
dy albianskiey
Przez Familię Xiążąt Radziwiłłow
Nieswiezkich grana w Dzień Imienin
Xiążęcia Karola
Radziwiłły Woiewody Wilenskiego
w Roku 1786. D:4 Listopada
w Nieswiezu

Ułożona i napisana przez Xiążęcia
Macieia Radziwiłła Kasztelana.

* Za Nieswieżem niedaleko zwierzyńca była Wioska zabudowana zewnątrz nay prostszy iak zazwyczay dla wieśniakow się buduie. ale wewnątrz nay ozdobniey przyozdobione były Chatki i ile było mieszkaiących Familii Xiążąt Radziwiłłow w Nieswieżu każda Osoba Miała Swoią udzielną Chatkę ze wszelką gospodarką. a między niemi Xiążę Karol był Woytem tey Osady.

Тытульны аркуш оперы

Osoby

Ławnik. Xiążę Hieronim Brat Karola
Taciana. Morawska Teofila Siostra Karola.
Ignacy. Morawski Generał Mąż Taciany.
Johasia. Morawska Duklana Córka tychże [illegible]
Karol. Morawski Syn tychże Morawskich.
Kasia. Łopotowa Córka tychże
Michał. Łopot mąż Kasi.
* Weronisia. Czapska Woiewodzina Siostra Karola
Staś
i Karolek. | Synowie Czapskiey
Józia Córka Czapskiey.
Marysia. Siostra Karola. potym Morykonina.
Franciszka Rudałtowska Siostrzenica Karola.
Annusia Platerowa Siostra tyże.
August Plater mąż Annusi.
Złopayło. Xiążę Maciey Brat przyrodni Hieronima
Teofila Ferzonowa Siostra Macieia
Ludwisia
Karolina | córki Ferzonowey Brzostowskie
Xawierowa Xiężna Massalska Siostra Macieia.
Franusia Przyiemska. Hodowanka teraz Ponikowska

Спіс дзейных асоб

скага двара, Караль, што не меў прамых спадкаемцаў, любіў Гераніма, як роднае дзіця: "Сынам яго сваім называў і намагаўся даць яму найлепшае выхаванне". Калі Караль жыў у замку, то Геранім меў у цэнтры мястэчка палацык, крыты меднай бляхай (там быў тэатр), а насупраць, праз вуліцу, стаяў будынак канцылярыі (абодва разабраныя яшчэ ў XIX стагоддзі). Менавіта Геранім аднавіў тэатральнае жыццё Нясвіжа, а жонка яго, Сафія з роду Турн-і-Таксіс, была актыўнай завадатаркай танцавальных вечарын у замку. Геранім памёр 18 верасня 1786-га ў Нясвіжы, маючы толькі 28 гадоў. Па ўсёй верагоднасці, прычынай таму стала здрада Сафіі, якая збегла з музыкантам-гастралёрам, чэхам Янам Дзюсакам, вядомым кампазітарам і піяністам.



Геранім Радзівіл

### АРГУМЕНТ

Крайне сумнеўна, што літаральна праз месяц пасля смерці брата і "сына", з якім звязваліся надзеі на далейшы росквіт роду Радзівілаў, Караль і ўся яго вялікая сям'я весела адзначалі імяніны князя. А адбывалася свята заўсёды шыкоўна, з урачыстымі набажэнствамі, з гудам званоў і гулам гармат (водгулле разносілася па ўсім ВКЛ) ды з разнастайнай праграмай забаўляльных імпрэз (у тым ліку з операмі і балетамі).

Ды яшчэ 2 кастрычніка 1786-га пачаўся сойм у Варшаве, у апошні дзень якога, 13 лістапада, Пане Каханку патрабаваў ад караля перадачы Мацею Радзівілу вакантнай пасля смерці Гераніма пасады вялікага падкаморыя ВКЛ. Іншымі словамі, было не да балявання. Дарэчы, Караль Радзівіл ад караля Панятоўскага свайго ўсё ж такі дабіўся.

### КАЛІ ПРЭМ'ЕРА?

Разважаючы падчас рэдакцыйнай планёркі пра персанажаў артыкула, я згадаў адну падзею. Здарылася яна 15 гадоў таму ў музычнай зале Саюза кампазітараў Беларусі на плошчы Свабоды. У той вечар аб'яднанымі высілкамі паэтаў Віктара Жыбуля і Веры Бурлак, нашай перформанс-суполкі "Механёры культуры" і гурта "Рацыянальная дыета" была падрыхтавана айчынная прэм'ера п'есы футурыста Ільі Зданевіча "Янко крУль албАнскай" (1916). Цяпер цяжка паверыць, што такая эксперыментальная пастаноўка, якая больш нагадвала перформанс, сабрала поўную залу, а некаторыя гледачы памятаюць даўнішні дзіўны марозны і снежны вечар і сёння. І думалася мне: а чаму б не прапанаваць супрацоўнікам нашай рэдакцыі папрацаваць над незавершанай операй Мацея Радзівіла "Войт асады альбанскай" - паставіць спектакль на роднай зямлі, толькі праз амаль 240 гадоў? Праўда, пакуль я разважаў, планёрка завяршылася, і думка агучана не была. Але ідэя прывілася. Хто ведае, якія плады яна прынясе найбліжэйшым часам.

Напрыканцы хочацца шчыра падзякаваць даследчыцы і генеолагу **Івоне Суднік** за дапамогу ў пошуку рукапісу лібрэта забытай беларускай оперы.

***Зміцер ЮРКЕВІЧ.***

# Лаўскаму бою - 80 гадоў

Лаўскаму бою 3 снежня 2022 года споўнілася 80 гадоў, калі 18 мужных партызан цаной свайго жыцця спынілі лютага ворага. Гэта ўраджэнцы Капыльшчыны, Уздзеншчыны і адзін украінец.

Вось іх імёны: **Вікенцій Драздовіч, Васіль Астрэйка, Міхаіл Дзесюкевіч, Аляксандр Ждановіч, Аляксей Кароль, Уладзімір Качаноўскі, Франц Клімовіч, Павел Лыч, Рыгор Нікановіч, Эдуард Петрашэўскі, Мікалай Сіневіч, Іван Туміловіч, Аляксандр Харытановіч, Дзмітрый Цітко, Мікалай Цяртычны, Канстанцін Шытыка, Мікалай Якімовіч, Аляксандр Ясючэня.**

### Як гэта было

У канцы 1942-га фашысты вырашылі пакончыць з партызанскім рухам на Капыльшчыне. Партызанская брыгада імя К.Я. Варашылава пад камандаваннем маёра П.П. Капусты пасля шматлікіх баёў размясцілася ў Лаўскім лесе. Паблізу былі вёскі Калюга, Лавы, Язвіны, Руднікі. У партызанскую зону засылалі шпіёнаў, праводзілі разведку з самалётаў. Сувязныя дакладвалі, што ў Капылі, Слуцку і Нясвіжы з'явілася многа нямецкіх войск.

Раніцай 3 снежня 1942 года з боку Слуцка над партызанскім лагерам з'явіўся нямецкі самалёт-разведчык "Фокке-Вульф 189", які па дыме з каміноў і кастроў запеленгаваў месца дыслакацыі народных мсціўцаў. Карнікі сіламі да сямі батальёнаў з танкеткамі, бронемашынамі, гарматамі і мінамётамі пачалі акружаць брыгаду з трох бакоў. Левым флангам ворагі рушылі на вёскі Цялядавічы і Клецішча, каб далей наступаць на вёску Лавы і Лаўскі лес. Правым флангам - на вёску Калюга і лес. Яны занялі вёскі Пясочнае, Касцяшы, Осава, Лоцвіны. Камандаванне брыгады вырашыла выставіць заслоны і засады на больш верагодных шляхах з'яўлення праціўніка. Напрамак Клецішча-Лавы быў давераны ўзводу вопытнага камандзіра атрада імя Катоўскага Вікенцію Драздовічу. Засада замацавалася на могілках вёскі Клецішча за 2 км ад вёскі Лавы, прычым тры чалавекі ў самой вёсцы. Партызаны выбралі зручныя пазіцыі. Адсюль добра праглядваўся рух на Цялядавічы, Лоцвіны і Лаўскі лес.

Палітрук роты атрада імя Катоўскага Піліп Дайнека прыбыў перад боем праверыць, як уладкавалася засада. Драздовіч далажыў яму, што заўважылі вялікую колькасць немцаў і наперадзе знаходзіцца дазор у складзе камуніста Івана Жыгалковіча (камандзір), камсамольцаў Сяргея Духанава і Сяргея Пяткевіча. Дайнека сказаў партызанам, што на іх ускладваецца вялікая надзея. Нельга даць ворагу прарвацца тут, трэба выратаваць параненых таварышаў, вывезці іх з вёскі Лавы. Пратрымацца трэба дзве-тры гадзіны. Ён таксама паведаміў, што разведка даносіць пра рух буйных сіл праціўніка з Капыля і Узды. Усе, хто знаходзіўся ў засадзе, паабяцалі стаяць насмерць.

Размову абарвала доўгая кулямётная чарга, якая даносілася з боку Клецішч. Карнікі ішлі ланцугом па глыбокім снезе, агінаючы вёску паўколам. Удалечыні беглі двое партызан, якія, вяртаючыся з задання, заначавалі на ўскрайку вёскі. Аляксандра Ждановіча куля дагнала на палове шляху, а Аляксандр Харытановіч змог дабегчы да могілак і далучыцца да сяброў. За гэтым назіралі ў бінокль Дайнека і Драздовіч. Фашысты рухаліся



*Вінцэсь Драздовіч*



*Уладзімір Качаноўскі*



*Васіль Астрэйка*



*Мікалай Цяртычны*

на санках, ішлі ва ўвесь рост і нічога не падазравалі, калі павярнулі на Лавы і на засаду.

- Страляць толькі па маёй камандзе, - праявіў вытрымку і папярэдзіў таварышаў Драздовіч. - Беражыце патроны. Бачыце, колькі фашыстаў прэ?

Кулямётчыкі правяралі дыскі, кулямётныя стужкі. Калона карнікаў набліжалася да пагорка, на якім знаходзіліся могілкі. Тоўстыя высокія бярозы і нізкарослы хмызняк утварылі тут невялічкі астравок сярод шырокага поля. Драздовіч падаў каманду: "Агонь!" - і першым выстраліў з самазараднай вінтоўкі. Ударылі кулямёты Паўла Лыча і Дзмітрыя Цітко. Адну за адной перазараджаў кулямётныя стужкі былы лётчык-бамбардзіроўшчык (ваяваў у Іспаніі), двойчы ардэнаносец лейтэнант Мікалай Цяртычны. Коні кінуліся ў бакі, а карнікі кулём выляталі з санак, распаўзаліся, імкнучыся хутчэй схавацца ў снег. Але трапныя партызанскія стрэлы даганялі іх. Ляжалі забітыя, чуліся крыкі і стогны параненых. Дзмітрый Цітко перанёс агонь кулямёта на іншыя запрэжкі. Коні наскаквалі на сані з салдатамі, ламаючы ўсё на сваім шляху.

Па засадзе фашысты адкрылі 30-хвілінны мінамётна-артылерыйскі і кулямётны агонь з



***Міхаіл Дзесюкевіч***



***Аляксандр Ждановіч***



***Мікалай Якімовіч***



***Аляксей Кароль***



*Канстанцін Шытыка*



*Дзмітрый Цітко*



*Эдуард Петрашэўскі*

Клецішч, затым зноў пайшлі ў атаку. Міны клаліся шчыльна, падкідваючы ўверх слупы зямлі, ламаючы крыжы і магільныя агароджы. Адна міна трапіла ў дрэва і з трэскам разарвалася, асколак наскрозь прабіў цела Валодзі Качаноўскага. Так загінуў самы юны ўдзельнік Лаўскага бою, які ніколі і не фатаграфаваўся. Карнікі зноў кінуліся ў атаку, але наткнуліся на пагібельны агонь групы Драздовіча.

Подзвіг васямнаццаці байцоў увекавечаны на карціне народнага мастака СССР М. Савіцкага "Лаўскі бой". На пярэднім плане камандзір засады Вікенцій Драздовіч і Мікалай Цяртычны, лётчык, які яшчэ ў 1937 годзе ваяваў з фашыстамі ў Іспаніі, вайну сустрэў у якасці штурмана бамбардзіроўшчыка. Падчас аднаго з баявых вылетаў быў параненны над Баранавічамі, дабраўся да партызан і марыў аб тым, як зноў сядзе за штурвал. У засаду патрапіў пасля доўгіх просьбаў, бо камандзір атрада Васіль Яроменка бярог яго, чакаў аказіі, каб адправіць за лінію фронту.

Трэцюю атаку падтрымлівала гармата, якая не прынесла поспеху ворагам. Драздовіч паспеў



*Рыгор Ніканові́ч*



*Павел Лыч*

адправіць Івана Жыгалковіча па дапамогу (змог прабіцца да сваіх), але дапамогі не атрымаў. Фашысты акружылі могілкі з трох бакоў. З вёскі Лавы артылерыя атрада імя Катоўскага адкрыла па ворагу агонь у адказ, імкнучыся адцягнуць артылерыйскі агонь праціўніка на сябе і палепшыць становішча засады. Да гітлераўцаў падышло падмацаванне. Тым часам на брыгаду рушылі карнікі з танкеткамі і гарматамі. Атрад Катоўскага не змог выйсці на дапамогу таварышам па адкрытым полі. Засада атрымала загад на адыход, але было ўжо позна: 4-я, 5-я, 6-я, 7-я атакі… У партызан было каля 10 загінулых, скончыліся патроны, а да ворагаў падышло падмацаванне. Спачатку змоўк адзін кулямёт, затым другі. Бой працягваўся ўжо чатыры гадзіны.

Паверыўшы ў хуткую перамогу, фашысты рушылі ў 8-ю атаку, а перад гэтым яшчэ адкрылі шалёны мінамётны агонь. У справу пайшлі дзве апошнія гранаты, затым шасцёра партызан, што засталіся ўжывых, з крыкамі "ўра" пайшлі на прарыў. Упаў, не дабегшы да варожага ланцуга, Канстанцін Шытыка. Кулямётнай чаргой скасіла Вікенція Драздовіча; Дзмітрый Цітко, Павел Лыч, Іван Тумілові́ч і Аляксандр Харытановіч сышліся ў рукапашным, каб знішчыць яшчэ некалькі ворагаў. Усіх параненых партызан раз'юшаныя карнікі калолі штыкамі і дастрэльвалі ў патыліцы. Моцна здзекаваліся з Васіля Астрэйкі (родам з Пясочнага): гітлераўцы выразалі на яго грудзях зорку, усё цела спаласавалі.

Партызаны знішчылі 85 гітлераўцаў, больш за сотню было параненых і пакалечаных. Паліцаі сабралі людзей з навакольных вёсак з падводамі, каб вывезці сваіх забітых. Загінулых партызан ахоўвалі і не дазвалялі пахаваць. Жонка Драздовіча была побач і хацела кінуцца да застрэленага мужа, але аднавясковец прыпыніў:

- Падумай пра сына.

**Жыццё аддалі "за другі свая"**

Яны загінулі, каб не прапусціць ворага ў тыл, дапамаглі таварышам стрымаць націск карнікаў, эвакуяваць параненых партызан, мірных жыхароў. Партызаны брыгады імя К.Я. Варашылава ноччу выйшлі з акружэння спачатку ў Раёўскі лес, а затым у Чырвонаслабадскі раён. Пасля бою ў раз-



***Карціна народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага «Лаўскі бой»***

бітым станкавым кулямёце была знойдзена запіска: "Не здаёмся, паміраем за Радзіму. Лічыце ўсіх нас камуністамі і камсамольцамі". Яе напісалі кулямётчыкі Павел Лыч і Дзмітрый Цітко (ураджэнцы в. Касцяшы Уздзенскага раёна).

У 1965 годзе Вікенцію Драздовічу - камандзіру групы - пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, а ў аграгарадку Лясное ўстаноўлены бюст Героя і помнік усім загінулым. Радавых байцоў прадставілі да ордэнаў Айчыннай вайны І ступені. У 1959 годзе на могілках вёскі Клецішча ўстаноўлены помнік загінулым партызанам. Васіля Астрэйку пахавалі ў Пясочным, а Уладзіміра Качаноўскага - у роднай Слабада-Кучынцы, дзе ў 2015 годзе з'явіўся новы помнік самаму юнаму партызану.

Памяць жыве ў сэрцах новых пакаленняў. У музеі баявой славы Слабадакучынскай СШ створана экспазіцыя, прысвечаная героям Лаўскага бою. Навучэнцы Лясноўскай СШ праводзяць краязнаўчыя чытанні, на якіх узгадваюць імёны загінулых. У Капыльскім краязнаўчым музеі захоўваецца асколак 82-міліметровай мінамётнай міны, які застаўся ў дрэве на месцы бою, а таксама складзены турыстычны маршрут. У Лаўскім лесе Капыльскім доследным лясгасам адноўлены партызанскія зямлянкі. Штогод прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, школьнікі, курсанты УА "Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь" і работнікі Капыльскага РАУС наведваюць магілы партызан, праводзяць мітынгі, ускладваюць кветкі і ўшаноўваюць памяць хвілінай маўчання.



***Бюст Героя Савецкага Саюза Вікенція Іосіфавіча Драздовіча ў Лясным***


ПЕСНЯ
О ЛАВСКОМ БОЕ.

Посвящается 18 героям-партизанам, погибшим в засаде у деревни Лавы 3 декабря 1942 г. в жестокой схватке с немецкими оккупантами.

Запевайте песни боевые,
О боях недавних прошлых дней.
Как сражались за землю родную,
Изгоняя немцев-палачей.

Болью, пыткой, казнями и смертью,
Наводняя фашист мою страну,
Завывая он в злобе волчьей лютой,
И терзал он родину мою.
Но восстал народ в суровом гневе,
Смело глянул смерти он в глаза,
И ломал фашистам спины умело,
Очищая села, города.

На рассвете тени замелькали,
Это вражьи цепи наползли,
Но в засаде воины не спали.
Весть об этом в лагерь донесли.

Раздалося несколько тревожных
Выстрелов. Команда – все „в ружье!" –
И отряды мстителей народных
Огневое сделали кольцо.

Засвистали, завизжали пули,
Вздрогнула от взрывов вся земля,
И фашисты в панике бежали,
Устилая трупами поля.
Боевой привет артиллеристам,
Пулеметчикам, бойцам стрелкам,
Метко били по врагам-фашистам,
Полицаям дали по ногам.

Не забудем вас героев-братьев,
Что в засаде бились, как орлы.
Слава вам народные герои –
Партизанские богатыри.

***Старонка з рукапіснага партызанскага часопіса***

**З успамінаў**

- Мой малодшы брат Уладзімір скончыў 6 класаў Слабадакучынскай сямігодкі, - расказвала Марыя Качаноўская. - Нас было шасцёра ў сям'і. Маці рана памерла. Вучыўся старанна, многа чытаў, займаўся спортам і трапна страляў, атрымаў значок "Юны Варашылаўскі стралок". Марыў аб прафесіі настаўніка. У партызаны яго прывёў лейтэнант Піліп Дайнека - муж сястры Ніны. Спачатку бацька не хацеў адпускаць 15-гадовага сына, а затым згадзіўся, што той у атрадзе будзе пад доглядам зяця і дачкі. Атрымаў вінтоўку СВТ. Перад Лаўскім боем Валодзю камандаванне прапанавала застацца ў партызанскім лагеры. Адмовіўся, не змог пакінуць сваіх сяброў - такі гэта быў адказны і дысцыплінаваны юнак. Забітага брата прывезлі праз некалькі тыдняў пасля гібелі. Асколак міны трапіў яму ў жывот, за які схапіўся рукамі, і яго скруціла. Цела многа часу праляжала на марозе і моцна здранцвела, так што не змаглі распраміць, так і палажылі ў труну.

- Мой бацька Аляксандр Антонавіч (інструктар райкама партыі) з Вікенціем Драздовічам былі сябрамі, сустракаліся па справах, і той часта бываў у нас дома, - успамінаў Аляксандр Кандыбовіч. - У пачатку акупацыі яны адступалі на ўсход і апынуліся разам у Любанскім раёне, дзе сустрэліся з сакратаром Менскага абкама Іванам Варвашэнем, ад якога атрымалі даручэнне: "Вярнуцца на Капыльшчыну з мэтай арганізацыі падпольнага і партызанскага руху". Апошні раз я бачыў Вікенція Іосіфавіча ўлетку 1942-га. Бацька і ён наведалі нас у Слабада-Кучынцы. Маці прыгатавала абед, а мне дазволілі пагуляць з новенькім аўтаматам ППШ.

***Барыс Дзенісюк,***
*член ГА "Беларускі саюз журналістаў".*

*Вітольд Банах*

# РАДЗІВІЛЫ*

## Бурлівыя лёсы слыннага роду

**Сямейныя пакуты Дароты Генрыкі**

Як ужо згадвалася, Радзівіл частку пасажнай сумы расшэйдаў у Гданьску, у які завітаў праз месяц пасля шлюбу. Таму яму было спешна атрымаць рэшту грошай, абяцаных шлюбным кантрактам. Бачачы, што робіцца, Пшэбяндоўскі не спяшаўся з пералічэннем чарговых сум, што ў сваю чаргу выклікала працэсы Радзівіла з цесцем за выплату пазасталай часткі пасагу, а што горш - здзекі Радзівіла над жонкай. Ад хітрасці да гвалту ўключна. Паводле Бажэны Папёлак, Дарота Генрыка была досыць добра адукаванай жанчынай, пра што сведчаць яе лісты да бацькі, напісаныя па-французску, ведала таксама добра нямецкую (яе маці - Маргарыта Лізавета з Флемінгаў паходзіла з нямецкай сям'і, а бацька з прускай шляхты). Спачатку, аднак, слаба ведала польскую мову, і таму муж вымушаў яе падпісваць фінансавыя распіскі. Адным з першых - паводле расследавання Адама Перлакоўскага - было падпісанне акту адрачэння ад пасажнай сумы. Радзівіл абмануў жонку, інфармуючы яе, што справа ідзе пра перавод пазыкі на свае добры. Падзея гэта мела месца праз няпоўны год пасля шлюбу.

Неўзабаве аказалася, што княгіня Радзівіл з Пшэбяндоўскіх, дачка аднаго з найбагацейшых людзей у Польшчы, не магла весці жыццё на ўзроўні, да якога была прывычная. У лісце бацькі ад 3 жніўня 1705 года Дарота пісала:

*" [...] для выгады дзяцей нашых наогул карэты не маю. Таму прашу ВМ Пана Дабрадзея, каб з ласкі яго бацькоўскай мы маглі мець карэту такую, як княжне яемосці канцлершы дадзена або больш зручная для дзяцей і маднейшая".*

Але, каб справа была толькі ў выгаднай і моднай карэце… Маладая жонка, як аказалася, была прыгаворана да няласкі мужа, і магла разлічваць толькі на непасрэдную дапамогу свайго бацькі. З боку мужа была пазбаўлена сродкаў для жыцця, не мела іх таксама на ўтрыманне прыслугі. Спецыяльныя пасланцы Пшэбяндоўскага ехалі на Літву з аплатай для людзей княгіні, што не заўсёды было магчыма, бо Радзівіл



*Княгіня Дарота Генрыка (Марыя Генрыка) Радзівіл з Пшэбяндоўскіх*

умудраўся таксама нявoліць лакеяў Дароты, абвінавачваючы іх у стасунках з жонкай. Пры іншых аказіях заахвочваў службу да непаважных адносін іх да пані.

Бітая і прыніжаная Дарота Генрыка шукала дапамогі ў бацькі, біскупа луцкага Ёахіма Генрыка Пшэбяндоўскага, Літоўскай канцлершы Ганны Кацярыны з Сангушкаў Радзівіл. Падскарбі аказаўся ў нязручнай сітуацыі замужжа яго дачкі было выхадам сям'і Пшэбяндоўскіх у найстарэйшую арыстакратыю каралеўства, давала шанец пазбавіцца пагарды, як да новазбагацелага саноўніка каралеўскага двара. Баяў-

* Кніга Вітольда Банаха "РАДЗІВІЛЫ. Бурлівыя лёсы слыннага роду" пра недастаткова вядомую на Беларусі "прускую" лінію Радзівілаў выйшла ў Познаньскім выдавецтве "Copyright" у 2018 годзе. Тут яна падаецца ў перакладзе Станіслава Судніка. Кніга не ілюстраваная, таму ілюстрацыі для часопіснана варыянту падабірае рэдакцыя. Рэдакцыя робіць і каментары паводле розных крыніц.

ся, што яго дачка, так "добра выхаваная", гатова кінуць мужа і дабівацца разводу. Звярнуўся ў лісце да ранейшага пратэжэ яго зяця, літоўскага канцлера Караля Станіслава Радзівіла.

Калі стaранні Дароты не прынеслі ніякага выніку, адважылася яна на першы рашучы крок і ўцякла ў кляштар францішканак у Берасці Літоўскім, дзе прабыла звыш двух месяцаў у 1715 годзе. Пазней прыехала ў Варшаву, апавяшчаючы, што ўцякла… не ад мужа, а з Вялікай Арды. Падскарбі стараўся надалей схіляць дачку да ўтрымання фікцыі замуства і ўгаварыў яе да вяртання на Літву, што ў выніку інтэнсіўнага ціску ўчыніла, але ў 1716 годзе зноў уцякла ад свайго прыгнятальніка, на гэты раз у кляштар візітак у Варшаве.

У сваіх слёзных лістах да бацькі давала зразумець, што не можа далей зносіць зняваг мужа: *"які ніякага пра мяне клопату не мае, ані пагарды з-за рознасці нараджэння не хавае, маючы мяне няроўнай сабе"*. Радзівіл, прыніжаючы жонку, даваў ясна зразумець, што іхні шлюб быў толькі здзелкай, якая мае сэнс датуль, пакуль цесць выплаціць пасаг. Дарота Генрыка пісала бацьку пра свае крыўды, называючы мужа *"літоўскай канальяй"*, дадаючы: *"Добра ведаю, што такое літоўская напасць"*. Княгіня шмат разоў прасіла бацьку выкарыстаць свае ўплывы, каб яе саюз быў ануляваны.

Нарэшце 13 красавіка 1718 года падала заяву ў нунцыят аб ануляванні шлюбу. Пытанні гэтыя рэгулявалі II і III Літоўскія Статуты. Большасць прычын, якія маглі прывесці да анулявання шлюбу, датычыла аднак сітуацыі, якія цяжка было пацвердзіць у шлюбеДароты Пшэбяндоўскай і Яна Мікалая Радзівіла. Належалі да іх прымус аднаго з сужэнцаў або выкраданне, бігамія, блізкае кроўнае сваяцтва і адсутнасць папскага дазволу, імпатэнцыя мужа, бяздзетнасць. III Статут дапускаў аднак пакіданне мужа, калі той ужываў адносна жонкі фізічную сілу. Асобнае пражыванне мужа і жонкі суд нунцыята прыгаварыў яшчэ у тым самым годзе, але справа анулявання цягнулася на працягу чарговых дзесяці гадоў.

Адам Перлакоўскі ўнікліва вывучыў акт справы Дароты Генрыкі і Яна Мікалая Радзівіла (рыхтуе на гэтую тэму кніжку). З устаноўленых фактаў вынікае ўражвальная карціна гэтага сужэнства. Паводле сведкі Радэндуса Мушыньскага, пасля чарговай сваркі пра наступную частку пасажнай сумы князь *"кінуў сваю жонку (была тады другі раз цяжарная) на зямлю, і потым хацеў забіць яе шпагай"*. Толькі дзякуючы хуткай дапамозе Загорскага, выкліканага мамкай, якая выхоўвала малога Марціна (першае дзіця Радзівілаў), не дайшло да трагедыі. Іншым разам Мушыньскі быў сведкам наступнага здарэння.

*"Аднойчы экскрэментамі па твары і пад носам ёй памазаў, ад чаго ўзяло яе ванітаванне і ледзве ад смерці вярнулася."*

Радзівіл застрашваў таксама службу, калі тая адмаўлялася даваць карысныя для яго прызнанні. Калі Каратынскі адмовіўся ад няпраўдзівага сведчання пра маральнасць Дароты, быў кінуты ў вязніцу; калі падобным чынам не хацеў сведчыць Ржачыцкі, быў з сорамам пабіты. Павальнае ўскрыццё карэспандэнцыі Дароты яе мужам было, мабыць, найбольш нявіннай анамаліяй ва ўчынках наваградскага ваяводы Яна Мікалая Радзівіла.

Як ужо згадвалася, разводны працэс цягнуўся дзесяць гадоў. Цяжка паверыць, што Пшэбяндоўскі не мог ужыць сваіх уплываў, каб скараціць пакуты адзінай дачкі, пасля смерці сына Пятра, адзінага свайго законнанароджанага жывога дзіцяці. Падаецца, што ў той справе вёў сябе непаслядоўна. Паводле Бажэны Папёлак: *"Падскарбі Пшэбяндоўскі, якому пастаянна нагадвалі пра нізкае паходжанне, вышэй за шчасце дачкі ставіў прэстыжнае сваяцтва з Радзівіламі і выкручваўся перад Даротай, якая маліла яго пра дапамогу"*.

Адрозную думку мае Адам Перлакоўскі, які сцвярджае, што падскарбі моцна стараўся для анулявання шлюбу, з чым Дарота Генрыка звярнулася ў Рымскую Курыю: *"Міністр выкарыстоўваў з гэтай мэтай пасярэдніцтва і дапамогу Якуба Пухета. Інтарэсы Дароты Генрыеты прадстаўляў у Польшчы нейкі Ястрэмбскі (Ястжэмбскі), а ў Рымскай Курыі - прыкліканы ім адвакат Міхаэла дэ Сахэтыс. Справа ў Польшчы трапіла пад суд біскупа ў Познані. Пшэбяндоўскі разлічваў аднак на Пухета, кантакты якога на месцы ў Рыме з дэ Сахетысам маглі прынесці жаданае развязванне сужэнскага канфлікту"*.

Толькі што ліст да Пухера паходзіць з чэрвеня 1926 года, а справа пра ануляванне шлюбу трывала ўжо восем гадоў. Дзіўным таксама можа падавацца, што ў атмасферы вялікай драмы Дароты Генрыкі яшчэ ў 1728 годзе Пшэбяндоўскі перадаў свайму зяцю арэнду маёнтка Пакрыўна (таначаснае Хелмскае ваяводства).

Пакуты Дароты Генрыкі закончыліся нарэшце не дзякуючы ануляванню шлюбу, а з-за смерці яе мужа, якая наступіла 20 студзеня 1729 года ў Чарнаўчыцах. Пры дзіўным збегу акалічнасцяў праз месяц, 24 лютага (у веку 91 года) памёр таксама яе бацька. Выглядае гэта так, як бы толькі тады, калі скочылася геена яго дачкі, адчуў, што можа адысці спакойна з гэтага свету. Удава па Радзівілу ўспадкавала велізарнае багацце па сваім бацьку. Праз няпоўны год, 3 студзеня 1730 года выйшла за кароннага маршалка Францішка Бялінскага, з якім у згодзе жыла чрговыя 25 гадоў да канца сваіх дзён. Памерла 17 студзеня 1755 года; як і яе бацька была пахавана ў касцёле Рэфарматараў у Варшаве.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Станіслаў Суднік*

# Гербоўнік сейлавіцкай шляхты

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Быліновіч**
(Беліновіч, Буліновіч, Беляновіч)

У першай палове XX стагоддзя Быліновічы жылі ў Куліку (масіў сейлавіцкіх хутароў). У памяць пра іх застаўся тапонім Быліновічава гара. Доўгі час там быў глыбокі кар'ер, бралі пясок. Таму яшчэ адна назва гэтай мясціны - "Пескавішча".

Быліновічы, (Буліновічы, Беліновічы, Беляновіч) гербу ўласнага.



*Герб "Быліновіч" ("Беліновіч", "Буліновіч", Беляновіч)*

**Апісанне герба**

У лазуравым полі тры падковы, размешчаныя вертыкальна: дзве срэбныя (белыя) падковы - адна над другой шыпамі ўнутр адна да другой, унутры верхняй падковы - трэцяя меншая, размешчаная аналагічна большай. Над каронай рыцарская рука са зламаным мячом. Гербы са зломанай зброяй - з'ява вельмі рэдкая.



*Варыянт герба "Быліновіч" ("Беліновіч", "Буліновіч", Беляновіч)*

Існаваў варыянт герба, дзе падковы размешчаны так жа, але ўсе рознага памеру. Рыцарская рука тут з цэлым мячом.

Сучасныя геральдысты часта прыпісваюць Быліновічаў да герба "Беліна" на падставе таго, што некаторыя адгалінаванні роду мелі прозвішча Беліна-Беліновіч. На самай справе праглядваецца непасрэдная сувязь паміж гербамі Быліновіч і Беліна: там і там - тры падковы. Па ўсёй бачнасці род Быліновічаў атрымаў уласны герб на аснове



*Герб "Беліна"*




*Рэестравы ліст герба "Беліна"*

герба "Беліна". Адбылося гэта даволі даўно, паколькі ў рэестравым лісце герба "Беліна" значацца прозвішчы Беліна і Быліна, але няма ні Беляновічаў ні Быліновічаў.

Адносна рукі са зламаным мячом ёсць легенда, якую адносяць да герба "Беліна".

*"Родапачынальнікам герба Беліна лічыцца легендарны польскі ваяр Жэляслаў (Зеліслаў) Беліна, яго маці паходзіласа старажытнага роду чэшскіх князёў і манархаў, частка нашчадкаў якіх яшчэ ў другой палове X стагоддзя перабралася ў Польшчу.*

*На працягу наступных 150 гадоў прадстаўнікі роду Беліна з "непарушнай вернасцю ў рыцарскіх справах" служылі польскім сузерэнам.*

*Пра легендарнага Жэляслава Беліну, родапачынальніка аднайменнага польскага герба, вядома, што падчас вайны Баляслава Крывауста (1079 -1102) супраць Святаполка Мараўскага гетман Жэляслаў Беліна праявіў сябе як адважны ваяр і таленавіты палкаводзец. У адной з імклівых атак на непрыяцеля яму ў боі адсеклі руку. Нягледзячы на страту рукі, Беліна працягваў ваяваць і выйграў бітву. За подзвіг Баляслаў Крывауст сярод іншых узнагарод ганараваў героя адлітай з золата рукой і да старажытнага герба з трыма падковамі дадаў зламаны меч. Рука з занесеным мячом была змешчана на шлеме герба".*

Такім чынам прыведзеная легенда ізноў вяртае нас да высновы, што герб "Беляновіч" на нейкім этапе адгалінаваўся ад геба "Беліна", захаваўшы і тры падковы, і руку з абломаным мячом, але ў іншым графічным варыянце.

Тым не менш, гэта асобны шляхочы герб Вялікага Княства Літоўскага.

**Радавод**

Паходзілі Беліновічы ВКЛ, прынамсі адна з ліній, з Магілёўшчыны. Прадставілі пасведчанні аб шляхецтве і інш. дакументы на імя Сымона і яго брата Станіслава Беліновічаў ад Марціна Ваньковіча, суддзі гродскага менскага, ад Вінцэнта Казіміра Ваньковіча, Станіслава Ваньковіча, старасты сянажэцкага, ад Ігната Ламацкага, ротмістра наваградскага, ад Юрыя Машынскага, суддзі земскага Мазырскага пав., ад шляхты Чавускага пав. Магілёўскай губ. Якуба Эйдзята Зубовіча, шамбяляна кара-леўскага двара, і калежскага сакратара Юрыя Ляшнеўскага, сакратара, і інш., ад Фларыяна Падбярэзкага, ротмістра аршанскага.

Рг. - Ян, меў сыноў: Міну, Яна, Аляксандра

і Мікалая беспатомнага. Аляксандр пакінуў Тодара і Гаспара, апошні меў сыноў Рыгора і Каятана. У Тодара, сына Аляксандра, былі сыны Марцін, Аляксандр і Павел. Міна меў пяць сыноў: Марціна, Аляксандра, Эліяша, Базыля і Яна беспатомнага.

Марцін, сын Міны, пакінуў восем сыноў: Ануфрыя, Яна, Юзафа, Францішка, Пятра, Антона, Міхала і Тадэвуша. Ян, сын Марціна Мінавіча, меў сыноў: Эліяша, Ігната, Данііеля і Фердынанда. У Эліяша, сына Міны, былі сыны: Нікадэм, Ян, Міхал, Сымон, Андрэй, які меў сыноў: Сільвестра і Яна. У Нікадэма, сына таго ж Эліяша, быў сын Сымон. У Базыля, сына Міны, былі сыны Ян, Канстанцін і Лявон. Апошні меў сына Міхала.

Ян, сын Яна, пакінуў шэсць сыноў: Антона, Себасцяна, Яна, Марціна, Стэфана і Пятра. Апошні пакінуў чатырох сыноў - Аляксандра, Тодара, Рыгора, Якуба. Ян, сын таго ж Яна Янавіча, валодаў маёнткам Хацятаў у Чувaскім павеце Магілёўскага намесніцтва і меў сыноў: Станіслава, Людвіка і Сымона. Апошні арандаваў засц. Восаў у Барысаўскім стар., аб чым засведчыў кантракт, складзены (29.02.1785 г.) Марцінам Ваньковічам,ураднікам барысаўскім. Выводзіліся таксама сыны Сымона Янавіча Фларыян, Францішак, Пётр, Стэфан, Марцін, Ануфры.

Гэты род гербу ўласнага зафіксаваны ў генеалагічных табліцах Менскага ДДС за 1803 г.

Прызнаны ў расійскім дваранстве 18.08.1795 г. Вывад на сейлавіцкіх Быліновічаў не зроблены.

**Крыніцы.**

*Гербоўнік беларускай шляхты.Т.1.*

*“Наша слова” № 50 (538),19 снежня 2001 г. Ст. 7.*

*Herbarz polski Kaspra Niesieckiego S. j. T. I. Lipsk, 1839. P. 96.*

## Бяганскі

Бяганскія з’ехалі з Сейлавіч пасля вайны. Чуў пра Ядзю Бяганскую, якая выехала ў Польшчу.

У гісторыі вядомы **Ян Казімір Бяганскі** герба “Праўдзіц” (пам. 26 снежня 1734 года) - стараста старадубскі ў 1697-1729 гадах, стольнік браслаўскі да 1703 года, сын Казіміра Бяганскага, маршалка браслаўскага і Апалоніі з Зяновічаў.

Браслаўскі пасол на каранацыйны сойм 1697 года. Браслаўскі пасол на пацыфікацыйны сойм 1698 года. Як дэпутат падпісаў пакт канвенту Аўгуста II Моцнага ў 1697 годзе. Пасол на сойм 1701 года і сойм з ліміты 1701-1702 гг. з Браслаўскага павета. Пасол на сойм 1703 года з Браслаўскага павета. Як пасол з Браслаўскага павета і дэпутат Люблінскага сойму быў удзельнікам Варшаўскай вальнай рады 1710 года. Старадубскі пасол на надзвычайны сойм 1712 года і надзвычайны сойм 1712/1713 гг. (з ліміты). Браслаўскі пасол на сойм 1718 года. Быў выбаршчыкам Станіслава Ляшчынскага ў 1733 годзе.

Сярод знакамітых уладальнікаў герба "Праўдзіц" таксама - **Станіслаў Францішак Бяганскі** (1649 або 1650 - 1709), польскі рымска-каталіцкі святар, канвентуальны францішканец, бакаўскі біскуп і пробашч у Астрозе над Гарынню (Луцкая дыяцэзія).

У наш час пробашчам Тракельскага касцёла Воранаўскага раёна служыць ксёндз **Юрый Бяганскі.**

**Герб “Праўдзіц” (“Правадар”, “Праўда”, “Леў з мура”)**



**Апісанне герба**

У блакітным полі мур складзены з чырвонай цэглы, з-за якога палова залатога льва, язык і кіпцюры чырвоныя, які трымае залаты абруч (праўду). Паводле К. Нясецкага жоўты леў павінен быць улева тарчы павернуты, у пярэдніх лапах торымае жалезны абруч (альбо "Праўду"). У кляйноце паўтораны матыў такога ж льва з абручом, палова якога выступае з-за кароны, якая вянчае шлем.

Некаторыя даўнія выявы герба апускаюць абруч, які трымае леў. Гербоўнік Гельдрыі паказвае залатога льва ў срэбным полі. Таксама іначай паказваецца кляйнот, паказваючы на ім льва, які выскоквае з вежы чырвонага колеру.

Намёт, які аздабляе герб, чырвонага і блакітнага колеру, падбіты золатам.

**Назва герба**

Назва герба выводзіцца найбольш праўдападобна ад старапольскага слова "праўда", што абазначае круглую падстаўку пад місы, якую клалі ў час харчавання на стол (ням. Schusselring). Такое азначэнне падае Аляксандр Брукнер ў сваёй "Старапольскай энцыклапедыі", таму жалезны абруч у лапах льва - гэта і ёсць уласна "праўда". У тым святле памылковай падаецца тэорыя, што слова "праўда" абазначае люстэрка. Такое (памылковае) азначэнне слова "праўда" знойдзем у апісанні герба горада Здуньская Воля на афіцыйнай старонцы тамтэйшых гарадскіх уладаў.

**Гярбовая легенда**

Пачатак гэтага герба нашы аўтары бяруць ад Андрода, родам з Дакіі, які служыў у жорсткага пана, быў ім не раз цяжка збіты. Хочучы ад нялюдскага гэтага чалавека ўратавацца, у глыбокай Афрыцы ў пустыні схаваўся. Там ад вельмі вялікай гарачыні ў пячоры прытуліўся, праз некаторы час бачыць льва, які вяртаўся да той жа ямы, як да свайго логава. Валасы на галаве Андрода ад страху ўсталі, але на яго здзіўленне леў аказаўся ласкавым, бо леў, убачыўшы маладзёна, пачаў трэсці грывай і віляць хвастом, пачаў яго прасіць, каб выцягнуў яму з нагі вострую стрэмку. Вырваў асцярожна стрэмку Андрод, гной выцісную, ачысціў рану і завязаў, за што, хочучы паказаць удзячнасць, драпежнік злоўленых звяроў напалам са сваім лекарам дзяліў. Тры гады так карміў свайго дабрадзея, аж пакуль Андрпод не выйшаў з пустыні і, блукаючы па свеце, быў пазнаны сваім панам афрыканскім праконсулам, ад якога быў уцёк. Быў адасланы ў Рым. Там у амфітэатры на вачах цэлага горада на забаву з драпежнікамі быў выстаўлены… Першым на арэну выпусцілі льва, таго самага, з якім у афрыканскай пустыні хаваўся Андрод, леў пазнаў свайго лекара і як да дабрачынца свайго пачаў лашчыцца да ног, ногі лізаў. Глядзеў на гэта Рым і не мог зразумець, прыпісаў гэта чарадзейству, а таму спусцілі на яго другога драпежніка, рыся, што ўбачыўшы леў скочыў да рыся і хутка разарваў яго. Андрод не толькі жыццё захаваў, але і багацце здабыў, і пачаў ужываць у гербе льва. Калі адзін з нашчадкаў Андрода, муж вайсковы з фаміліі Мянінаў у Этрурыі ўзяў у жонкі спадчынніцу вялікага багацця, якая мела пячатку з чырвоным мурам, герб свой так уклаў, што да чырвонага мура свайго льва дадаў. Над Рэйнам аселі выхадцы з яго дому, дзе і па сёння графы дэ Дынгейм льва з мурам ужываюць, адзін з якіх пры Баляславе Крываўстым у Польшчы асеў - Енджэй Дынгейм. Ён узяў у жонкі адзіную дачку Яна Праўды, гостынскага земскага суддзі, графа на Шчавіне і Трубках. Герб жонкі сваёй "Праўду" або залезны абруч роднаму свайму льву ў лапы ўлажыў.

*Каспер Нясецкі. Польскі гербоўнік, том VII, с. 487-489.*

**Носьбіты герба**

Найлепшы спіс родаў, належных да герба "Праўдзіц" стварыў Тадэвуш Гайль у "Польскі гярбоўніку

Araszewski, Archimowicz, Arcimowicz, Arciszewski, Babowski, Bałwanowicz, Baranowski, Bączalski, Bentkowski, Bereza, Berezecki, Bernatowicz, Beski, Bętkowski, Biedkowski, Biedunkowicz, Biegański, Bielski, Bietkowski, Bobowski, Bogacki, Borakowski, Borysowski, Borzyszkowski, Bratkowski, Bratoszewski, Brochocki, Brochowski, Brodziński, Brudziński, Brudzyński, Brzeski, Buchałło, Buchałłowicz, Bugajło, Bujaczewski, Bujakowski, Bukraba, Bułakowski, Byczkowski, Cebulski, Chotomski, Chrul, Chrulewicz, Chrybski, Chrzanowski, Chrzypski, Cibulski, Cichorowski, Cichrowski, Cidzik, Ciemiewski, Ciemniewski, Ciemnołęski, Ciemnołoński, Cybiński, Cybulka, Cybulski, Cychrowski, Cydzik, Cydzikowski, Czebnowski, Czeczocki, Czeczot, Czeczotek, Czeczotka, Czeczott, Czempkowski, Czempowski, Czychrowski, Ćwikliński, Dankiewicz, Dańkiewicz, Daszkiewicz, Daszkowicz, Dąbski, Deński, Dębołęcki, Dębski, Dinheim, Dobrowolski, Domiechowski, Domiediowski, Dominikowski, Druszkiewicz, Dukalski, Duranowski, Działowski, Dzwonkowski, Dzwonowski, Filipowicz, Gajewski, Gałęski, Gałęzki, Garlicki, Gawarzewski, Gaworzewski, Gedejt,

Gidziński, Giebułtowski, Giedziński, Giełbutowski, Giełdanowski, Głębatowski, Gockowski, Goczałkowski, Goćkowski, Golczewski, Golemberski, Golemiński, Golimiński, Goliński, Gołemberski, Gołembiewski, Gołembiowski, Gołębiowski, Gołymiński, Gołyński, Gorazdowski, Gorowski, Gorzuchowski, Gosczewski, Gosk, Gostomski, Goszczewski, Goszsczewski, Gościchowski, Gotanowski, Gotomski, Gowarczewski, Gowarzewski, Gowaszewski, Gozdzichowski, Gólczewski, Górowski, Grabiński, Grabowiecki, Gradomski, Gradowski, Grecki, Grek, Grekowicz, Grekowski, Grodzanowski, Gromnicki, Grudowski, Gruja, Grzymułtowski, Gulcz, Gulczewski, Gurowski, Gurski, Guzelf, Gyl, Gył, Gyłowski, Hejman, Hładki, Hownowski, Hunnowski, Hunowski, Huryn, Imieniński, Izbicki, Izbiecki, Izbiński, Iżycki, Jabłonowski, Jaraczewski, Jaraczowski, Jarosław, Jedynak, Jocewicz, Jodcewicz, Juszkiewicz, Kaliciński, Kamiński, Kargoszyński, Karłowski, Kaski, Kasperowicz, Kaszewski, Kenstoszowski, Kęskowski, Kierszański, Kinicki, Kinierski, Kiniorski, Kirsz, Kirsza, Kirzyński, Kłodzieński, Kłodziński, Kmaczoła, Kobelski, Kobylnicki, Kochanowski, Kochański, Kochlewski, Kochlowski, Kojadzki, Kokeli, Kokorski, Koniuszewski, Konojacki, Konojadzki, Konsiadzki, Kornacki, Koruszyński, Kosacki, Kossacki, Kostro, Kostrowicki, Kostrowiecki, Koszelewski, Kozerski, Kozyrski, Kraśnik, Kreśnik, Krupowicz, Kruszeński, Kruszewski, Kruszyński, Kryski, Kryszka, Krzeczkowski, Krzyżewicz, Kucharski, Kukalski, Kukiewicz, Kukleński, Kuklinowski, Kukliński, Kurowski, Kurski, Kuszelewski, Kwaczała, Lang, Lank, Lantosz, Lasciewski, Laszewski, Laściewski, Latalski, Ląszewski, Leskowski, Leszczewski, Leszczkowski, Leszczyński, Leszkowski, Lewandowski, Lewicki, Lewiński, Liszkowski, Lobeski, Luka, Luko, Lukocki, Lutecki, Lutocki, Lutomski, Łabiszyński, Łahiszewski, Łahiszyński, Łajszewski, Łakoszyński, Łakowicz, Łantosz, Łantowski, Łaszcz, Łaszczewski, Łaszewski, Łayszczewski, Łazarski, Łazęcki, Łaźniewski, Łaźniowski, Łażniewski, Łąszewski, Łękowski, Łoniewski, Łoszczewski, Łukomski, Łuniewski, Łuszczewski, Łysowski, Macieszewski, Mackiewicz, Makosiej, Makowski, Mańkowski, Marczewski, Mąkorski, Meciszewski, Męciszewski, Mękarski, Mękarzewski, Micewski, Micowski, Miczowski, Miekowski, Mienicki, Miennicki, Miężýński, Miłodroski, Miłodrowski, Misiewski, Mlekicki, Młocki, Modlski, Molski, Mołocki, Mołodzki, Mukański, Mycielski, Mycowski, Narolski, Nasielski, Neledewski, Nieborowski, Nieborski, Niedoborowski, Nieledewski, Nieledowski, Niemierza, Niemiński, Niewiarowicz, Niewierowicz, Niszczycki, Niszycki, Norejko, Noreyko, Nosalski, Nosielski, Nosilski, Obalkowski, Obałkowski, Obelkowski, Obodyński, Obrociwor, Obrowiecki, Obuchowicz, Olęcki, Olędzki, Olęski, Olszewski, Omulecki, Oryszowski, Osiecki, Ośnicki, Ożegalski, Ożygalski, Ożygałko, Pakosławski, Pakosz, Palucki, Pałucki, Parczewski, Paris, Partein, Parten, Parys, Paszkiewicz, Patek, Pawlucy, Petelczyc, Piątkowski, Piwo, Piwoni, Piwonia, Piwoński, Płocki, Poczernicki, Poczyrnicki, Podczernicki, Policki, Połyński, Porucki, Porycki, Posienicki, Posieniecki, Potelczyc, Pożarski, Prawda, Prawdzikowski, Prawosudowicz, Proniewicz, Pruski, Przyborowski, Przytulski, Puiss, Raciborzyński, Radocki, Radzanowski, Rauschke, Rokitnicki, Romanowski, Romecki, Romocki, Ronczewski, Rubczyński, Rudczenko, Rudzki, Ruszkowski, Rutski, Rybiński, Rymaszewski, Rynarzewski, Sadłucki, Sankiewicz, Sarbiewski, Sarnacki, Sawczenko, Sczawiński, Sedlnicki, Seńkowski, Sewerynowicz, Sękowski, Siciński, Siedlnicki, Sieńkowski, Sierakowski, Sierpski, Słabosz, Sługocki, Smarzewski, Smarzowski, Smarżewski, Smitkowski, Smitrowski, Sokołowski, Sołłohub, Sowiński, Sowka, Stachira, Staroszkiewicz, Staruszkiewicz, Stepankowski, Storynowicz, Stroszewski, Stróżewski, Stróżowski, Strzałkowski, Strzegowski, Strzemielecki, Strzemilecki, Suczka, Sulikowski, Szakowski, Szamota, Szawiński, Szczałkowski, Szczawiński, Szczepkowski, Szedziński, Szejbak, Szejbakowski, Szopicki, Szuba, Szubski, Szukiewicz, Szybakowski, Szydziński, Szymakowski, Szymkiewicz, Śmijakowski, Śmijkowski, Śmitkowski, Talkowski, Tarzecki, Tarzycki, Tchorzewski, Tchórzewski, Tchórzowski, Thuille, Tomisławski, Trabski, Trapszo, Trąbski, Trąmbski, Tuczampski, Tuczapski, Warmuntowicz,

- 7 км, але была так разгневаная, а потым развяселеная, што не даведалася, якой дарогай выбраўся, бо са Слаўкава паехаў яшчэ ў Нясвіж на Старое Места да кузіна.

"Тая жылка авантурніцкага падарожжа прачнулася ў ім", - падумала я.

У Слаўкаве даведаўся, што яго даўняя нарачоная жыве цяпер у Маскве, часта прыязджае да дачкі, у Нясвіж.

Але каб замкнуць кола гэтай аповесці, то мушу сказаць, што аказалася, што тая нарачоная - гэта мая нават блізкая сваячка з боку дзядулі Вінцэнта, бацькі мамы.

Апошні раз бачылася з п. Зэнкам у Коле на могілках 6 жніўня ў дзень Перамянення Панскага, калі гэтыя могілкі тонуць у гладзіолусах, гэта святочны дзень .А таму на могілках, што ёсць там капліца пад назвай Перамянення Панскага. Людзей з'язджаецца болей, чым на Усе Святыя.

Дадам яшчэ малы каментар - у аўтобусе ў Нясвіж было некалькі чалавек "прышчэпленых", не "нашых" - яны былі вельмі заінтрыгаваны маім клопатампра п. Зэнка.

- Ці гэта пані свая?

А я на тое:

- Аддзячваю пану Зэнку за свежую, залацістую і пахучую салому, якой напаўняў нашыя сяннікі.

Глядзелі на мяне, як на вар'ятку, хто ж сёння прызнаецца ў тым, што спаў на саломе.

А я думаю, што спанне на саломе і салома ў ботах - гэта зусім іншыя рэчы, і лепш тое першае.

Думкі і ўспаміны дзяцінства, сібірскія пакуты, падмена радзімага дому на красовай зямлі не пакідаюць мяне… не толькі ў лістах да Евы ці Станіславы. Не раз напішу трохі вышэй… асабліва, калі знаходжуся недзе далей, далёка ад дому, ад Польшчы…

**Ліст у неба**

Любімая мама!
Знаю, што робіш цяпер,
напэўна, усё тое ж,
што тут на зямлі ахвотна рабіла,
як з ціхім напевам на машынцы шыла.

Бачу, як сядзіш пры залатой машыне,
татка нітку трымае,
бо цяжкая праца цябе чакае,
а ты трымаеш рукі на белай тканіне.
Тканіна незвычайная, нябесная,
сатканая з зорак і белых хмар,
тыя хмары са снежных гор
прынеслі тканіну для нязвыклага госця,
вітаць яго выйшлі ўсе, хто там ёсць,
бо мы вітаем яго на зямлі.
Угору рукі ўздымайце:
"Пан - мой пастыр". - спявайце.
Пашый, мама, прыгожую альбу
з роўнымі закладкамі,
а для Гжэшка - комжу з каронкамі
і скажы яму, няхай звоніць,
як на няшпорах гучна і радасна, як захоча,
бо прыйшоў да вас папа, наш ойча.
"Прыйду і я", - сказаў калісьці нам.
Пашукайце яму крышталёвы кіёк,
каб махаў вясёла,
калі быдуць кланяцца яму анёлы,
цешцеся, што маеце яго там.
Заўсёды табе, мама, казала,
што ў Пятра святога
Будзеш шыць нешта для выпадку такога.
Алелюя!!!

*Вікторыя. 4 красавіка 2005 г.*

**Над акіянам**

чым я ёсць, можа тым
засохлым лісцікам пальмы,
які зносіць вецер,

можа каменем, пакрытым
водараслямі перажыванняў і болю
і літасціва абмываным
прылівам акіяна,

а можа толькі зярняткам пяску,
якое трапіла ў самае сэрца…

"… чым ёсць чалавек, Божа,
што ты пра яго памятаеш…"

*Лос Крысціянас, 2008.*

**Да А. С. ліст н-р 1**

Ці ты тут са мной?
Калі не, то прыбудзь, мой Анёл Вартаўнік,
І прыправодзь дадому здалёк, як прывык.
Тут цёпла, квітнеюць гібіскусы,
Не чапаюць мяне ніякія злыя спакусы.
Пагрэйся на сонцы,
Стань нагой на пяску,

Няхай цябе ўсе бачаць ў яснасці бляску,
Ты такі прыгожы, выглядаеш годна,
Як бы не быў са мной на Сібіры галоднай

Няхай вецер з акіяна асушыць твае крылы,
А на іх застанецца мая малітва вялікай сілы.

Анёл Божы, вартаўнік мой,
Ты заўсёды пры мне стой,
Пільнуй маіх думак і слоў,
І па мяне калісь прыляці ізноў.
*Лос Крысціянас, сакавік 2010.*

**Да А. С. ліст н-р 2**

Анёле Божы, верны мой вартаўнік,
Зноў са мной у дарозе, як быў прывык.
Тут не Краснаярск на Енісеі,
Тут зусім іншы вецер вее
Сонца асвятляе постаць празрыстую,
Шаты маеш белыя, іскрыстыя.
Які ты прыгожы, радасці поўны
Пэўны, ты будзеш са мной да вясны
Не прыехаў са мной у вагоне, што ў кратах,
Каб сядзець у бядоце ў краі праклятым.
Не быў гэта таксама вагон для жывёлы,
У якім чуліся крыкі і плач наўкола.
Памятаеш, як прыходзіў да маёй мамы?
Цяпер адчыняеш перад ёй нябесныя брамы
І напэўна з ёй па зялёных нівах гуляеш,
Дзе татка мой і Гжэсяк ступае...

У гэта свята занясі ім аплатку,
Пашукай Гжэська, маму і татку
І скажы, што калі я іх спаткаю,
Разам весела ўсе заспяваем:

- Gloria in excelsis deo!

Ps. Скажы таксама маме,
Каб новую шату табе пашыла,
Бо тая ўжо даўно адслужыла.
Ужо ў Нясвіжы, як хадзіў па Паненскім,
Мела пабляклы колер нябескі,
Таму на свята пры Дзіцятку
Мусіць быць усё ў парадку.
Новая шата, залатыя сандалі,
А то старыя шмат нясвіжскай гразі зазналі.

Мой Анёле, мой вартаўнік любімы,
Прабач за прыдзіркі і кпіны.
Хачу, каб выглядаў выключна ва ўсім,
Як бы бедаў маіх не ведаў зусім.

Памятаю таксама, што ты заўсёды са мной
І мая малітва не будзе пустой.

Мучыць мяне толькі адно пытанне,
Як я адыйду, што са мной стане?
*Лос Крысціянас,*
*Божае Нараджэнне 2011.*

**Да А. С. ліст н-р 3**

Пазнаю цябе, гэта ты,
мой Анёл Божы, мой вартаўнік,
ледзь акіян свае брамы адчыніць на міг,
ты зноў тут,
бязважкім крокам ідзеш па грэбені хвалі,
вечна са мною блукаеш па далях,
прыходзіш ты з неба,
у новай шаце, сандалях новых,
у сонца праменях, як трэба,
ты малады адмыслова,
апошні раз бачыла на Паненскім,
а можа сядзеў на аблоках нябескіх.
Ах не, усё ж на Выгоннай ты быў
і там у шаце някідкай служыў,
са студні ваду нам падаваў,
якую старэнькім вядзерцам чарпаў.

Сёння над акіянам у прасторы празрыстай
нехта не бачыць фігуры іскрыстай,
але я на пяску побач сваіх
бачу, здаецца, сляды ног тваіх.

Сэрцам чую тваю я прысутнасць,
чуваць сэрца рытм і твой крок,
і маіх думак расходзіцца змрок.

... будзь тут са мной
і заўсёды пры мне стой
Анёле Божы, ахоўнік мой.
*Лос Крысціянас, студзень 2012.*

***Васіль Драгавец***

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны сповед*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**"За" і "Супраць"**

Раздумваю над папярэдне напісаным і бачу неабходнасць прадоўжыць гаворку аб "трансфармацыі", як любяць выказвацца сёння вучоныя людзі, сялянскага розуму за гады савецкага ўладання. Ужо не адзін год мы жывём у самастойнай краіне, таму рэльефней і глыбей разуменне адметкаў. Я ўсё выразней адчуваю сярод людзей майго ўзросту і старэйшых за мяне не тое што настальгію, а ўсё больш частыя позіркі ў мінулы савецкі час, усё больш параўнанняў. Чуецца: "Пры камуністах было не так...", "Райкам, калі што, дык бараніў чалавека, а цяпер куды пойдзеш...", "І кватэры, і бальніцы, і тэлефон, і вада, і пуцёўкі бясплатна людзям абыходзіліся пры камуністах..."

Так, жыццё стала іншым, непараўнальна змяніліся яго істотныя, сістэмныя высновы. Ёсць вялікія здабыткі, ёсць і непараўнальныя страты. Калі скласці спіс плюсаўды мінусаў савецкага ўладання, то могуць атрымацца цікавыя аналогіі. З аднаго боку, магутная дзяржава з ракетамі і атамам, з прыроднымі багаццямі і навукай, космасам і культурай, а з другога - бедныя людзі, прыгонная праца, закрытыя граніцы, адсталы, затурканы побыт... Аднак было ў гэтым побыце нешта, што цяпліла душу, змякчала прыкрыя нягоды ўладаў. У нашых мясцінах, дзе свежымі заставаліся ў памяці бацькоў польскія парадкі, адметнасць гэта вельмі кранала сялянскі розум.

Пра гэтую надзвычай важную частку тагачаснага вясковага побыту я крыху гаварыў у папярэднім раздзеле. Думаю, аднак, што сказаць трэба больш. Даволі прынцыповай яна ўяўляецца для разумення многіх "трансфарманый" і сённяшніх настальгій.

Я ўпамінаў раней пра неаднаразовыя гутаркі з бацькамі, калі Міхаіл Гарбачоў, тагачасны кіраўнік СССР, распачаў рэформы пад назвай "перабудова". У газетах, па радыё і тэлебачанні бясконца выступалі нейкія палінялыя людзі з жудасна-агрэсіўнай крытыкай камуністаў, урада, сваёй краіны. Слухаючы гэтыя знявагі, бацька, нечакана для мяне, бо я не адзін раз чуў, як ён абураўся і калгасным ладам, і "смершаўцамі" (супрацоўнікамі органаў ваеннай контрразведкі ў вайну), і расійскімі энкавэдзістамі пасля фронту, у арміі, выказаўся:

- За многае можна вінаваціць камуністаў, але за адно трэба пакланіцца ў ногі - за навуку дзеля сялянскіх дзяцей. К.аб не савецкая ўласць, то ні ты, ні Толя, ні ўгледзелі б ніякіх універсіцетаў ніколі! Гной бы з хлява цягалі і за кабылаю хадзілі з раніцы да вечара... Дзе б вы былі, каб ня гэтая ўласць?!

Не аднойчы пра вучобу заводзіла гаворку маці.

- У школу то хадзілі пры паляках, ды сядзелі



***Ад фальварка, дзе стаяла школа, застаўся толькі бярозавы гай***

*Бацькава пасведчанне аб сканчэнні пачатковай "клясовай, публічнай, усеагульнай" трохгодкі пры паляках 1934-1935 гг.*

*Пасведчанне. Зваротны бок*

па тры-чатыры гады ў адным класе, бо ня было куды дзецям дзецца. Адзін настаўнік на ўсіх...

Для большасці сялянскіх дзяцей вучоба ва Усходніх Крэсах канчалася пачатковай трохгодкай. Была такая "клясовая, публічная, усеагульная школа" і ў Хадатавічах. Захавалася бацькава пасведчанне аб вучобе ў гэтай школе ў 1934-1935 гадах. Цікавейшы дакумент! Калі не памыляюся, то ўжо ў трэцім класе ён вучыўся даволі шырокаму колу прадметаў. На першым месцы стаялі рэлігія, польская мова. Далей арыфметыка з геаметрыяй, прырода, геаграфія, гісторыя, малюнкі, спевы, ручная праца і фізкультура ("руханкі"). Звяртае на сябе ўвагу запіс аб мовах: польская і руская, а ў дужках - украінская. Беларускай як бы і не было. Польская, руская, украінская... Ніякай Беларусі няма. Ёсць толькі Усходнія Крэсы...

- Па сёлах былі адно начальныя школкі, - працягваў гаворку бацька. - Далей вучыцца, значыць, у сямігодку трэба ісці. А яна ў Даматканавічах, сем кіламетраў туды зранння і сем назад пасля абеду. Гэта з Хадатавічаў, а з Малаедаў хадзілі ў Сноў. Тожа няблізкі свет. Папробуй восенню ў гразь ці зімою ў снег і мароз пахадзі! Дадому прыцягнешся пад вечар ні жывы, ні мёртвы...

Пакутным, а часцей за ўсё недасягальным быў шлях у навуку для сялянскай моладзі.

- Кварціру зняць - бацькі не мелі грошай. Вучылі дзяцей палякі, ды хто з багацейшых беларусаў. - Мне то хацелася вучыцца. Мучыўся, але ж хадзіў праз лес кожны дзень у Даматканавічы ў сямігодку. Ды як вучыцца, калі маці адна. Петрык пакойны асабліва не стараўся, каб мяне вывучыць. Каб бацька быў жывы, другое дзела... А так - якая навука?! Чуць Богу душу не аддаў у адну зіму...

З хадатаўскага, бабы Наташы, хутара да Даматканавічаў трэба ісці кіламетры са два праз лес, потым кіламетр па ўскрайку і яшчэ кіламетры з тры цераз поле, ды з кіламетр па вёсцы. І так штодня к васьмі гадзінам раніцы. Час з летняга на зімовы не пераводзілі. Па-сучаснаму атрымліваецца, што паспець трэба на заняткі да сёмай гадзіны. Хлапчуком, толькі мінулася дзесяць гадоў, ён падымаўся ў пяць раніцы і скрозь цемру, зімовую завіруху, мароз ці восеньскую слоту, а бывала, як сам расказваў, што і пад воўчае скавытанне прабіраўся ў Даматканаўскую сямігодку. Адзін раз у мяцеліцу моцна стаміўся, прамок навылет ад поту,

МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ

БССР

ПАСВЕДЧАННЕ

Гэтае пасведчанне выдадзена Драгаўцу Нікалаю Васілевічу
(прозвішча, імя і імя па бацьку)
нарадзіўшымуся ў 1925 годзе, у тым, што ён (яна) навучаўся ў сямігадовай школе Ільскай моладзі в. Даманаўкавічы, Клецкага р-на, Мінскай вобл.
(вёскі, горада, раёна, вобласці)
скончыў поўны курс гэтай школы і выявіў пры выдатных паводзінах наступныя веды:

| | |
|---|---|
| па роднай мове і літаратурнаму чытанню | чатыры |
| па рускай мове і літаратурнаму чытанню | тры |
| па арыфметыцы | тры |
| па алгебры | чатыры |
| па геаметрыі | тры |
| па прыродазнаўству | чатыры |
| па гісторыі | чатыры |
| па Канстытуцыі СССР | чатыры |
| па геаграфіі | чатыры |
| па фізіцы | чатыры |
| па хіміі | тры |
| па замежнай мове (Нямецкай) | тры |

№ 88223 15 мая 1955 г.

Дырэктар школы Настаўнікі:

МИНИСТЕРСТВО ПРОСВЕЩЕНИЯ

СВИДЕТЕЛЬСТВО

Настоящее свидетельство выдано Драговцу Николаю Васильевичу
(фамилия, имя и отчество)
родившемуся в 1925 году, в том, что он обучался в семилетней школе Ильской молодёжи д. Доманковичи, Клецкого р-на, Минской обл.
(села, города, района и области)
окончил полный курс этой школы и обнаружил при отличном поведении следующие знания:

| | |
|---|---|
| по родному языку и литературному чтению | четыре |
| по русскому языку и литературному чтению | три |
| по арифметике | три |
| по алгебре | четыре |
| по геометрии | три |
| по естествознанию | четыре |
| по истории | четыре |
| по Конституции СССР | четыре |
| по географии | четыре |
| по физике | четыре |
| по химии | три |
| по иностранному языку (немецкому) | три |

№ 15 мая 1955 г.

Директор школы Учителя:

АТ 02023. 18/III-55 г. Зак. 1542. г. Минск, тип. «Красный Печатник». Тираж 155 000

*Сямігодка выратавала ад смерці*

а ў школе астудзіўся. Імгненна падхапілася цяжкае запаленне лёгкіх.

- Думалі ўсе, што памру, - прыпамінаў бацька. - Качаўся ў гарачцы з нядзелю бяз памяці. Гаварыў абы што, але акрыяў, арганізм здаровы быў малады.

З тае хваробы ў бацькі засталіся адмеціны. Заўсёды, калі праходзіў рэнтген ці калі вопытныя дактары выслухоўвалі лёгкія, то пыталіся: відаць, дзядзька, ты моцна хварэў на запаленне ў маладосці?..

Праглі сялянскія дзеці вучобы, не выказаць словамі таго жадання. Бацька ўсё-ткі скончыў сямігодку ў саракавым годзе. Сямігодка і выратавала яго ад смерці на фронце, бо, як больш адукаванага, не адправілі ў пяхоту, а ўзялі ў артылерыю назіральнікам-карэкціроўшчыкам агню. Вясковыя хлопцы, што патрапілі ў пяхоту, бадай, усе да аднаго паляглі, не вярнуліся дадому.

...Недзе перад летам па-гарадскому апрануты мужчына з партфелем у руках зайшоў на наш надворак на новым паселішчы. Звычайна так выглядалі зборшчык падаткаў, што два разы ў год наведваўся ў хату "па нядоімку", а яшчэ следчы з Нясвіжа, што з чорнаю скураною сумкаю прыязджаў на ровары ў вёску, калі Васька Клаўдзікаў пырнуў нажом чалавека на танцах. Але на гэты раз да нас завітаўся не следчы і не падатковы інспектар, а настаўнік са школы. Бацькі ажно сумеліся, не ведаючы, як падалікатней абысціся з такім паважаным чалавекам. Настаўнік для іх, як і для ўсіх вясковых людзей, лічыўся чалавекам вышэйшага гатунку, фігурай недасягальнай і недатыкальнай. Вялося гэткае ад мінулага. У сялянскім розуме настаўнік - чалавек, прысланы "гасударствам" вучыць дзяцей; ён валодае навукамі, што для селяніна раўназначна валоданню таямніцамі; яму дзяржава плаціць вялікія грошы, ён прыстойна адзеты і забяспечаны, ён можа напісаць скаргу і абараніць безабароннага мужыка. Таму настаўніка паважалі, цанілі, слухалі і кланяліся ў пояс. Гэткія норавы я яшчэ крыху застаў.

Вось такі чалавек сам прыйшоў да нас у хату. Прысеў, дастаў ручку, адкрыў сшытак, спытаў у бацькоў, ці ведаюць яны, што ў верасні іх сын, Драгавец Васіль Мікалаевіч, павінен пайсці ў

школу, у першы клас. А калі ведаюць, то трэба купіць яму буквар, сумку, яшчэ кніжкі, аловак, ручку з пяром, чарніль-ніцу... Хлопцу трэба таксама і адзецца для вучобы...

Бацькі з анямелымі тварамі слухалі настаўніка, яны і самі ведалі, што я пайду ў школу пад восень. Ды толькі не ў тым справа, а вось што не забыліся пра іх, сялян, прыпомнілі, прыслалі настаўніка ажно дадому - вось што найбольш цяпліла іх розум, поўніла прыемнымі думкамі. "Усё-ткі эта ўласць дзяцей вучыць, не тое, што палякі..."

Маці зазбіралася ў Нясвіж: трэба ж адзець хлопца... Ездзіла яшчэ да дзя-дзькі Вечыка ў Баранавічы, "каб памог якім рубельчыкам, ды мо ў Баранавічах яшчэ куплю што лепшае, вялікі ж го-рад...". З палатнянага скрутка былі вы-няты беражліва прыхаваныя каляро-выя палоскі савецкіх грошай. Іх было зусім няшмат, некалькі дваццаціпяцірублёвак, здабытых катаржнаю працаю. Я таксама, нібы які скарб, разглядаў гэтыя фіялета-вага колеру паперкі з партрэтам лысава-тага дзядзькі ў кружочку; дзівіўся, як яны шапочуць, патрэскваючы ў бацькавых руках, і яшчэ ад іх ідзе зусім незнаёмы пах.

- Ну то што, Коля, я вазьму гро-шы..., - нясмела вымавіла маці.

- Бяры, бяры! Трэба ж купляць хлопцу ўсё...

Яна вярнулася з паездак прыўзня-тая. Купіла мне чаравікі, шкарпэткі, бя-лізну, а самае радаснае - гэта "бархатны касцюмчык". Бархатам на вёсцы называлі тое, што зараз вельветам. "Касцюмчык", куртачка і порткі мелі насычаны цёмна-зялёны колер, акуратна падыйшлі да маёй фігуры. Дарэчы, маці заўсёды купляла адзенне сабе, нам з братам, бацьку без усялякай прымеркі, "на вока". І ані разу не памы-лілася.

Да ўсяго набытага багацця была яшчэ куп-лена школьная фуражка колерам пад сівы попел, з чорным бліскучым казырком, чорнаю стужкаю-палоскаю і залацістаю какардаю. Такія "форменкі" насілі гарадскія школьнікі, на вёсцы тое было ў навіну. Фуражка, касцюм і чаравікі зрабілі мяне не-пазнавальным. Бацькі жахнуліся з радасці ад майго выгляду: такая спрытная атрымалася карцінка.

Пазней, успамінаючы той першы збор у шко-лу, маці не раз казала:



***Пачатковец "у бархатным касцюмчыку" і фуражцы. З родным братам Анатолем (пасярэдзіне) і стрыечным Васілём. 1959 г.***

- Ня было раўні табе на сяле, так хораша я цябе прыбрала ў першы клас... Дзівіліся мы з баць-кам, як ты стройненька пашыбаваў, такі харошы, праз Любін двор у Якубавічы, у школу...

Зразумела, чаму дзівіліся. Сялянскія дзеці ў пасляваенную галадуху не ведалі купленых у краме адзёжак. Насілі перашытыя вясковымі краўчыхамі бацькоўскія лахманы: палітко "з шынялка", куртачку ці камізэльку з бацькавага трафейнага пінжака, прынесенага ў салдацкай торбе з Германіі, кірзавыя ці гумовыя боты... А тут зусім па-гарадскому пры-бралі хлопца - бацькі самі не чакалі такога відовіш-ча. Таму і пераліваліся радасцю іх твары ад майго далікатнага і нечакана-ўрачыстага выгляду.

Некаторыя "гарушчыя", так казалі на зусім бедныя сем'і, выпраўлялі дзяцей у школу ў кірзавых ботах і фуфайках. Зараз такія "ўборы" можна па-



***Першая пасляваенная школкаў будынку пана Смоліча. Хадатаўскія дзеці з настаўніцай Валянцінай Паклонскай. Прыблізна 1957-1958 гг. З сямейнага архіва М.М. Каўшаля***

бачыць толькі ў кіно, калі паказваюць зняволеных людзей. Дый тое яшчэ добра. Здаралася, што нагул не пускалі дзяцей у школу, бо адзець няма чаго. Тады ў сям'ю ехалі дырэктар ці настаўнікі, хто з сельсавета, выпісвалі грошы, давалі якія рэчы, настойліва пераконвалі бацькоў вучыць дзяцей. Ні пры паляках, ні раней пры расійскім цараванні такога не было, каб улады непакоіліся пра навуку мужыцкую, каб пад прымусам дзяцей у школу цягнулі.

...Яскрава помніцца першы ў жыцці школьны ранак. Уначы перад тым не спалася. Як жа, заўтра нарэшце ў школу, заўтра першае верасня! Залацяцца хата і двор пад цёплымі пранізлівымі промнямі ружовага сонейка. Ні ветрыку на вуліцы; пахне яечняю і бульбяным камяком у доме. Я бадзёра падхапіўся, хуценька паснедаў, і вось ён - момант найвялікшага шчасця: прыбіраюся ва ўсе свае новыя ўборы. Чаравічкі, каснюм, фуражка...

Во, хлопцы загаманілі на вуліцы, ідуць на двор, як і было дамоўлена напярэдадні. Гэта старэйшыя за мяне вясковыя, мае сябрукі - Толік Вінкаў, Васька Костусяў, Лёнік Верчын, Мішка Мішаў. Я стромка выскачыў на двор і, не ведаючы, як трэба хадзіць у такіх адзежках, нібыта маладзенькі салдацік, выпрастаў рукі ўздоўж спіны, закрочыў амаль шыхтовым за хлопцамі насустрач сваёй новай далі. Праз маленькае засмаленае вакенца на кухні бацька і маці пільна ўглядаліся мне ўслед...

Школка пачатковая, чатырохкласная, мясцілася ў будынку пана Смоліча ў Якубавічах. Зараз няма ўжо ні будынка, ні саміх Якубавічаў. Панскі маёнтак быў дабротным драўляным домам, як раней казалі, "у два канцы". Гэта значыць, дзяліўся на два процілеглыя ўваходы ці на адзін уваход, але на дзве роўныя палавіны. Так было і тут. За дзвярыма пачынаўся калідор, абапал якога меліся два ёмкія пакоі. У канцы калідора пару невялічкіх пакойчыкаў і выхад на гаспадарчы ўнутраны дворык. У пакойчыках жыла сям'я настаўнікаў Бурновічаў, муж і жонка, а ў вялікіх пакоях - класы для вучняў.

З раніцы мы яшчэ чулі пах смажаніны з настаўніцкіх пакояў і ажно трымцелі ад жадання зазірнуць туды, у настаўніцкае жытло. Як яны там жывуць, гэтыя адукаваныя таямнічыя людзі?! Пэўна ж, у іх усё інакш, чым у нашых вясковых хатах: і ежа, і адзенне, і абутак; размовы, побыт, настаўніцкія дзеці... Настаўнік для нас, сялянскіх дзяцей, быў абсалютна загадкавай з'явай. Як і ўсё іншае, што было за лесам і балотам, за купчастымі вязамі маледаўскага хутара і дарогай на выселкі, на Нясвіж і Баранавічы, на Брэст і Мінск...

Памятаю, як я быў здзіўлены, калі настаўнікі, муж і жонка Бурновічы, садзілі бульбу на Чарнабайчыкавым пляцы, дзе яны здымалі пакой пасля пераезду пачатковай школы з Якубавічаў у нашыя Хадатавічы. Настаўнік сам ішоў за плугам, пакрыкваў на каня, а настаўніца ўслед за ім па баразне з кошыкам у руках. Нібыта аслупянелы, глядзеў я на гэта і не верыў сваім вачам. Сабраліся вясковыя: то адзін ідзе ды спыніцца, то другі. Потым некаторыя мужчыны падхапіліся памагаць, падыйшлі жанчыны. Але доўга не сціхалі размовы: як гэта атрымалася, што настаўнікі картоплю пачалі самі саджаць... Ніколі раней не было такога - ні пры паляках, ні пры рускіх. Настаўнік важней за пана лічыўся, а здаралася, што і паны перад ім шапку здымалі...

Мае першыя школьныя дні запамяталіся незвычайным хараством і ўрачыстасню. Настаўнік Пятро Рудзешка строга рассадзіў нас за парты; яны хоць і заляпаны дзе-нідзе чарнілам, але бялеюць светлаю фарбай і здаюцца казачнымі. Пачынаецца ўрок. Настаўнік расказвае, калі на ўроку трэба падымаць руку. Потым тлумачыць першую тэму і задае пытанні. Мае "калегі" ўцягваюць галовы ў плечы. Ён звяртаецца да Анціка Фросінага, падымае яго, паўтарае яму сваё пытанне. Анцік, здаровы хлопец з гарушчай нашай хадатаўскай сям'і, глядзіць на настаўніка, як каменны істукан на неба, чырванее ад напругі, круціць туды-сюды вачыма. А мне дык усё зразумела, чаго дапытваецца настаўнік, і я стромка выцягваю руку ўверх. Настаўнік слухае адказ, хваліць мяне. Ад радасці моцна б'ецца сэрца, хочацца падскочыць да неба ці ўзляцець на аблокі...

...Перапынак. Мы гуртам вывальваемся на двор. Цёплае сонейка, яшчэ зялёная ад лета трава абапал сцежак. А вакол школы галоўнае цуда - арэшнікавы гай, цэлы абсяг без канца і краю. Хутчэй туды: схавацца, даганяць адзін другога, весяліцца і набегацца да стомы за кароткія хвілі паміж урокамі.

Арэшнікавы гай пасадзіў пан Смоліч. Перад прыходам бальшавікоў ён аддаў сваю зямлю сялянам з Коханавічаў, а сам добраахвотнікам пайшоў у польскую армію, бо немцы ўжо рвалі Польшчу на кавалкі танкамі і руйнавалі самалётамі. На вайне згубіўся яго след. Праўда, у Нясвіжы засталіся дагэтуль пляменнік і радня. Кажуць, спраўныя людзі.

Дзядзька Сашык Твароўскі, у нядаўні мой прыезд да маці расказаў пра размову, што мелі яго бацька і хадатаўскія мужчыны з панам Смолічам. Яны наслухаліся казак пра заможнае жыццё сваіх суайчыннікаў за бальшавікамі ва Усходняй Беларусі, рашылі сказаць аб тым пану: "От дзе, паночку, людзі жывуць, ня тое, што мы тут..." Пан доўга павучаў сялян, тлумачыў настойліва: "Ня верце ні аднаму іх слову, бо можаце жыццё страціць, калі пойдзеце туды..."

...Мае шчаслівыя школьныя дзянькі аднак нечакана перарваліся. Праз месяц ці што пасля пачатку вучобы здарылася бяда. Забалела ў жываце. Спакваля, а потым усё мацней. Паднялася тэмпература, я курчыўся ад болю, а бацькі не ведалі, што рабіць. Бо дактары ў Нясвіжы, далёка, хто давязе да іх. Так прайшоў адзін, другі дзень. Па вясковай спрадвечнай завядзёнцы думалі пройдзе, пабаліць ды перастане. Мо з'еў што нядобрае. Але боль нарастаў, стан мой горшыўся.

"Трэба, Коля, дактароў, шукаць. Нічога ня будзе, корчыцца хлопяц з болю", - у роспачы казала маці. Бацька кінуўся на канюшню, ды Лаўрын, конюх, не даў каня, спаслаўшыся на тое, што трэба капаць картоплі. Засмучаны бацька палажыў мяне ў самаробную каляску, якую перад тым заслаў коўдрамі, і павёз у Даматканавічы да доктара Страцкевіча, якога трошкі ведаў.

І зараз у мяне перад вачыма тая наша вандроўка. Бацька моцна, абедзвюма рукамі, трымае жэрдку-аглоблю, на якой месціцца драўлянае карыта са мною, ляжачым пад коўдрай на саламяным сянніку. Ён упіраецца як толькі мае сілы, стромка коціць каляску па лясной дарозе. Я ляжу на спіне, вачыма да неба, і дзіўлюся, бо мо ў першы раз у такім стане назіраю, як вецер шугае вершаліны бяроз, як плывуць па небе аблокі, як сінеюць далёкія хвоі і дубы... Стракоча па лясной сцежцы самаробная каляска, абцяты жалем ды смуткам бацькаў твар...

Доктар Страцкевіч, толькі памацаўшы жывот, адразу зразумеў маю хваробу. "Апендыныт, і ўжо запознены. Тэрмінова ў бальніцу, на аперацыю..." Зноў бацька, намагаючыся да салёнага поту, шпарка пацягнуў мяне праз лес. Дома, млоснага, пакінуў з маці і пабег шукаць што, каб адвезці ў бальніцу ў Нясвіж. На шчасце патрапіў на добрага чалавека, на Алеся Гапановіча з Гусакоў, кал-

гаснага шафёра. Той збіраўся на сваім "газіку" ў Нясвіж па торф. Шафёры тады - людзі важныя, перад імі гнуліся, бо машын толькі дзве ці тры на ўвесь калгас. Алесь Гапановіч, таксама франтавік, паслухаў бацьку. Яны давезлі мяне ў бальніцу непрытомнага. Хірург Мікалай Мікалаевіч Падгайскі адразу загадаў класці на аперацыйны стол, бо апендыцыт перайшоў у перытаніт, загноены адростак сляпой кішкі разарваўся, надзеі на выратаванне амаль не было.




***Сям'я ўрачоў Падгайскіх з Нясвіжа. Хірург Мікалай Мікалаевіч і кардыёлаг Вольга Дзям'янаўна. Фота з кнігі "Памяць. Нясвіжскі раён"***

Праз гады толькі я зразумеў, наколькі Гасподзь Бог аказаўся да мяне міласэрны. Бо пашанцавала, што якраз дзяжурыў у тую гадзіну ў бальніцы сам Падгайскі - майстар, нястомны выратавальнік людзей, шчыры і добры чалавек. Ён мог і не адважыцца на аперацыю - інфекцыя пранікла ў жывот. Але рашыўся, зрабіў дакладна сваю справу, спыніў інфекцыю. Колькі ўдзячных беларусаў засталіся жыць, дзякуючы цудоўнаму чалавеку, хірургу-майстру Мікалаю Мікалаевічу Падгайскаму! З хваляваннем прачытаў у кнізе "Памяць. Нясвіжскі раён" аб ім, удастоеным ордэна Леніна за сваю нястомную працу. Зараз шырока вядома імя прафесара-мікрахірурга Уладзіміра Мікалаевіча Падгайскага. Гэта сын нясвіжскага доктара Мікалая Падгайскага.

Два чалавекі, хірург Мікалай Падгайскі і шафёр Алесь Гапановіч, асвечаны вялікай пажыццёвай удзячнасцю майго сэрца. Яны даравалі мне жыццё, а маім гаротным бацькам надзею на будучыню.

Месяц ці нават паўтара я правёў у бальніцы. З тыдзень у паўпрытомным стане, а пасля амаль прывязаным да ложка, бо парываўся бегаць па калідоры. Бацькі знемаглі ад клопатаў. Толькі паўгода малодшаму брату, работа ў калгасе, свая гаспадарка, куры, свінні, карова. Каб даехаць да мяне ў бальніцу, трэба пехатою бегчы на сноўскі гасцінец пад Жанкавічы кіламетраў пяць, ды яшчэ ўбіцца ў аўтобус ці галасаваць "папутку", калі здарыцца. Стаяла восень, гразюка, лілі халодныя дажджы - ні дарог, ні машын. Як яны, бедныя, вытрывалі?! Згадзілася памагчы баба Наташа. Мо з месяц яна, пакінуўшы сваю гаспадарку, пражыла са мною ў палаце. Маці ўсе гады гаварыла: "Усё прашчаю Наташы, усе мае абіды і тое, што так нядобра да мяне адносіліся, калі маладою прыйшла да іх у хату, за адно - за тое, што яна цябе глядзела ў бальніцы..."

Дактары не раілі адпраўляць мяне ў школу пасля такога цяжкага выпрабавання. Трэба, каб загаілася рана, каб не разышоўся вялікі разрэз на жываце, бо ў школе дзеці сцерагчыся не будуць, а яшчэ трэба пехатою дабірацца да Якубавічаў, далекавата, а тут зіма набегла, завірухі, маразы. Не вагаючыся, бацька і маці згадзіліся з дактарамі.

Было нядобра, хацелася ў школу. Сумна аднаму без дзяцей. І тут адбылася неспадзёўка. За два ці тры тыдні да аперацыі, што хадзіў у школу, я навучыўся складаць з літараў словы і пакрысе чытаць. З цікавасцю рабіў гэта і ў бальніцы, разбіраючы надпісы на скрыначках ад падарункаў, што прывозілі часам бацька ці маці. Дасюль у памяці маленькі завадны матацыкл, што купіў бацька, і прыгожая скрынка ад яго. Пасля бальніцы, калі вярнуліся дадому, стала зусім самотна, поўная адзінота. Сябры-таварышы ў школе. Маці і бацька на працы. Нудота, ды і толькі! На лячэнні і то было лепей. Ратуючыся ад смутку, пачаў прыглядацца да кніжак. Забяруся на цёплы чэрань і чытаю да знямогі. Старонку, дзве, а пасля і дзясяткамі пайшло. Не адарвацца. Кніжкі сталі і ратаваннем, і захапленнем. У тым ліку школьныя падручнікі. Прайшоў іх па некалькі разоў. Маці завіталася да настаўнікаў Бурновічаў, што кватаравалі ў Чарна-

байчыкавай хаце - у іх мелася невялічкая бібліятэка. Кажа: перачытаў хлопец дома ўсе кніжкі, можа, вы што дасьце яму чытаць... Прыязныя былі людзі, адарылі яе цэлым стосам: казкі, розныя апавяданні, некалькі дзіцячых аповесцяў. Гэта было цудам. Мой свет напоўніўся захапляльнымі вобразамі і летуценнямі. Разам з кніжнымі героямі цярпеў пакуты, радасці, перамогі, вандраваў і трапляў у розныя прыгоды. Чытаў бясконца, нават начамі пад коўдрай, падсвечваючы ліхтарыкам. Пасля сам хадзіў на кватэру да настаўнікаў, хоць і саромеўся, але ж прасіў кніжак. Так праляцеў гэты нялёгкі і такі плённы год. З кніжкамі я болей не развітваўся.

Надышло новае лета, а з ім і навіна. Школу ў Якубавічах закрываюць, бо дзяцей зашмат з розных вёсак. Будзе школа пачатковая тут, у нашых Хадатавічах. Адразу, як скончыліся заняткі, хадатаўскія мужчыны пачалі разбіраць панскі дом і за тры месяцы перавезлі яго, паставілі на новую падмуроўку ў вёсцы. Да пачатку верасня ўсё было гатова, вымалявана і вымыта, нават печ зляпілі і калодзеж выкапалі. Трымцела ведаць, а хто ж нас будзе тут вучыць? Бурновічаў перавялі ў другое месца. Аказалася, што к нам прызначылі настаўніцу, якая яшчэ вучыла маю маці ў Малаедах. Яўгенію Уладзіміраўну Ліпскую.

Чорнавалосая статная жанчына, яна прыехала ў нашыя Хадатавічы з дзвюма дзяўчынкамі-дашкалятамі і засялілася ў невялічкі пакойчык у новым школьным будынку. Туалет на вуліцы, вада з калодзежа, печ на дровах. Магазіна ў вёсцы няма, па хлеб трэба ісці ў Казлы, няблізка, кіламетры са тры... Такая доля ў тагачасных сельскіх настаўнікаў. Але нягледзячы на цяжкі побыт, Яўгенія Уладзіміраўна старалася навучыць нас усяму, што патрабавала праграма. Навука ў мяне пайшла добра, і я з задавальненнем хадзіў на заняткі. А некаторым трохі даставалася. Вясковыя дзеці былі забітыя, ніхто ў руках не трымаў кніжкі перад школай, бацькі ў вечным занятку, у бясконцай рабоце. На першых уроках многія паняцця не мелі, чаго ад іх дабіваецца настаўніца. А яшчэ шуткавалі, бывала, смяшылі адзін другога ці падначвалі тупейшых. Настаўніца не трывала, успыхвала як порах. Зрывалася на покрык, а калі-нікалі брала лінейку і лупіла па руках ці нават магла ўхапіць за вуха альбо за чупрыну. Гэта даходзіла да бацькоў, некаторыя хадзілі ў школу і сварыліся. Яна таксама перажывала, бо прасочваліся аб тым чуткі да яе начальства.

Злосць звычайна не мае літасці, асабліва сярод прыгнечаных і забітых людзей. У сяле "акрысіліся", як гаварыла маці, супраць Яўгеніі Уладзіміраўны, хонь яна была спраўным педагогам і неблагім чалавекам. Чамусьці ніхто не прымаў да ўвагі, што ў яе заўчасна памёр муж, на руках засталося двое маленькіх дзяўчатак, што былі яшчэ дзеці ад першага замуства, што яна не мела ні свайго вугла, ні прытулку-пераводзілі шторазз вёскі ў вёску...

Мне і зараз вельмі прыкра ад гэтых думак пра Яўгенію Уладзіміраўну і пра яе лёс. Ужо даўно недзе жывуць сталымі людзьмі яе дзеці, блізняты Кіра і Каця, сын Жора, што скончыў Саратаўскі юрыдычны інстытут; стаіць абшарпаная і кінутая людзьмі наша школка ў Хадатавічах, няма і следу ад былога жыцця, а ў маім сэрцы жыве дакор. Бо і я, калі паступіў ва ўніверсітэт, стаў камсамольскім начальнікам, бываючы ў бацькоў, праходзіў міма настаўніцкага пакойчыка, сустракаўся мімаходзь з настаўніцай.

Ёсць рэчы ў жыцці, якія ніколі не вернеш, і будзеш шкадаваць аб сваіх учынках, і каяцца сам перад сабою - ды позна, нічога не зробіш. Здаецца, гэта так зразумела, але ж як цяжка даецца нашаму розуму.

Выбачайце мяне, паважаная мая першая настаўніца! Больш нічога зрабіць немагчыма, як толькі гэта - пасля смерці папрасіцьу Вас прабачэння...

Чатыры пачатковыя класы я правучыўся ў Яўгеніі Уладзіміраўны Ліпскай. Цётка Ядзя, бацькава родная сястра, рабіла ў школе прыбіральніцаю, казалі па-вясковаму: тэхнічкаю. І было мне там вельмі ўтульна. І настаўніца мяне не біла лінейкаю, і навука ішла лёгка ды з цікавасцю. А на другі год у школе сталі даваць дзецям навялікім перапынку па конаўцы чаю і па аднаму салодкаму аўсянаму пячэніку. Якое гэта было замілаванне! Ніхто з нас гэтых пячэнікаў раней не каштаваў. Цётка Ядзя прынаравіцца і суне мне ў кішэню яшчэ адзін пячэнік неўпрыкметку, мо за таго, хто не прыйшоў у школу. Я берагу яго ўсе ўрокі, чую яго пах, чую, як ён грэе мне калена праз картовыя портачкі, і чакаю запаветнага моманту адламаць хоць драбнічку ды ў рот...

Наша настаўніца была матэматыкам, хоць вяла і ўсе астатнія прадметы, але па матэматыцы дала нам вельмі добрыя веды. Калі пасля чатырохгодкі я пайшоўу пяты клас у сярэднюю школу ў Казлы, то мая падрыхтоўка здзівіла настаўнікаў-прадметнікаў. Але то быў новы прыпынак на шляхуў вялікі сусвет.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Станіслаў Суднік***

# Сейлавічы:
# *пад скрып стагоддзяў*

***1000-годдзю Сейлавіч прысвячаецца***

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумарф.)*

На ўездзе стаіць шыльда **“СЕЙЛАВІЧЫ”**, строга на беларускай мове. Адзін раз нехта ўмудрыўся павесіць на расейскай, то вісела колькі месяцаў, пакуль людзі не папрасілі калгаснае кіраўніцтва паспрыяць яе замене на беларускую. Шыльда павінна абазначаць, што населены пункт, за ёю называецца **Сейлавічы**. Што да тыпу, то на сёння гэта аграгарадок, але так было не заўсёды.

Тутэйшае насельніцтва традыцыйна называе Сейлавічы сялом. А ўжо сяло Сейлавічы дзеліцца на ўласна Вёску (або Рускую Вёску), Засценак і пасёлкі. Пасёлкі маюць жартоўныя назвы, але я іх прыводзіць не буду, бо гэтыя назвы няўстойлівыя і ўжываюцца сяды-тады дзеля смеху, а афіцыйна кожны пасёлак - гэта вуліца.

Даўней Сейлавічы існавалі, як некалькі населеных пунктаў. На карце 1929 года нанесены **засценак Сейлавічы** (121 хата), **вёска Сейлавічы** (114 хатаў), **засценак Ліпніцкія** (17 хатаў), **лясніцтва Вінклераўшчына** (6 хатаў) і **некалькі масіваў хутароў з назвай Сейлавічы**

На савецкіх вайсковых картах 50-х гадоў, з якімі мне даводзілася працаваць, былі таксама нанесены асобна **вёска Сейлавічы**, **засценак Сейлавічы, хутары Сейлавічы, Ліпніцкія і Вінклераўшчына.**

Вёска Сейлавічы ў асноўным была праваслаўная, засценак Сейлавічы ў асноўным быў каталіцкі, хутары былі ўсялякія, пасёлкі мешаныя, але па-большасці праваслаўныя.

Старажытная мяжа паміж засценкам і вёскай праходзіла па нізіне, ад якой зараз засталася канава і дзе стаіць аўтобусны прыпынак ***(каля Ярмака)***. На працягу 20-га стагоддзя гэтая мяжа значна размылася.

Сейлавічы стаяць у чыстым полі, даволі далёка ад лесу (км 3), на перасечанай мясцовасці. Раней тут прыдатныя да жыцця пагоркі чаргаваліся з балотамі. Зараз пасля меліярацыі ўзвышшы чаргуюцца з нізінамі. Але і тыя, і тыя сёння – гэта сельскагаспадарчыя палеткі.




***Уезд у Сейлавічы з затурэнскага боку. Лета 2022 г.***

І нарэшце, абышоўшы адзін раз вакол Сейлавіч па дальняй дузе, пазней абыдзем і па бліжняй, трэба паспрабаваць прыступіць да найцяжэйшай справы разглядзець паходжанне назвы сяла Сейлавічы.

З маленства вядома паданне такога кшталту: “Прывёў князь людзей на гэтае месца. Паказаў у адзін бок на поле, а ў другі на возера (пазнейшае балота) і загадваў старэйшаму: “Тут сей, а тут лаві”. Так і выйшлі “Сейлавічы”.

Падтрымлівае легенду і верш Віктара Дземеша ў маёй грунтоўнай рэдакцыі.

**Сейлавічы сеюць хлеб**

Даўно ступеў іржавы серп,
І памяць булькнула ў тарфянку,
Няма ўжо больш даўнейшых верб,
І не чакае Яся Янку...
.
.. Вунь Сейлавічы сеюць хлеб, -
Глядзеў князь Радзівіл ад замка.

Тут ласка вырасце з дабром,
Як іх з душой пасееш, дружа,
Я адчуваю час нутром,
Я ад гадоў знямогся дужа.

Зайду ў спакойныя двары
І абдымуся, з кім папала,
І Бог здаволены ўгары
З мяне пацешыцца нямала.

Жыве на вёсцы даўніна,
Былое помняць яе людзі,
Нясвіжскай славы старана,
Яна такой і далей будзе.

... Вунь Сейлавічы сеюць хлеб, -
Глядзеў князь Радзівіл ад замка...
... І ўспамінае ржавы серп
Сваіх і Ясечку, і Янку.

З'яўлялася і паданне кшталту: *"Жыў тут нейкі Сейлавіч…"*. У кнізе "Міншчына ў легендах і паданнях", Мінск, "Беларусь" 1998 г. прыведзена легенда пра Сейлавічы, што быццам бы тут нейкія скарбы рассеялі. Але гэтая легенда цалкам выдуманая. У Сейлавічах яе ніхто ніколі не чуў і не пераказваў, і ніякіх скарбаў ніхто не шукаў.

Разам з тым даследванне тапанімічных і моўных асаблівасцяў сейлавіцкай гаворкі дае падставы гаварыць пра іншае паходжанне назвы.

Як ужо было сказана, тутэйшыя жыхары называюць Сейлавічы **сялом**. Асаблівасцю мовы з'яўляецца тое, што тут ніхто не гаворыць так, як я дагэтуль пісаў ***"сейлавіцкі"***. Гэтае слова літаратурна правільнае, але тутэйшыя людзі кажуць: ***"Селаўскі, селавец, Селавічы"***. У вымаўленні прапускаецца **"й"**. Але, калі апусціць "й", то ***селаўцы – жыхары сяла***, як і *вяскоўцы* – жыхары вёскі, *засцянкоўцы* – жыхары засценка, *фальваркоўцы* жыхар фальварка. Дарэчы недалёка ад Нясвіжа ёсць вёска **Фальваркоўцы.** Тады адзін жыхар сяла будзе не абавязкова **селянін**, але і **селавец**. І апошняе слова больш лагічнае, таму што адпавядае словам **вясковец, засцянковец, фальварковец** і г.д. Мы лёгка атрымалі словы **селаўцы** і **селавец**. Засталося высвятліць паходжанне самога слова **Сейлавічы**.

У старажытнасці традыцыйна першы населены пункт, які ўзнікаў каля горада атрымоўваў назву ***Сяло, Сялец, Сяльцо*** ці нешта падобнае. Горад Нясвіж мы маем, маем і **Новае Сяло - Навасёлкі**. Таму шукаць **старое Сяло** не трэба дзе-небудзь вельмі далёка.

**Сяло** размяшчалася не ў пустыні. Яно стаяла на нечай зямлі, побач з нечай зямлёй. Паколькі мы не знайходзім згадак пра нейкі населены пункт у гэтым месцы, то трэба меркаваць, што землі тут належалі нейкаму буйному ўладальніку, які захацеў пасяліць на іх сялян. Раней мы бачылі, што большасць зямель вакол Нясвіжа належала Радзівілам, да Радзівілаў - Кішкам. Каму да Кішкаў, сказаць цяжка.

Людзей з ***Сяла*** называлі ***селаўцамі***. У Менскім павеце была вёска ***Селаўцы*** *(ст. 538 10-га тома "Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства і іншых славянскіх краёў").* Зусім верагодна, што старое Сяло стаяла трохі ў іншым месцы і частка яго была адселена на сучаснае месца. Зусім натуральна перасяленцаў назвалі **сяловічамі**. У 16-м стагоддзі Радзівіл размясціў каля сяловічаў засценак шляхты, і жыхары яго зусім лагічна таксама сталі ***сяловічамі.*** Гэтае ***"сяловічы"*** і дало **"Селавічы"** або пазней **"Сейлавічы"**, а "***селаўцы"*** захавалася ў першапачатковым значэнні – "жыхары сяла". Дзе падзелася старое Сяло? Было перайменавана ці знішчана, або проста начыста знеслі, каб вызваліць землі.

На Беларусі дастаткова назваў населеных пунктаў, утвораных ад словаў ***сяло, сяліць.*** Дастаткова прыгадаць назву ***Сялец, Сяло (Вялікае Сяло).*** У Слонімскім раёне Гарадзенскай вобласці ёсць вёска ***Сялявічы (Селявичи, Sielawiczy).*** У Бярозаўскім раёне Берасцейскай вобласці ёсць вёска ***Селаўшчына.*** Была ***Селаўшчына*** і ў Менскім павеце *(ст. 538 10-га тома "Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства і іншых славянскіх краёў").*

У значнай ступені гэтае ўзнікненне новай назвы ад ***сяла*** тлумачыць тое, што мы не знайходзім успамінаў пра Сейлавічы ў архівах. Справа ў тым, што новая назва замяніла старыю, і мы, калі нават дзесьці тую старую назву і сустракалі, то не пазнавалі.

Так доўга па-за ўвагай заставаўся радок у нямецкай кнізе "Erdbeschreibung" за 1788 год, выдадзенай у Гамбургу. Там на адной са старонак падаецца інфармацыя пра нейкія як бы **Bielowicze (Bielowitsche).** Ну і ішлі міма гэтай інфармацыі, пакуль не паспрабавалі прачытаць тэкст з дапамогай кампутара. Кампутар выдаў **Sielowicze (Sielowitsche),** што праўда, паставіў у пачатку слова ***S гатычнае,*** якое вельмі падобнае на ***B***. Аказваецца нямецкія выдаўцы пачалі назву населенага пункта з ***S гатычнага***, каб падкрэсліць гучанне, бо калі пачаць слова з ***S звычайнага***, то па-нямецку будзе гучаць не *Селовічэ*, а *Зеловічэ*, што ёсць поўным скажэннем, а выдаўцы дбалі пра дакладнасць (хаця і ўжывалі польскую форму маўленння). Дык вось, немцы назвалі Сейлавічы **Stadchen**, што па-нямецку абазначае *гарадок*, панашаму - *мястэчка*. І хоць Сейлавічы мястэчкам ніколі не былі, але слова *гарадок* указвае на тое,



D. Anton Friderich Büschings
Königl. preuß. Oberconsistorialraths, Directors des vereinigten Berlinischen und Cölnischen Gymnasiums im grauen Kloster zu Berlin, und der davon abhangenden beyden Schulen,

Erdbeschreibung

Zweyter Theil,
welcher
Ost- und West Preußen, Polen und Litauen, Galizien und Lodomerien, Ungarn, die denselben einverleibten Reiche und Siebenbürgen, die Republik Ragusa und das osmansche Reich, enthält.



1) Wolkowisk, die Hauptstadt des Districts, der Sitz des Landtags, Grods und Starosten desselben.
2) Izabelin und Zelwia, Städtchen.
3) Prozow oder Porozow, ein Städtchen.
4) Nowy Dwor, ein Städtchen.

4) Xziestwo Sluckie, das Herzogthum Slutzk, Ducatus Slucensis, ist auf 30 Meilen lang und breit, und gehört dem Hause Radziwil.

1) Sluck, (Slutzk), eine große hölzerne Stadt am Fluß gleiches Namens, mit drey Schlössern, unterschiedenen katholischen und griechischen Kirchen, auch einer lutherischen und reformirten Kirche, und einem reformirten Gymnasium.
2) Hroszow und Kozmin, kleine Städte.
3) Kopyl, ein Städtchen, mit dem Titel eines Herzogthums, hat eine reformirte Gemeine und Kirche.
4) Radzylow, ein Städtchen.
5) Branczyce (Brantschitze) ein Städtchen.
6) Romanow, ein Städtchen.
7) Kyewice, ein Städtchen
8) Siemieszow oder Siemiczow, ein Städtchen.
9) Bielowicze, (Bielowitsche), ein Städtchen.
10) Raczlowice, (Ratschlowitze), ein Städtchen.
11) Urzecze, (Ursetsche), eine Stadt.
12) Oresa, eine Stadt.
13) Pohost, ein Städtchen.
14) Koza, ein Städtchen.
15) Luban, eine Stadt am Fluß Oresa.
16) Wolczyn oder Wielczyny, eine kleine Stadt.
17) Petrykowo, eine Stadt am Fluß Przypiec.
18) Xzaryce, ein Städtchen.

Anmerk. Die Powiaty Mozyrski und Rzeczyki gehören zwar auch zu Schwarz-Rußland, aber zu der Woiwodschaft Minsk.

што Сейлавічы былі значным населеным пунктам ужо ў 1788 годзе. Адносіліся яны тады, як і Нясвіж, да Наваградскага павета, хаця нямецкая кніга адносіць іх да Слуцкага княства.

SŁOWNIK GEOGRAFICZNY
KRÓLESTWA POLSKIEGO
I INNYCH KRAJÓW SŁOWIAŃSKICH

WYDANY
Pod Redakcyą
Bronisława Chlebowskiego, Magistra nauk filologiczno-historycznych b. Szkoły Głównej Warszawskiej.
Władysława Walewskiego, obywatela ziemskiego, Kandydata nauk dyplomatycznych Uniwersytetu Dorpackiego.
WEDŁUG PLANU
Filipa Sulimierskiego
i z pomocą zgromadzonych przez niego materyałów.

TOM X.







WARSZAWA.
NAKŁADEM WŁADYSŁAWA WALEWSKIEGO.
Druk „WIEKU" Nowy-Świat Nr. 61.
1889.

**Siełowicze,** wś poradziwiłłowska, pow. słucki, w 3 okr. pol. kopylskim, gm. Howiezna, przy gośc. z mka Mohilny do Nieświeża, ma 119 osad pełnonadziałowych; cerkiewka; grunta szczerkowe, urodzajne. *A. Jel.*

На ст. 538 10-га тома “Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства і іншых славянскіх краёў”, які выйшаў у 1889 годзе ў Варшаве, ёсць артыкул, прысвечаны нашым Сейлавічам:

*“Селовічэ, вс. парадзівілаўская, Слуцкі пав., у 3-й Капыльскай паліцэйскай акрузе, гм. Гавязна, пры гасцінцы з маёнтка Магільны да Нясвіжа, мае 119 поўнанадзелавых сядзіб, цэркаўка, грунт добры, ураджайны”.*

Мы падалі назву вёскі ў польскай транслітарацыі, каб паказаць, што ***й*** у назве вёскі ў 1889 годзе яшчэ не было, ***й*** з’явілася ў выніку адаптацыі назвы ўжо да беларускага маўлення новага часу. Пазней, ужо ў 20-м стагоддзі ***й*** замацавалася і на пісьме.

Такім чынам, калі коратка, то ўзнікненне назвы ***Сейлавічы*** з назвы ***Сяло*** з’яўляецца найбольш верагодным.

## З гісторыі Сейлавіч

Я не пасягаю на глыбокае адлюстраванне гісторыі Сейлавіч. Над гэтым трэба працаваць не

адзін год і не аднаму, і зараз мы ўбачым чаму.

Як ужо згадвалася, у даўнія часы Нясвіж быў значна меншы, сённяшнія прыгарады былі незаселеныя, вуліцы і дарогі ішлі трошкі інакш. І адна з дарог ішла правей ад сучаснай дарогі на Сейлавічы - цераз **Фальваркоўцы**, **Мікулічы**, там ёсць стары мост цераз ручай (адзін з прытокаў Ушы), пакідала Ганусаўшчыну злева. Менавіта па гэтай дарозе, як распавядаў паэт Алесь Стадуб з Юшавічаў, хадзіў з Нясвіжа ў Мікалаеўшчыну Якуб Колас пад час яго вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Алесь Стадуб (24.04.1938 - 8.06.2020) у старэйшых класах вучыўся ў Нясвіжскай СШ № 2. Вучыўся ў той час, калі настаўнікі дзяцей яшчэ вучылі, а не толькі пісалі справаздачы пра тое, як тыя вучацца. Настаўніца беларускай літаратуры, распавядаючы пра Якуба Коласа, вяла дзяцей на пачатак гэтай дарогі і там расказвала дзецям пра Коласа. Відаць, добра расказвала, бо памятаў Алесь Стадуб той урок усё жыццё.

Каля Фальваркоўцаў пачыналася Бажантарня. Як піша сейлавіцкі пісьменнік Кастусь Нясвіжскі (Хвенька Канстанцін Канстанцінавіч): "... *вяртаючыся з палявання, князь з гасцямі заязджаў у Фальваркоўцы, што пад Нясвіжам, дзе была "бажантарня" - вялікі гадавальнік для фазанаў. Князь і яго госці з жарсцю адстрэльвалі экзатычных птушак на будучую шыкоўную вячэру*". Фазан па польску - ***бажант***, то і фазанавая ферма па законах беларускага словаўтварэння - ***бажантарня*** (як і *кнігарня*, *пякарня* і інш.). Ад гэтай княжацкй бажантарні застаўся тапонім **"Бажантарня"**. Так называюцца сейлавіцкія каталіцкія могілкі. Трэба думаць, што радзівілаўская бажантарня займала абшар ад Фальваркоўцаў ажно да гэтай сейлавіцкай "Бажантарні". Цяпер тут чыстае поле, цераз яго ідзе дарога, па якой Якуб Колас і хадзіў з Нясвіжа ў Мікалаеўшчыну. Але некалі тут сапраўды быў лес. І не так даўно.

У кнізе Дзмітрыя Дразда "Землевладельцы Минской губернии, 1861 - 1900. 2-е издание, исправлененое и дополненое" (Мінск, "Медисонт", 2012) на ст. 442 пад нумарам 694 4 3835 згадваецца "Справа па абвінавачванні жыхароў вёскі Беразбалота (Березболото) Р. Пятроўскага і І. Васілеўскага ў самавольнай парубцы лесу ў добрах Бажантарня, 1881-1882 гг.".Як бачна, у 1880-я гады лес на Бажантарні яшчэ быў. Тут жа мы даведваемся, што Бажантарня належала да Слуцкага павета (як і Сейлавічы) і займала 50 дзесяцін.


| Бажантарня, Сл.у. | 50 | |
|---|---|---|

694 4 3835. Дело по обвинению жителей д. Березболото Р.Петровского и И.Василевского в [...] вольной порубке леса в ур. Бажантарня. 1881-1882.




У 1905 годзе Бажантарня знаходзілася ва ўладанні князя Юрыя Радзівіла і мела ўжо 109, 5 дзесяцін грунту II класу з агульным даходам ад зямель 2612 рублёў (*Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Мінску Ф. 694. Воп. 2. Спр. 11120. Арк. 2 адв. — 7*).

Пры міжваеннай Польшчы Бажантарню, мабыць, закранула парцаляцыя, бо частка зямель колішняй вялікай Бажантарні належала ўжо двару Ганусаўшчына, а частка сейлавіцкай шляхце: маёнтачак пана Марцінкевіча і некалькі хутароў.

Ад усяго лясного масіву дрэвы засталіся толькі на могілках Бажантарня і, мабыць, толькі таму, што тут былі могілкі. На гэтых могілках закончыліся зямныя шляхі і асабістыя гісторыі тысяч сейлаўцаў, але з гэтых могілак, **з Бажантарні якраз і пачынаецца гісторыя Сейлавіч**.

Што на Бажантарні ёсць **капцы**, было вядома ўсім і заўсёды. У кнізе "Памяць. Нясвіжскі раён *(Мінск, "Беларуская энцыклапедыя", 2001)* на ст. 26 пазначана: *"Яшчэ большы курганны могільнік удалося адшукаць у тым жа 1991 г.*

*каля в. Сейлавічы. Ён таксама пашкоджаны шматлікімі сучаснымі магіламі, але і да нашага часу захаваліся 33 курганныя насыпы вышынёю 0,6 - 1,5 м. Магчыма, раней іх было больш*". "Капцы" і "курганны могільнік" звязаліся ў свядомасці людзей не адразу. Пра капцы ведалі людзі, пра курганы было напісана ў кнізе, і гэтыя веды нік не перасякаліся.

Другое "адкрыццё" курганнага могільніка на Бажантарні адбылося недзе ў 2006 годзе. Прыехаў я ў Сейлавічы неяк вясной, а дзядзька Казік (Казімір Адамавіч Некраш) кажа:

- Старшыня сельсавета гаворыць, што пашле на Бажантарню бульдозер капцы параўняць.

Думаю: "Паеду, пагляджу, што ён там раўняць сабраўся". Прыязджаю, гляджу, а вясна - ні травы, ні лісця. "Божа ж мой, дык гэта ж той самы курганны могільнік". Палічыў, намаляваў схему. Налічыў, што праўда, толькі 30



***Сейлавіцкія каталіцкія могілкі "Бажантарня"***

Уваход
70 метраў
40 метраў
1
2

***Прыблізная (знятая "на вока") схема размяшчэння курганоў на Бажантарні***
***На схеме пад лічбай 1 - магіла Пятровіча (імя не прачыталася), памёр у 1857 г., жыў 47 гадоў, пад лічбай 2 - магіла Пятра і Катажыны Пятровічаў, ёсць дата 1876 г., штрыхавой лініяй пазначаны месцы курганоў, раскапаных падчас міжнародных археалагічных раскопак, крыжыкі - два з пяці рытуальных крыжоў.***

курганоў. Ну, вясна - вясной, а ўсіх не знайшоў.

Вечарам патэлефанаваў кандыдату гістарычных навук Алегу Трусаву, той даў мне тэлефон Міхася Чарняўскага, археолага, кандыдата гістарычных навук, які яшчэ працаваў у Акадэміі навук. Адразу ў панядзелак Міхась Чарняўскі патэлефанаваў у Нясвіжскі выканкам. Усё, бульдозер не паехаў, а ў жніўні 2008 года прыехала міжнародная група археолагаў і раскапала два невялічкія курганы. Вынік: трупапалажэнне (адкапаны тры шкілеты), дрыговічы, XI - XIII стагоддзе.

Такім чынам гісторыя Сейлавіч пачалася і





***Уваход на могілкі “Бажантарня”***











***Магіла Пятровіча, укапаная ў курган у 1857 г.***



*Помнік на магіле Пятра і Катажыны Пятровічаў, укапанай у адзін з курганоў, 1876 год. Вакол магілы іншых Пятровічаў*





*Пачатак раскопак на Бажантарні*

пачалася ў XI - XIII стагоддзях, што добра адпавядае іншым раскопам на Нясвіжчыне і адпавядае даце заснавання Нясвіжа ў 1223 годзе, з якой многія спрачаюцца. А што тут спрачацца? Вось ёсць сяло з усімі атрыбутамі: назва, курганы - а горада, пры якім узнікла гэтае сяло, не прызнаём.

У курганах язычнікі. Таму, тут не дрыговічы Турава-Пінскага княства (бліжнія гарады Клецк, Слуцк), а дрыговічы Чорнай Русі, сваяцкія да дрыговічаў Слоніма, Ваўкавыска, Гародні. Аднак, сыходзячы з удзелу Юрыя Нясвіжскага ў бітве на Калцы, менавіта турава-пінскія князі ўзялі паўднёвую і ўсходнюю Нясвіжчыну пад сваю руку, і Сейлавічы былі ў Слуцкім княстве да апошніх яго дзён, а потым былі ў Слуцкім павеце.

Магчыма, што і сейлаўцы трапілі на тую Калку і злажылі там свае галовы.




*Князь Юрый Нясвіжскі (? - 1223)*

**ВЫПРАЎЛЯЕЦЦА РАЦЬ**

*У 1223 годзе нясвіжскі князь Юрый загінуў у бітве з татарамі на рацэ Калка.*

Веюць горда сцягі,
Ціха дзіды звіняць,
За дажджы, за снягі
Выпраўляецца раць.

Пакідае Нясвіж
Смелы князь малады
Не на дзень, не на міг-
На гады, на заўжды.

Пакідае сыноў,
І княгіню сваю,
І магілы бацькоў,
І радзімы зямлю.

Грае чырвань і сталь,
Коней нельга суняць,
У бясконцую даль
Выпраўляецца раць.

Чорны сцяг над палком,
Нібы казачны птах,
Шыты ўвесь серабром
Рэе ў цвёрдых руках.

Недзе там дзікі Ўсход,
Недзе вораг ідзе,
Невядомы народ
Цар крывавы вядзе.

"Нашы землі забраць,
Хоча нас паланіць..."
Выпраўляецца раць,
Рушыць ворага біць.

Рвецца ранняя ціш,
Грозна трубы гудуць,
Йдзе маленькі Нясвіж
За вялікую Русь.

*24.01.85 г.*

**КАЛКА**

Бітва мела канец без пачатку,
З похваў шчэ не дасталі мячоў,
Як не стала наўкола парадку
Між прывычных да сечы палкоў.

Шчэ стаяць нестамлёныя коні,
Не растрачана сіла ў руках,
І нікога нікуды не гоніць
Непрывычны для воінаў страх.

А вакол цецівою напятай
Цішыня. І дзе вокам ні кінь -
Неўспрымальнаю мрояй заклятай
Ўсцяж вірує мангольская плынь.

Набягае за хваляю хваля,
Аб чырвоныя б'ецца шчыты,
То страшэннаю масаю валіць,
То знікае, як пырскі вады.

Прапануюць манголы здавацца,
Склаўшы зброю дадому ісці,
Пачынаюць кіяне хістацца,
Павуціну сумненняў плясці.

Сем князёў, апусціўшы забралы,
Мужна сталі наперад палкоў,
І спрадвечнай адвагай зайграла,
Закіпела славянская кроў.

"Ты ўжо, кіеўскі князю,
На нас выбачай,
Ці праб'ёмся дадому,
Ці трапім у рай"

Сем дружын у варожую зграю,
Як у цеста імкліва ўвайшлі,
Сем цымбалаў жальбы і адчаю
Зазвінела на рускай зямлі.

"Ты ўжо, кіеўскі князю,
На нас выбачай,
Ці праб'ёмся дадому,
Ці трапім у рай"

Закіпела адчайная сеча,
Як тараны дружыны ідуць,
А кіяне наладзілі веча,
Зброю! Зброю на зямлю кладуць.

Схіляецца дзень да змяркання,
Ды ўжо сілаў даўно не стае,
І чарнігаўцы, і нясвіжане
Побач сцелюць галовы свае.

Сонца коціцца нізенька-нізка,
За пагоркаў хаваецца тын,
Падае, падае Юры Нясвіжкі
На гарачы, прагорклы палын.

"Ты ўжо, кіеўскі князю,
На нас выбачай,
Не дайшлі мы дадому,
То трапім у рай"

Сем князёў засталіся навечна
Там з дружынамі разам ляжаць,
І далёкі, іскрысты Шлях Млечны
Будзе шлях душам іх асвятляць.

*9.06.93 г.*

Сейлавіцкія землі падпарадкоўваліся нясвіжскаму дзяржаўцу і разам з Нясвіжам і іншымі паўднёва-беларускімі княствамі ды краямі ўвайшлі ў

Вялікае Княства Літоўскае.

*"У 1446 г. Нясвіж згадваецца як уласнасць нейкага **Сяляўкі**, перададзеная вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага Казімірам VI Ягелончыкам Мікалаю Янавічу Неміровічу.*

І вось тут мы выходзім на яшчэ адну і, як здаецца, вартую ўвагі версію паходжання назвы Сейлавіч. Дзеці гэтага **Сяляўкі (Сялявы, Селявы)** былі **Сялявічы (Селявичы).** Вёска (двор), дзе яны жылі па традыцыі магла называцца **Сялявічы (Селявичы),** адкуль да назвы **Селавічы** - адна літара, а да **Сейлавіч -** дзве літары. Адно толькі, што ва ўсіх старых дакументах пасля ***л*** пішацца ***о (Sielowicze)***, а гэта ізноў вяртае нас да слова ***"сяло"***.

*У 1492 г. вялікі князь Аляксандр падараваў Нясвіж разам з вёскамі Круты Бераг і Чучэвічы маршалку Вялікага Княства Літоўскага Пятру Янавічу Мантыгірдавічу. Ажаніўшыся з дачкой П.Я. Мантыгірдавіча Соф'яй, у 1494 г. ўладальнікам Нясвіжа стаў Станіслаў Кішка. Іх дачка Ганна Кішка, якая ў 1513 г. узяла шлюб з Янам Мікалаем Радзівілам Барадатым, пасля смерці маці атрымала Нясвіж, Алыку і шэраг валасцей, а пазней перадала іх сваім сынам". (Памяць. Нясвіжскі раён.)*

Станіслаў Петрашкевіча (Пятровіч) Кішка паходзіў з магнацкага роду Кішкаў герба Дуброва



***Станіслаў Пятровіч Кішка (? - 1513 або 1514)***



***Ян Мікалай Радзівіл Барадаты (каля 1474 - 1522), зяць Станіслава Пятровіча Кішкі***

і быў сынам Пятрашкі Страмілы. Атрымаў мянушку «Кішка», ад якой пайшло прозвішча роду. Займаў шэраг дзяржаўных пасад, у тым ліку падстолія (1487-1488), стольніка літоўскага (1491 г.), намесніка лідскага (з 1493 г.). Што праўда, мянушку Кішка атрымаў яго бацька Пётр Пашкавіч (Пятрашка Страміла, Цеханоўскі-Страміла, Стramілка) у 1463 і 1469 гг. стараста драгічынскі, у 1477 г. кухмістр каралевы Альжбеты, у 1483 г. лідскі намеснік і маршалак гаспадарскі. Паводле легенды, менавіта Пётр Пашкавіч, як кухмістр каралевы, увёў ва ўжытак у Польшчы і ВКЛ каўбасы, якія называлі словам "кішка". Каўбасы прыйшліся каралеве Альжбеце і ўсім іншым вельмі да густу, за што Пётр Пашкавіч і атрымаў мянушку "Кішка", якая перайшла на род у ролі прозвішча.

Новы этап у гісторыі Нясвіжа звязаны ўжо з Радзівіламі, нашчадкамі Кішкаў па кудзелі. Нясвіж стаў сталіцай іх вотчыны. У 1547 г. Мікалай Ян Радзівіл Чорны атрымаў ад імператара Карла V княжацкі тытул Свяшчэннай Рымскай імперыі - **"князь на Алыцы і Нясвіжы"**, які ў 1549 г. быў прызнаны і вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага. З гэтага часу Нясвіжскі маёнтак Радзівілаў пачаў называцца Нясвіжскім княствам.

Сейлавічы аказаліся ў гэтым новым княстве, хаця пісьмовага сведчання гэтаму пакуль не знай-




***Князь Мікалай Радзівіл Чорны (4.02.1515, Нясвіж - 28/29.05.1565, Лукішкі)***

ходзім. Знойдзем чуць пазней.

У 1557 годзе з ініцыятывы Боны Сфорцы, маці караля Жыгімонта Аўгуста, распачалася аграрная рэформа ў ВКЛ, якая праводзілася на працягу 2-й паловы XVI — пачатку XVII стагоддзя і атрымала назву “Валочная памера”. Рэформа распачалася з мэтаю павелічэння дзяржаўных даходаў. У поўным аб’ёме рэформа праводзілася на тэрыторыі Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, спачатку на дзяржаўных, а пасля — прыватных і царкоўных землях.

Не абмінула “Валочная памера” і сейлавіцкія землі. І тут мы падышлі да першага пісьмовага, хоць і ўскоснага, упамінання пра вёску Сейлавічы.

У 1586 г. князь Мікалай Радзівіл аддаў Нясвіжскай плябаніі 8 валок зямлі, што знаходзіліся паміж "валок Сейлаўскіх". *(Памяць. Нясвіжскі раён.)*

Князь Мікалай Радзівіл - гэта князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, які атрымаў пасля бацькі, князя Мікалая Радзівіла Чорнага вялізныя ўладанні, а з бліжніх зямель - Нясвіжскае княства з Нясвіжам і Свержань.

8 валок, якія ён аддаў Нясвіжскай плябаніі, гэта многа, калі ўзяць валоку за 22 га, то аддаў Сіротка 176 гектараў сейлавіцкіх зямель.

Такім чынам сейлавіцкія землі ўжо належалі Радзівілам, а магчыма, і ранейшым уладальнікам Нясвіжа. Мы пакуль нідзе не бачылі ні слова пра пакупку ці продаж кім-небудзь сейлавіцкіх зямель. Землі Сяла заўсёды былі пры Нясвіжы.

Нясвіжскае княства было так сабе - сур’ёзнаму князю і павярнуцца то не было дзе. Князь М. Радзівіл Чорны паспеў зрабіць толькі невялікія зямельныя набыткі ў ваколіцах Нясвіжа (землі сяла Ліпа). Задачу ператварэння Нясвіжскага княства ў буйную латыфундыпо пачаў вырашаць сын Чорнага - М.К. Радзівіл Сіротка. У 1566-87 гг. ён набыў у прыватных уласнікаў Ліпу, Свержань, Алекавічы, Лань, Кукавічы, Юшавічы, Задзвею, Быхаўшчыну, Салтанаву Гаць і інш. У 1568-69 гг. да яго ў спадчыну перайшло і было далучана да Нясвіжскага княства Мірскае графства. У 1588 годзе Сіротка купіў у І.І. Солтана Затур’ю, з 1595 да маёнтка Затур’і належаць Бузуны і Юшавічы. У 1589 годзе купіў у Яна Д. Паца Кунасу.

У 1587 г. гэтая латыфундыя падзялялася на 7 ключоў - Нясвіжскі, Мірскі, Свержанскі, Быхаўшчынскі, Чанавіцкі, Салтанаўскі, Затурэнскі і налічвала каля 40 сёл.

У 1587-1602 гг. набыты і далучаны да Нясвіжскага княства таксама Белікі (былі на ўсход ад Бузуноў, не існуюць), Мікалаеўшчына, Гарадзея, Магільна, Лунін, Андрушы, Атцэда і інш. З поўдня княства межавала з Клецкім княствам Радзівілаў. На аснове Нясвіжскага княства ў 1586 г. быў створаны буйны маярат - Нясвіжская ардынацыя, правы на якую перадаваліся ў спадчыну старэйшаму прадстаўніку Радзівілаў па мужчынскай лініі. У далейшым княства расшырылася за кошт новых набыццяў. У пачатку 17 ст. яго памеры дасягнулі 5810 валок, тут было 3600 "дымоў" (25 тыс. чалавек насельніцтва). *(“Памяць. Нясвіжскі раён”.)*

Такім чынам на пачатак 17-га стагоддзя Нясвіжскае княства значна пашырыла свае межы і ад сейлавіцкіх валок сягнула далёка на поўнач, усход і поўдзень, падціскаючы Слуцкае княства.

Што праўда, Сіротка шмат зямель падараваў каталіцкім рэлігійным структурам: Нясвіжскаму езуіцкаму калегіюму (с. Рудаўка, 1584 г., Вужанка), Мірскаму касцёлу (19 валок каля Міра, с. Возера), Нясвіжскаму бенедыкцінскаму кляштару (с. Гавязна), а ў 1598 годзе аддаў Амлынцы нясвіжскаму кляштару Бернардзінцаў на забеспячэнне, але гэта ўжо ў межах княства. Улічваючы згаданую ўжо перадачу васьмі валок сейлавіцкіх зямель Нясвіжскай плябаніі, можна зрабіць выснову, што



***Князь Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка" (1549, Цмелеў, Польшча - 1616, Нясвіж, ВКЛ)***

фундаваў Сіротка рэлігійныя ўстановы вельмі грунтоўна.

Дакупляў Сіротка і іншыя землі, але мы вельмі далёка заглядваць не будзем.

У гэты час Радзівілы пачалі рэалізоўваць стратэгію ўпарадкавання структуры сваіх уладанняў. Цяжка сказаць, хто яе прыдумаў, можа, яшчэ Радзівіл Чорны, але Сіротка актыўна яе рэалізоўваў. Патрэбнасць у такой рэформе можна зразумець з **«Попісу войска літоўскага 1567 года»,** дзе называюцца наступныя ўладанні і дзяржаўныя павіннасці Мікалая Сіроткі:

*«Воеводич Виленский. Месяца ноября 20 дня. Пан Миколай Криштоф Радивил з Олыки и Несвижа, кграбя на Шидловцу, ставил почту з ыменей своих — з Несвижа и з волостей, ку Несвижу прислухаючих, з Липска, з Лафы, з Шацка, з Клецка, з Городка, з Лебедева, з Дунилович, з Дубров и Недрезки, з Кгеранойн, з Лоздун, з Негневич, з Налибоков, з Узды, з Сенежич, з Олыки, з Радивилова, з Ыванчич, з Яблоней, з Озлимич, з Морд, з Голубли, з Свядосеи, з Сол, з Дусят, з Кревин, з Богушок, з Высокна, з Жомойток, з Возкгилишок, з Мусник, з Будивидишок, з Болоши, з Ворнян; с тых всих имений ставил всего почту коней пятьсот тридцать деветь збройно по гусарску — с тар., з др.. При том почте ставил его милость драбов пеших триста осмдесят шесть и ознаймил то, иж с повинности драбей 350, а на ласку гоподарску драбей 36».*

Г.зн. Князь Радзівіл Сіротка павінен быў выстаўляць пры патрэбе 539 вершнікаў, узброеных па гусарску, на самых лепшых рослых конях і з узбраеннем, адпаведным часу (панцыры, шлемы, дзіды, пістолі, корды ці шаблі, ну і крылы, як жа без іх), і ўсё ў сваім часе найлепшым. Павінен быў Сіротка выстаўляць 386 пешых драбаў - 350 па павіннасці і 36 з павагі да гаспадара краіны. Ну і дзе гэтую амаль тысячу браць. Трымаць такое рэгулярнае войска - ніякіх грошай не хопіць. Дзяржаўнае рэгулярнае войска яшчэ наперадзе. Іншыя магнаты мелі аналагічныя абавязкі, і кожны вырашаў праблему па-свойму. Слуцкія князі трымалі выбранецкія вёскі, з насельнікаў якіх выстаўлялі вызначаную вялікім князем колькасць воінаў. Радзівілы пайшлі іншым шляхам. Яны вырашылі фармаваць неабходнае войска з беднай, але гербавой шляхты. Шляхціц быў вольны жыць, дзе хоча, і Радзівілы пачалі склікаць да сябе бедную і зусім беззямельную шляхту, надзяляць яе зямлёй за абавязак па першым слове выступаць на вайну пры



***Так павінен быў выглядаць сейлавіцкі шляхціц у войску князя Радзівіла Сіроткі***

неабходнай поўнай амуніцыі, у вызначаных барвах. Гэта было значна танней. У мірны час шляхта арала зямлю, сеяла жыта, пасвіла жывёлу, а ў патрэбны час ускоквала на каня і праз пару гадзін стаяла ў шыхце сваёй харугвы. У Радзівілаў бедная шляхта трапляла і ў драбы.

Сіротка надзяляў шляхту зямлёй бясплатна, аддаваў ва ўмоўнае трыманне (пераважна па 5 валок), з якіх шляхціц павінен быў выстаўляць у войска конніка. Сяліў Сіротка шляхту пры вёсках ці асобнымі паселішчамі. 5 валок - 110 гектараў нясвіжскай зямлі - гэта многа, і князь меў права патрабаваць ад шляхты вернай і бездакорнай службы.

Перадачай зямель шляхце вырашалася і яшчэ адна традыцыйная для ўсіх часоў і народаў праблема - праблема выплаты падаткаў. З зямель, перададзеных шляхце, князь падаткаў не плаціў.

А паводле “Валочнай памеры” шляхта мела пэўныя прывілеі і таксама падаткаў не плаціла. Землі шляхты аддзяляліся ад княскіх валокаў, абложаных падаткамі, адмысловай мяжой, якая называлася “сцяной”. Паселішчы шляхты, размешчаныя за такімі сценамі пачалі называцца **засценкамі**. Пры падтрымцы князя засценкі на Нясвіжчыне пачалі расці, як грыбы. Самы буйны засценак утварыўся каля Сяла. Шляхту з гэтага засценка пачалі называць ***сяловічы***. Паступова назва перайшла на сам засценак ***Сяловічы***, а з яго і на Сяло. *Селовичи, Sielowicze, Селавічы* і нарэшце ***Сейлавічы***. Паўзнікалі засценкі каля Затур’і (цяпер Зашляхта), каля Юшавіч (Ракавічы), каля Бузуноў (Бучныя), асобныя: Суднікі, Ліпніцкія, Пасякі, Куль і іншыя, згаданыя раней пры разглядзе картаў.

Недзе яны пазнікалі, недзеператварыліся ў вёскі. Пазнікалі межы-сцены. Але адна ўсё-такі захавалася.

Вось два здымкі. На першым - мяжа паміж двума засеянымі палеткамі. На другім - мяжа паміж полем кукурузы і скошаным полем. Гэта межы не толькі паміж палеткамі, гэта межы паміж сейлавіцкімі і ўмоўна затурэнскімі землямі. Але гэта не проста межы. Гэта славутая "сцяна". На першым здымку гэта "сцяна" паміж затурэнскімі сялянскімі землямі князя Радзівіла і землямі засценка Сейлавічы. На другім здымку гэта "сцяна" паміж землямі засценка Сейлавічы і радзівілаўскім фальваркам Дыямполь. (Якая назва! Фальварак існаваў да 1939 года, а сёння я не знайшоў чалавека ні ў Сейлавічах, ні ў Затур'і, ні ў Бузунах, каб хто памятаў гэтую назву.)

Валочная памера пачалася ў 1557 годзе. Радзівіл купіў Затур'ю ў 1588 годзе. Недзе паміж гэтымі гадамі і была ўстаноўлена "сцяна". З таго часу





яна не пасуналася тут ні на крок. Сышлі ВКЛ і Рэч Паспалітая, а "сцяна" на месцы, сышла Расійская Імперыя і міжваенная Польшча, першыя Саветы і немцы, а "сцяна" на месцы, сышла савецкая ўлада, а сцяна на месцы.

Толькі ўдалечыні на другім здымку відно, як мяжа забірае крута ўправа. Гэта ў 1913 годзе ад радзівілаўскага фальварка Дыямполь быў адрэзаны кавалак на карысць Сейлавіч. Сейлаўцы называюць гэтае поле Прыдаткі.

Такім чынам наша "сцяна" - самы старажытны артэфакт на тутэйшай тэрыторыі, і ні кансервацыі, ні рэстаўрацыі не патрабуе.

Толькі ў 1722 г. Сейлавічы, засценак Нясвіжскай ардынацыі, Ганна Радзівіл аддала шляхце ў леннае ўладанне. І толькі з 1722 года селавіцкая шляхта стала гаспадарамі на ўласнай зямлі, але за гэта яна праліла нямала крыві.

**Шляхта ў Вялікім Княстве Літоўскім мела адзін абавязак - абавязак памерці за Радзіму.**

**Шляхта ў Вялікім Княстве Літоўскім мела адно права - права памерці за Радзіму.**

Пра гэтае права ёсць такая гавэнда.

***Святыя грэшнікі***

*Яны былі ўсе грэшныя. Яны - гэта сейлавіцкая шляхта, паднятая па паспалітым рушэнні і кінутая ў пекла гэтай вось вайны. Іх было многа. Разам з Ліпніцкімі іх было больш за сто чалавек, цэлая харугва, і гэтай раніцай яны былі ў першай лініі войска Вялікага Княства Літоўскага.*

*Яны былі грэшныя, і грэх у кожнага быў свой, а то і не адзін.*

*Пан Ігнась любіў выпіць. Ён мог знайсці гарэлку ці віно ў любым месцы зямной кулі, не кажучы ўжо пра роднае наваколле. Ён і цяпер сядзеў у сядле, ужо добра пахмяліўшыся пасля ўчарашняй папойкі. Галава яму не балела, і ён весела і бадзёра глядзеў на свет.*

*Пан Язэп любіў жанчын. Рэдка якая ўдовая шляхцянка, а то і мужычка пазбегла яго ласкавых рук. Не раз даводзілася яму выскакваць у акно і ад замужніх, калі муж каторай не ў час вяртаўся дадому. І гэтую ноч ён не змарнаваў і не даў яе змарнаваць маладой, вабнай маркітанцы. Цяпер ён сядзеў у сядле задаволены сабой, прытомлены ў пэўных частках цела, але поўны сілы ў руках.*

*Пан Стась любіў пахваліцца. Калі надаралася яму злавіць шчупак, то быў той шчупак фунты тры не меш, хоць і змяшчаўся на адну скавародку. Калі ўдавалася падстрэліць зайца, то быў той заяц велічынёю з казу. І сёння яго чакаў недзе там самы спрытны варожы вершнік, якому пан Стась, безумоўна, дасць рады.*

*Пан Вінцэсь быў ганаровы. Не паступіцца шляхочым гонарам для яго было важней за ўсё. Калі пасланец ад князя Радзівіла развозіў запрашэнні на баль і заяздждаў першым не да яго, а да суседа насупраць, безумоўна, меш годнага шляхціца, пан Вінцэсь кіпеў ад абурэння і казаў, што пасля такой знявагі ніколі б не паехаў на той баль, але вось надарылася ў Нясвіжы пільная справа, то ўжо і да князя па дарозе заедзе. І сёння пан Вінцэсь стаяў у першым шэрагу і крайнім справа, і ніхто гэтае месца аспрэчыць не спрабаваў.*

*Пан Адась быў скупы. Грош, які трапляў у яго глыбокую кішэню, з вялікай цяжкасцю яе пакідаў. Жонка і дзеці хадзілі ледзь не ў лахманах, але пан Адась на тое не зважаў. Нават ксендзу які ездзіў па калядзе пан Адась насыпаў паўсміну не жыта, нават не ячменю, а аўсу. На заўвагу закрыстыяна адказваў, што ім з пробашчам ужо даволі надавалі, а гэта хай будзе каню, а на самай справе паўасьміна аўсу важыла роўна ў два разы менш, чым тая ж паўасміна жыта. Сёння пан Адась быў спакойны. Ад'язджаючы на вайну, ён пакінуў усе грошы такой жа скупой, як сам, мацеры. То, калі што, вораг на ім не пажывіцца.*

*Пан Болесь быў злодзей. Не, не то, каб краў нешта ў суседзяў, не. Пан Болесь быў вялікакняскі злодзей. Ён краў у вялікакняскім лесе. Гэта, мусіць, гледзячы на яго наш народ склаў прыказку: "Хто ў лесе - не злодзей, той дома - не гаспадар". Гаспадарка ў пана Болеся была новая і дагледжаная, але каб хто папрасіў які квіток хоць на адно палена, то не прычакаў бы. І сёння пан Болесь ведаў, што калі што, то дошкі на труну яму ляжаць пад паветкай. Вядома, з вяліканяскага дрэва, але пазычаць не давядзецца.*

*Пан Бронісь быў паляўнічы. Грэх яго быў не ў тым, што ён залішне хваліўся здабычай. Ён сапраўды часцяком вяртаўся з лесу не з пустымі рукамі, грэх быў у тым, што вяртаўся ён з княскага лесу з тушай то лася, то аленя, на якіх паляванне было забаронена. І сёння пан Бронісь меў надзею на сваю спраўную стрэльбу і трапнае вока.*

*Пан Богусь быў бязбожнік. Не тое што, каб атэіст там які, а так называў яго пан пробашч за тое, што пан Богусь насуперак свайму імені рэдка бываў у касцеле, а на споведзі быў, можа, два разы - на першай і, калі моцна захварэў ды думаў, што паміраe. Пан Богусь у даўгу не заставаўся і казаў, што пачакае пана пробашча каля брамы ў пекла, і яшчэ не вядома, для каго там падрыхтавана скаварада больш гарачая. Цяпер ён шкадаваў, што не сказаў пану пробашчу, за што таго чакае пекла, але няхай…*

*Пан Казік быў ілгун. Што праўда наўмысна ён нікога не абманваў, але любіў распавядаць самыя невераrодныя гісторыі, якія з ім адбываліся, хаця ўсе ведалі, што нідзе ён не быў і нічога такога з ім не здаралася. Каб дзе ў Еўропах, то яго назвалі б пісьменнікам, друкавалі б яго гісторыі ў кніжках і плацілі б яшчэ немалыя грошы. А тут на кожнай споведзі каяўся, што ізноў увёў у зман шаноўнае панства і люд паспаліты сваёй чарговай казкай. Затое цяпер, калі пашанцуе, то ён раскажа чыстую праўду пра гэтую вайну, і ніхто не скажа, што ён нешта выдумаў. Калі пашанцуе…*

*Пан Тадзік быў гультай. У вачах людзей. Сам то пра сябе ён так не думаў. Ну і што, што ён ніколі не ішоў там, дзе можна пад'ехаць, што ніколі не стаяў там, дзе можна было сядзець, што ніколі не сядзеў там, дзе можна было ляжаць. Гэта ў яго свежы чалавек мог запытаць: "Чаму пан дровы седзячы коле?" А пан*



*Тадзік спакойна адказваў: "Спрабаваў лежачы, нічога не выходзіць".*

*Пан Антось быў хціва. Мо, не хціва, мо, лішне гаспадарлівы, але ён умудраўся пажывіцца нават там, дзе іншаму і ў галаву прыйсці не магло. Неяк быў прысабечыў мясцовы мост і з паўгода браў на ім мыта з рознага падарожнага люду, пакуль не нарваўся на павятовага чашніка, якога не пазнаў, бо той першы раз у жыцці быў цвярозы і выглядаў не так, як звыкла. Затое цяпер пан Антось спадзяваўся на добры луп, калі, канешне, самога не аблупяць.*

*Пан Чэсь быў жартаўнік. Жартаваць ён пачынаў з сябе, пераходзіў на суседзяў і так па ранжыру. Каб мог дабраўся б да вялікага князя, але неяк няўдачна зачапіў быў пана ваяводу, то з таго часу вышэй за слуцкіх начальнікаў нікога не чапаў.*

*Пан Мечысь быў гандляр. Не купец. Купец прадае, купляе і з таго прыбытак мае. А пан Мечысь на нясвіжскім рынку, не маючы і зашмальцованага пенязя ў кішэні, мог наладзіць гандаль за якую-небудзь карову, збіць цану да кошту казы і, сказаўшы, што збегае да воза па грошы, даць лататы. У выніку то, гаспадару каровы яшчэ і падзякаваць трэба было пану Мечысю, бо задураны балбатнёй "пакупніка" мог і аддаць тую карову па цане казы. А так, лічы, абышлося…*

*І так адзін за адным да апошняга шэрагу. А там…*

*Пан Ясь быў бедны. Паводле Святога Пісання беднасць - не грэх, а якраз наадварот. Але ад яго беднасці гаравала жонка, гаравалі дзеці. Пан Ясь не быў гультаём ці п'яніцам, не быў бязбожнікам ці бездарам. Яму проста не шанцавала. Ні ў чым. Ніколі. Дзе б што не здарылася, то бяда будзе ў пана Яся. У паводку вымакне жыта ў лагчыне ў пана Яся, у суш высахне на гары ў пана Яся. У абозе зломіцца воз у пана Яся, у паходзе раскуецца конь у пана Яся. Ды які там конь - конік, апошні ў гаспадарцы. Дома не засталося нават жарабяці. Пан Ясь сядзеў на сваім коніку ў апошнім шэрагу, у даматканых барвах і ніколькі не перажываў, суцяшашаючы сябе, што падчас атакі ён нагоніць усіх і паспее ў тую бітву, і пэўна ж стрэліць са свайго старога пістоля, і пэўна ж намахаецца ад душы сваёй старэнькай шабляй.*

*Пан Ролюсь быў гарачы. Лішне гарачы. Ён таксама стаяў у апошнім шэрагу. Пан харунжы паставіў яго туды строгім-найстрогім загадам, бо з першага ці другога шэрагу пан Ролюсь мог рвануць на ворага, не чакаючы каманды, мог змяшаць увесь шыхт, мог унесці поўнае бязладдзе. Ён на сваім гусарскім жарабцы і з апошняга шэрагу вырвецца наперад, але гэта будзе ўжо пасля пачатку атакі і нікому не зашкодзіць. Наадварот, пан Ролюсь будзе таранам ламаць варожыя шыхты, робячы праход для іншых…*

*І вось гэтыя грэшнікі раптам усе і адразу, мо, не адразу, а адзін за адным сталі святымі. Яны пайшлі ў атаку ў першай лініі войска Вялікага Княства і палеглі ўсе. Ні аднаго параненага. Яны палеглі не баронячы сваё ўласнае жыццё, яны палеглі не баронячы свае сем'і. Яны палеглі баронячы Айчыну, Бацькаўшчыну, ніколі не бачаную імі цалкам, але заўсёды любімую, ніколі не пройдзеную, але самую прыгожую менавіта там, у няпройдзеных мясцінах, мілагучную ў сваіх песнях і страшную да дрыжыкаў у сваіх казках. Гэтая Бацькаўшчына ніколі не была для іх занадта ласкавай, але яны даравалі ёй і строгасць, і абыякавасць, і няўвагу. Яны ніколі нічога лішняга ад яе не прасілі. У Бога прасілі больш і часцей. А Бацькаўшчына, яна была таксама недзе там, каля Бога. Толькі з той розніцай, што калі ў Бога прасілі нешта для сябе, то Бацькаўшчыне імкнуліся даць нешта ад сябе.*

*Сёння яны аддалі апошняе - свае жыцці, сёння яны сваёй крывёй начыста змылі ўсе свае грахі, і іхнія душы падняліся над полем кіруючыся проста да райскай брамы. Душы яшчэ бачылі поле бою, яшчэ пазнавалі свае целы, пасечаныя, паколатыя, прабітыя кулямі. Бачылі, як другая лінія войска Вялікага Княства біла і крышыла ў шаткаванку ворага недабітага імі. Другая лінія прайшла над іхнімі целамі і спынілася на беразе Нёмана, па якім сплывалі ўніз недабіткі варожых колішніх палкоў.*

*Душа пана Богуся паспела пашкадаваць, што не сустрэне душы пана пробашча каля брамы пекла, а душа пана Яся паспела падумаць, што можа пан ваявода дасць яго жонцы якога коніка ўзамен таго, што застаўся на полі, можа, дасць нават лепшага.*

*Душы трошкі запаволілі палёт, пачакаў-*

*шы пакуль іхнюю дружную кампанію дагоняць душы пана харунжага і пана Ролюся, якія біліся да апошняга з невыказным спрытам і нечалавечай адвагай, з'ехаўшыся ў баі разам і ўтварыўшы шыхт з двух чалавек, секлі ўсё да чаго даставалі шаблі, і былі расстраляныя з дзясятку рушніц і пістоляў здалёк, бо зблізку да іх ніхто не мог падысці.*

*Душы падымаліся ўсё вышэй, пакінуўшы на зямлі і грэшныя свае целы, і ўсе грахі пры іх. Целы і грахі прыме зямля Бацькаўшыны, а душы, магчыма, дасягнуць Нябеснай Айчыны, але яны пра гэта яшчэ не ведалі, а мы і не даведаемся ніколі, ці ёсць у тым Раі тая Айчына і ці сапраўды яна называецца Нябесная Беларусь, як кажуць цяпер. Пэўна ж ёсць, бо дзеля чаго ж тады ўсё: усе пакуты і подзвігі тут на Беларусі Зямной?*

Шляхта радзівілаўскіх засценкаў мела яшчэ абавязак ці права, як каму хочацца, удзельнічаць у соймах і сойміках. Хочаш - не хочаш, па загаду князя шляхта ехала на сойм (на месяц, на два, на колькі трэба). На вайну князь Радзівіл мусіў ставіць пад тысячу чалавек, на вальны сойм мог падняць тысяч некалькі. Ну і галасаванне: князь - руку ўверх, тысяча шляхты - руку ўверх; князь - палец уніз - тысяча шляхты - палец уніз. І слова Радзівіла было важкім, як нічыё. Калі Багуслаў Радзівіл, якога за Кейданскаую унію многія лічылі здраднікам Рэчы Паспалітай, прыбыў пасля вайны на элекцыйны сойм з двума палкамі гербавой шляхты з правам голасу ў кожнага шляхціца, то ніхто нават коса паглядзець у яго бок не адважыўся.

Як было паказана, на Бажантарні былі пахаваны язычнікі, але хрысціянства дагнала дрыгавічаў, якія ўцякалі ад хрышчэння на поўнач, стварылі аж цэлую Чорную Русь, але нікуды не дзеліся і былі ахрышчаны па ўсходнім абрадзе, хоць ім было ўсяроўна, па якім. Язычаскіх гарадоў на Чорнай Русі не было. Потым было хрышчэнне Літвы Ягайлам, потым была Рэфармацы і Контррэфармацыя.

Рэлігійнае жыццё на Нясвіжчыне да Радзівілаў апісанню не паддаецца. Можна толькі меркаваць, што большасць насельніцтва была праваслаўная. Магнаты, якія пачалі з’яўляцца на гэтых землях у часы ВКЛ, былі ў асноўным каталікамі. Іх было няшмат, і гаварыць пра нейкую рымскакаталіцкую епархію можна з вялікай нацяжкай. А вось пры Мікалаі Радзівіле Чорным Нясвіж стаў буйным цэнтрам пратэстанцтва. Тут дзейнічаў кальвініцкі збор. Братамі В. і М. Кавячынскімі і Л. Крышкоўскім была заснавана друкарня, дзе выдавалася пратэстанцкая літаратура. У 1562 годзе яна выдала беларускія кнігі Сымона Буднага “Катэхізіс” і “Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам”.

Разам з тым ў Нясвіжы была і праваслаўная царква. У кнізе **“Археографическій сборникъ документов относящихся къ исторіи северо-западной Руси при управленіи Виленского учебного округа. Томъ седьмой...”** (Вильна, 1870) апублікаваны дарчы ліст князя М.К. Радзівіла Сіроткі святару Нясвіжскай Прачысценскай царквы Якаву Семяновічу (Сямёнавічу) ад 21 красавіка 1577 года. Гэта за сем гадоў да запрашэння ў Нясвіж езуітаў і надання ім зямель на Нясвіжчыне. і за 19 гадоў да Берасцейскай уніі. Вялікі дзякуй лідскаму гісторыку Леаніду Лаўрэшу, які знайшоў гэты дакумент.

**31.**

**1577 г. 21 красавіка. Дарчы ліст Літоўскага дворнага маршалка Мікалая Хрыстафора Радзівіла святару Нявіжскай Прачысценскай царквы Якаву Семяновічу.**

Прачысценская царква знаходзілася ў прадмесці Нясвіжа. На яе забеспячэнне князь Радзівіл


АРХЕОГРАФИЧЕСКІЙ СБОРНИКЪ

ДОКУМЕНТОВЪ

ОТНОСЯЩИХСЯ КЪ ИСТОРІИ СѢВЕРОЗАПАДНОЙ РУСИ

ИЗДАВАЕМЫЙ

ПРИ УПРАВЛЕНІИ ВИЛЕНСКАГО УЧЕБНАГО ОКРУГА.

ТОМЪ СЕДЬМОЙ

собранный въ Несвижѣ

и

изданный П. Гильтебрандтомъ и А. Миротворцевымъ.

ВИЛЬНА, 1870.

даў дзве ворыўныя валокі, дазволіў свабодны ўезд у Нясвіжскую пушчу з правам карыстання лесам на пабудовы і ацяпленне і права сыціць штогод не больш за дваццаць мядніц мёду.

*“Мікалай Крыштаф Радзівіл, князь на Алыцы і Нясвіжы, маршалак дворны Вялікага Княства Літоўскага. Чынім яўна і вызнаём гэтым нашым лістом усім разам і кожнаму асобна ... нашае і таксама па хадайніцтву і просьбе некаторых... далі гэтым лістом нашым у моц і ва ўсялякія... святую царкву нашую рускую заснавання Нараджэння Прачыстай, на прадмесці горада нашага Нясвіжскага, святару... нашаму папу Якаву Семяновічу з усім на ўсё і... пажыткамі і прыходамі царкоўнымі аж... Да каторай жа то мы той царквы нашай дзве валокі ворнага вольнага грунту Нясвіжскага, з тым, што тыя валокі ў сабе маюць, г.зн.: з сенажацямі, з ворывам, з зараслямі... аж, з пляцам і агародам Пархімоўскім... і жыллё слуг царкоўных. Да таго яшчэ далі і дазволілі таму ж папу нашаму Якаву ў кожны год два разы мядовы склад, колькі быць можа, сыціць, а ад таго мёду воск на свечкі пастаўныя даваць; тады ж вольна яму будзе да пушчы нашага замка Нясвіжскага паблізу горада ўязджаць і ўсякае дрэва на будоўлю, таксама дровы і лучыну на абагрэў, да дому свайго папоўскага на патрэбу сабе дабравольна вазіць. А з таго ўсяго, што вышэй названа, ні адной ніякай павіннасці ані падачы даваць не будзе, аж да смерці сваёй, адно толькі службу Божыю і ўсялякія цырымоніі, паводле старадаўняга звычаю і прыналежнасці сваёй кіраўніцтву духоўнаму закону іх грэчаскаму пры той царкве нашай чыніць і парадкаваць мае і павінен будзе. А на цвёрдасць гэтага надання і ласкі нашай далі яму гэты наш ліст пад пячаткай і з падпісаннем уласнай рукі нашай.*

*Пісана ў Міры, лета Божага Нараджэння тысяча пяцьсот семдзесят сёмага, месяца красавіка, дваццаць першага дня.*

*Мікалай Крыштаф Радзівіл”.*

Унізе дакумента допіс:

*“На два кануны альбо склады ж выходзіць у год дваццаць мядніц мёду, г.зн. на кожны канун па дзесяць мядніц мёду, каб больш не сыціць звыш дваццаці мядніц на год”.*

Дакумент гэты ўзяты з “Мінскіх актаў”, сабраных і выдадзеных у 1848 г. тадышнім менскім губернатарам Сямёнавым.

Я пераклаў дакумент са старабеларускай мовы, што было зусім няцяжка, хоць нейкія тэрміны і засталіся няяснымі.

Пры сыне Чорнага Мікалаі Крыштафе Радзівіле Сіротцы ў Нясвіжы прайшла жорсткая контррэфармацыя. Сіротка запрасіў у Нясвіж найбольш радыкальны манаскі ордэн - Ордэн Езуітў. 10 жніўня 1584 года быў выдадзены **“Ліст Мікалая Крыштафа Радзівіла, князя на Алыцы і Нясвіжы, графа на Шыдлаўцы і Міры, аб заснаванні ім у горадзе Нясвіжы Калегіі езуітаў і дараыванні ёй будынка касцёла** (магчыма, пераробленага з кальвінісцкага збору)**, а таксама зямельнай уласнасці, у т.л. сёл Рудаўка, Вужанка з маёнтка Нясвіж, з маёнтка Ліпск з мястэчкам Ліпск і з сёламі Тухавічы, Залужжа, Свяціца, Навасёлкі, Раздзялавічы, Рэпехава** (не існуе) **і Залішэнне Наваградскага павета...”.** Цалкам ліст апублікаваны ў кнізе “Памяць. Нясві-



***Афіцыйная копія ліста М.К. Радзівіла Сіроткі ад 10 жніўня 1584 года аб заснаванні ў Нясвіжы Калегії езуітаў і яе матэрыяльным забеспячэнні (фрагмент)***


*Выгляд касцёла езуітаў у Нясвіжы ў XIX стагоддзі. Казімір Пястушкевіч*

жскі раён” на старонках 43-46. Як ужо згадвалася, у 1586 годзе Радзівіл перадаў Нясвіжскай плябаніі, а гэта значыць езуітам, яшчэ 8 валок сейлавіцкіх зямель, а ў 1598 годзе і Амлынцы.

У 1587-1593 гадах быў пабудаваны нясвіжскі касцёл Божага Цела па праекце італьянскага архітэктара Я.М. Бернардоні. У 1601 годзе касцёл быў асвечаны. Усе каталіцкія засценкі, прылеглыя да Нясвіжа, аказаліся ў Нясвіжскай каталіцкай парафіі і, канешне, **засценак Сейлавічы**.

Вёскі ў большасці заставаліся праваслаўнымі.

Пасля Берасцейскай уніі пачала рэалізоўвацца ідэя прывядзення ўсяго паспольства да адной канфесіі. Пачала рэалізоўвацца царкоўная Унія.

Часы Уніі на Нясвіжчыне, можа, некім і даследаваны, але мне тое даследаванне не вядомае, таму скарыстаюся інфармацыяй, якая ў асноўным сабрана ў кнізе Дзяніса Лісейчыкава **“Святар у беларускім соцыюме. Прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596 - 1839 гг.”**

На нашай тэрыторі мы знайходзім тры рэлігійныя цэнтры: сам Нясвіж, Кунасу і Сейлавічы.

Першы ўніяцкі святар, імя якога захавалі архівы, гэта **Каменскі (Камінскі) Яўстах**, *Kamienski (Kaminski) Eustachi*, памёр да 27 01 1635. Святар царквы Св. Юрыя ў г. Нясвіжы Навагрудскага пав. 25.09.1627 *[386, арк. 201-201 адв., 203 адв. 205]*.

Наступны святар гэтай царквы **Меляшкевіч Васіль**, *Mieleszkiewicz (Mileszkiewicz) Bazyli*, прэзентаваны віленскім кашталянам Альбрыхтам Уладзіславам Радзівілам, высвечаны і інсталяваны мітрапалітам І. Руцкім-Вельямінам; святар царквы Св. Юрыя ў г. Нясвіжы Навагрудскага пав. 27.01.1635 *[386, арк 204-205]*.

І больш мы царкву Св. Юрыя ў Нясвіжы не сустракаем. Прычына відавочная. Падчас вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай у 1654 - 1667 гг. Нясвіж двойчы ў 1654 і 1659 гадах быў узяты штурмам і разрабаваны, а яго ўмацаванні пашкоджаны. Аблогі замка былі безпаспяховыя. Ворага з Нясвіжа два разы выбівалі. Узяць горад у 1660 годзе царскія войскі ўжо не змаглі, але разбурэнні былі значныя. Была знішчана і царква Св. Юрыя. Новую царкву адбудавалі ўжо пад новым імем.

Пабудаваў новую царкву пратапоп **Фалькоўскі**, магчыма, бацька святара і будучага пратапопа **Бенедыкта Фалькоўскага.**

**Фалькоўскі Бенедыкт**, *Falkowski Benedykt*, святар цэркваў Перамянення Божага і Нараджэння Багародзіцы ў г. Нясвіжы Навагрудскага пав. 24 11.1680-03.1696, нясвіжскі пратапоп 03.1696 *[250, арк 92 адв , 698, арк 20.]*.

Пры ім **Хіевіч Ян**, *Chiiewicz Jan*, вікары царквы Перамянення Божага ў г. Нясвіжы Навагрудскага павета, 1680 *[250, арк. 94.]*.

У 1680-1682 гг. прайшлі візіты (інспекцыі) уніяцкіх цэркваў па ўсім ВКЛ. Матэрыялы па іх захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарыч-



нага архіва Беларусі. Некаторую інфармацыю мы знайходзім у другой кнізе Дзяніса Лісейчыкава **“Візіты ўніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680–1682 гг.”** (Мінск, 2009). Тут мы знайходзім апісанне Нясвіжскай парафіі:

*“Месца: Нясвіжскія цэрквы. Д(ня) 24.9 бга.*

*10. Вялебны ў Богу айцец Бенедыкт Фалькоўскі, празбітар, трымае царкву, закладзеную як Перамяненння Панскага ў Нясвіжы. Фундацыя яснаасвечаных князёў іх міласцяў Радзівілаў. Фундуш ёсць у архіве, але цяпер айцец яго да сябе ўзяў для рэстаўрацыі ў князя яго міласці.*

*Сама царква драўляная, новая, прыгожая. Коштам і стараннем святой памяці правялебнага ў Богу айца Фалькоўскага, пратапопа нясвіжскага, пастаўленая. У якой дэісус у алтары новы цяпер выстаўлены панам Шаркам, нясвіжскім бурмістрам. Найсвяцейшы сакрамант знаходзіцца ў належным доглядзе. Срэбны келіх з патынай, зоркай і лыжачкай. Евангеллі два, у срэбра апраўленыя, на адным пяць таблічак і чатыры пуклы і срэбныя клаўзуры; другое са срэбнай таблічкай і латуннымі таблічкамі. Таксама з патынай, зоркай і срэбнай лыжачкай. Служэбнік, Трэбнік, Паўуставец, Апостал, Трэфалойчык, дзве Трыёды, Псалтыр, Ахтаік, Часоўнік, усё... (сказ не завершаны). Срэбны крыж з сэдасам (падстаўкай) на дрэве. Ермалой і Ахтай рукапісныя. Антыміс падвешаны. Літонаў - два. Ліхтароў вялікіх алавяных - восем, меншых - чатыры, латунных - шэсць. Усіх тувален - шаснаццаць. Хустка - адна. Антыпендый - шэсць, фіялетавая - адна, зялёных атласных - дзве, з гербавай кітайкі - адна, скураных - дзве. Кадзільніца латунная. Алтарных званкоў - тры. Воздухаў вялікіх, багата гафтаваных - шэсць, малых - пяць. Бурса і гумерал гафтаваныя. Лішваў, ядвабам вышытых - пяць. А таксама фальцаваных - 4. Капланскі ўбор: рыз усякіх васільковых - восем з патрахіламі і поручамі, новыя, а менавіта: адна золатагаловая, чырвоная, другая ў кветкі, турэцкай матэрыі, трэцяя атласная, чырвоная, чацвёртая яркажоўтая, аксамітная, пятая адамашкавая, жоўтая, шостая атласная чорная, сёмая аксамітная чорная, восьмая ядвабная пярэстая. Альб - чатыры, усе шытыя з гумераламі і адным паскам. Мірніца алавяная. Пушка для кадзіла алавяная. Каберац стары і кілім чырвоны стары. Лямп - дзве, алавяная і латунная. Ліхтар вісячы на дванаццаць свечак. Воты залацістых карон - дзве, трэцяя белая, срэбных*




***Карта візітаў уніяцкіх цэркваў Менскага і Наваградскага сабораў 1680–1682 гг., паводле якой сейлавіцкія землі знаходзіліся ў Наваградскім павеце, але ніякіх візітаў у раён Сейлавіч і Кунасы не было. Хутчэй за ўсё, у 1680-82 гадах яшчэ ні Кунаскай, ні Сейлавіцкай цэркваў не было. У кнізе “Памяць. Нясвіжскі раён” пазначана, што Кунаская царква вядома з 1730-га года, таму ў 1680-м яе сапраўды яшчэ магло не быць***

*ручак - дзве, срэбных крыжыкаў - чатыры, срэбных пярсцёнкаў - пяць, чыста залатых - два і чырвоны залаты, табліц вялікіх і малых з вушкам - трыццаць дзевяць, зорачак срэбных - 4, ланцужкоў срэбных - 2, пасак літы, срэбны; перлаў - восем шнуроў, дзвяяты з чырвонымі каралямі. Харугвы - дзве. Званоў на званіцы - тры. Запанкі з кітайкі дзве. Сукно чорнае, брацкае. Плябанія: пакояў белых - тры, камор - дзве, школа з сеньмі. Усё пабудавана стараннем нябожчыка айца пратапопа. Да таго стайні дзве драўляныя. Зямлі да гэтай царквы ў горадзе тры пляцы, што на Падвале, дзе і плябанія пабудавана. Зямлі ворнай усяго валок дзве, на якіх тры падданыя.*

*Да таго царква за горадам Нараджэння Найсвяцейшай Панны, пастаўленая мяшчанамі. Ніякага няма надання.* (Скарэй за ўсё гэтая царква была аднаўлена на месцы, дзе некалі была праваслаўная царква Нараджэння Прачыстай, якая

стаяла ў прадмесці і фундуш якой надаў сам князь Радзівіл Сіротка, *аўт.*)

*Парафія: горад Нясвіж, вёскі Круты Бераг, Квачы, Ліпа, Пахабаўшчына, Вайнілавічы, Лань, Чановічы, Качановічы,* ***Сейлавічы****, Затур'я. Усіх душ - 1500.*

*Каплан сам прыкладных паводзін. Мае на сваім утрыманні вялебнага айца Яна Хіевіча.*

*Лісты, квіты, канстытуцыі, метрыкі хрышчэнняў і шлюбаў прадставіў".*

Перакладаўся гэты тэкст з польска-беларускай трасянкі 1680 года дзеля таго, каб паказаць стан уніяцкай царквы і парафіі ды месца Сейлавіч і прылеглых вёсак у ёй. Дзякуй вялікі Дзянісу Лісейчыкаву, які разабраў рукапісы і прывёў тэксты да друкаваных літар. А тут гэты тэкст упершыню публікуецца па-беларуску.

Наступны па часе нясвіжскі ўніяцкі святар, чыё імя захавалі архівы, **Гамаліцкі Ян**, Homolicki Jan, святар царквы ў г. Нясвіжы (тытул не пазначаны) Наваградскага пав., 05.031723. *[386. арк 201].*

Наступны і апошні **Янкоўскі Сільвестр**, Jankowski Silwiester, высвечаны і інсталяваны дапаможным берасцейскім епіскапам А. А. Младоўскім 20.11.1765, ітрэіентаваны віленскім ваяводам Каралем-Станіславам Радзівілам 03.05.1768, святар царквы Перамянення Божага ў г. Нясвіжы Наваградскага пав. [20 11.1765 - 15.03.1784, адміністратар царквы ў в. Голдавічы (сёння не існуе) Слуцкага пав 05.05.1798] *[143, арк 7; 571. арк. 94 адв.-95].*

І так, вёскі **Сейлавічы і Затур'я** адносіліся да Нясвіжскай парафіі Перамянення Божага. У той жа кнізе мы знойдзем, што **Юшавічы, Ракавічы і Слаўкава** адносіліся да Салтанаўскай парафіі, а **Андрушы** - аж да Магільнянскай. Дзе Андрушы - дзе Магільна! Многіх вёсак мы не знайходзім. Магчыма, яны належалі да іншых канфесій. Само сабой засценкі былі рымска-каталіцкія.

Другая царква ў наваколлі Сейлавіч - **Кунаская Дабравешчанская царква**. Яна паводле кнігі "Памяць Нясвіжскі раён" фіксуецца ўжо ў 1730 годзе. Царква таксама ўніяцкая, але ў справаздачы пра візіт 1680 года не згадваецца, бо яе яшчэ не было.

Імя першага кунаска святара, якое ўдалося знайсці **Данцэвіч N.** *Dancewicz*. Памёр да 06.04.1784. Святар парквы ў в. Кунаса Наваградскага пав., 1756 г. *[571, арк. 138-138 адв.].*

Праз 11 гадоў яго змяніў **Плаўскі Плацыд**, *Plawski Placyd*, + да 04.07.1786. Высвечаны і інсталяваны дапаможным берасцейскім епіскапам А.А. Младоўскім 15.10.1765, без калятарскай прэзенты (дазволу) калятара царквы, віленскага ваяводы Караля Станіслава Радзівіла, які знаходзіўся ў гэты час у эміграцыі. Святар грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы ў вёсцы Кунаса Наваградскага павета з 15.10.1765 па 06.04.1784 гг. Быў жанаты з дачкой святара Канстанцыяй Плаўскай з Юркевічаў. [15.10.1765-06.04.1784] *[247, арк 40 адв, 571, арк. 138 адв.].*

Пра аднаго з першых святароў Кунаскай царквы і яго сям'ю мы даведваемся з надрукаванага ў часопісе "Нясвіжскія каеты" № 3-4 (ліпень-снежань 2019 г.) артыкула Леаніда Лаўрэша **"Як кунаскі хлопец у святары прабіваўся":**

*"У Віленскім архіве захоўваецца* ***"Справа аб жыцці і звычаях аспіранта*** (прэтэндэнта на пасаду святара *Л. Л.*) ***ВП Цыпрыяна Плаўскага, ад 24 лістапада 1803 года".*** *(ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 7. Спр. 134. Арк. 1 - 12.)*

*З дакумента можна даведацца, як у 1803 г. у Нагародавіцкай плябаніі Лідскага дэканата разбіралася справа аб высвячэнні святарскага сына Цыпрыяна Плаўскага* (сына Плацыда Плаўскага) *ў святары.*

*Справа пачалася распараджэннем біскупа Язафата Булгака, які даручыў Лідскаму дэкану Стэфану Гарбацэвічу, згодна з кананічным правам і рашэннямі Замойскага сабору, правесці належнае расследаванне.*

**Запіс аб хрышчэнні**

"Я, ніжэй падпісаўшыся, якога прасілі аб выдачы метрыкі пра хрышчэнне з парафіяльных кніг Кунаскай царквы, знайшоў такія запісы ў царкве і выдаў іх у наступным выглядзе:

*"15 дня месяца красавіка 1777 года я, святар Ян Заўсцінскі, парах Гавязнянскай царквы, ахрысціў і бежмаваў сына, які мае імя Цыпрыян, (народжанага) ад бацькоў - мужа і жонкі: вялебнага святара Плацыда Плаўскага, параха Кунаскага, (і) ад маці, ЯВП Канстанцыі Плаўскай з Юркевічаў. Хросным бацькамі былі ЯВП Андрэй Корсак, паручнік літоўскіх войскаў, з ЯВП Мар'яна Мікуцёва".*

*Дадзеную выпіску выдаю ў папярэднім выглядзе, сведчу, што (яна) адпавядае запісу ў кнігах, якія знаходзяцца пры Кунаскай царкве. І гэта ўласнай рукой пры звычайнай пячатцы падпісваю.*

*Дадзена ў Кунасе 26 жніўня 1802 года.*

*Святар Афанасій Гамаліцкі, адміністратар Кунаскай царквы".*

Патрэбныя дакументы даслалі біскупу Язафату Булгаку, і ў выніку Цыпрыян Плаўскі пачаў служыць у Турэйскай парафіі.

Цыпрыян Плаўскі меў сыноў Францішка (1803 г. н.) і Рыгора (1806 г. н.). У 1837 г. яго сын Францішак служыў у Чарлёне і ў канцы гэтага года стаў Гарадзенскім дэканам.

Пасля смерці Плацыда Плаўскага парахам (настаяцелем, кіраўніком парафіі) стаў **Навіцкі Ігнат сын Лявона**, *Nowicki Ignacy, Новицкій Игнати зъ отца Левона*. Нарадзіўся ў 1763 г. Вучыўся ў Навасвержанскай духоўнай семінарыі; высвечаны мітрапалітам Я. Смагаржэўскім 24.08.1784; прэзентаваны віленскім ваяводам Каралем-Станіславам Радзівілам 04.07.1786, адміністратар царквы ў в. Кунаса Навагрaдскага пав. 04.07.1786. прэзентаваны 04.11.1798 г. адміністратар 06.09.1795 - 03.11 1798] і святар 04 11.1798 - 26 12 1819 царквы ў м. Стоўбцы Менскага пав., экзаменатар Менскага дэканата 05.05.1798 - 04.11.1798, "абавязкі выконвае ўхвальна" 26.12.1819, следчы дэпутат [14.12.1814 - 26 12 1819]. Жонка Марыяна дачка Мацея, * 1765, сыны: Ян, * 1786, на цывільнай службе 26.12.1819, Іосіф, * 1789; дачка Францішка. * 1784 *[143. арк 5 адв , 231. арк 183 адв.-184. 247, арк 40 адв , 324, арк 515 адв 516]*.

Пасля пераводу святара Ігната Навіцкага ў Стоўбцы ў Кунасу быў прызначаны **Гамаліцкі Апанас**, *Homolicki Atanazy*, адміністратар царквы ў в. Кунаса Слуцкага пав 05.05.1798 г. Сын Ян, *21.05.1792. *[143, арк 7; 609]*. **Апанас Гамаліцкі** 26 жніўня 1802 года падпісаў даведку аб нараджэнні Цыпрыяна Плаўскага, падпісаў як святар адміністратар Кунаскай царквы.

І, мабыць, апошнім кунаскім уніяцкім адміністратарам быў **Есьмановіч Аляксандр**, *Іесмановичъ Александръ*, нарадзіўся ў 1782 г. Адміністратар царквы ў в. Кунаса Слуцкага пав. [1814-25.02.1837 г., не прэзентаваны калятарам 08.12.1819 г. Сын Ігнат, * 1812 [233, арк 58, 695]. Пры ім **Шпакоўскі Мацей** *Шпаковскій Матфей*, выконваў абавязкі служкі царквы ў в. Кунаса Слуцкага пав 08 12.1819. *[233. арк 58]*

У 1815 годзе ў Кунаскі прыход уваходзілі 13 навакольных вёсак, 2226 прыхаджан. Ёсць інфармацыя, што ў1815 годзе Кунаская царква была адрамантавана за радзівілаўскія грошы, але адкуль узяліся тыя грошы - не зразумела, ніводнага Радзівіла ў Нясвіжы ў гэты час не было. Пры гэтым Сейлавічы ў Кунаскую ўніяцкую парафію не ўваходзілі.

У 1839 годзе Унія была ліквідавана. Гісторыя Кунаскай уніяцкай царквы закончылася.

І нарэшце самі Сейлавічы.

Першае імя сейлавіцкага ўніяцкага святара, якое знайшлося ў архіве, - **Жылінскі Антон**, *Жылінский Антоній*, капелан капліцы ў в. Сейлавічы Слуцкага пав. 08.12.1819 г. (да яе адносяцца парафіяне царквы ў г. Нясвіжы, пераведзенай у праваслаўнае ведамства). *[233, арк. 58 адв,, 60 60 адв.]*.

Адсюль мы атрымоўваем вельмі важную інфармацыю:

- сейлавіцкая святыня першапачаткова мела статус капліцы;
- капліца была ўніяцкая;
- у 1819 годзе капліца ўжо была. У любым выпадку будынку ўжо больш за 200 гадоў;
- сейлавіцкая капліца на пэўны час была святыняй Нясвіжскай уніяцкай парафіі, пасля таго, як нясвіжская царква (цэрквы) была адабрана (адабраны) ад уніятаў і пераведзена ў праваслаўе.

Другі вядомы сейлавіцкі ўніяцкі святар - **Васілеўскі Ян**, *Wasilewski Jan*, капелан капліцы ў в. Сейлавічы Слуцкага пав., 03.08.1828- 27.01.1833 (да яе адносяцца парафіяне царквы ў г. Нясвіжы Слуцкага пав, пераведзенай у праваслаўнае ведамства). Жонка Ганна Здановіч; сыны: Канстанцін, * 15 04 1826, Аляксандр * 03 08.1828 [291, арк. 42-42 адв.].

Адсюль мы можам зрабіць выснову, што Сейлавічы заставаліся цэнтрам Нясвіжскай уніяцкай парафіі, прынамсі да 1833 года

Сейлаўцы памяталі, што сённяшні Сейлавіцкі касцёл быў уніяцкай царквой. Пра гэта сведчыць гутарка з Янам Некрашам (1921 г.н):

“ - Тут былі нейкія ўніяты, яны і пабудавалі касцёл, а потым ён нам застаўся.

*- А вы адкуль гэта ведаеце. Гэта ж не пры вашай памяці было?*

- А мне дзед казаў.

*- А дзеда як звалі?*

- Ну як? Ясь. А бацька быў ужо Адам Іванавіч”.

Другое сведчанне. Сейлавіцкі касцёл стаіць алтаром на ўсход, так як і ставіліся ўніяцкія цэрквы.

І нарэшце драўляная фігурка Хрыста ў пустыні. Ксёндз-пробашч з Нясвіжа гаворыць: “Хрыстос своеасаблівы”.

Гэтая фігурка мае сваю цікавую гісторыю. Паэтычна пра яе напісана ў маім сказе “Пілігрымка дадому”. Сказ надрукаваны ў “Нясвіжскім утоку” № 1, 2017 г. і асобнай кніжкай, 2018 г. Празаічна я рабіў даклад пра фігурку на навуковай канферэнцыі **“Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух”** 16 красавіка 2012 г.:

**“Легендарнае і рэальнае вакол фігуркі Ісуса Хрыста ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна**

Цудатворная фігурка Ісуса Хрыста ў в. Сейлавічы Нясвіжскага р-на ўяўляе сабой выразаную з дрэва скульптуру Ісуса Хрыста, які сядзіць на камені. Фігурка выразана з лёгкага дрэва (клён, ліпа, ясень), пакрыта тканевым плашчом і знаходзіцца ў алтары Ісуса Хрыста ў сейлавіцкім касцёле Сэрца Езуса справа ад галоўнага алтара.

Аповед пра з'яўленне фігуркі ў Сейлавічах адпавядае ўсім прыкметам легенды. Быццам бы аб'явілася фігурка людзям на бярозавым гуку (галіне). Пазней непадалёк ад той бярозы была пабудавана царква. Паэтычна аб'яўленне фігуркі ў Сейлавічах апісана ў маёй паэме "Пілігрымка дадому".




***Сейлавіцкая капліца (цяпер касцёл) у канцы 1990-х гадоў. Дарога каля касцёла - знакаміты некалі гасцінец Нясвіж-Магільна***

Паводле стылю выканання, які вызначаецца пэўнай вольнасцю, фігурку трэба адносіць да часоў уніі, а гэта значыць на пачатак 19-га, а то і канец 18-га стагоддзя. Прынамсі ў 1920 годзе людзі яшчэ ведалі тую бярозу, на якой аб'явілася фігурка.

Пра тое, што сённяшні сейлавіцкі касцёл быў пабудаваны як уніяцкая царква, сведчаць яго архітэктурныя асаблівасці, гісторыя і ўспаміны старажылаў.

Так, Ян Некраш (к. 1921 г.н.) гаварыў: "Мне расказваў дзед Ясь (Ян Некраш, к. 1860 г.н.), што тут былі некалі нейкія ўніяты, а потым нам усё засталося". Відавочна, што дзед Ясь ужо тых уніятаў не бачыў, а сам пра іх ведаў з расповеду свайго нават не бацькі, а дзеда. І фраза "нам усё засталося" таксама не дакладна адпавядае рэчаіснасці, бо пасля ліквідацыі уніі сейлавіцкая царква стала не касцёлам, а праваслаўнай царквой.

Прыператварэнні ўніяцкіх цэркваў у праваслаўныя, як правіла, з іх выдаляліся ўніяцкія абразы, лаўкі, званочкі, арганы. Аргана ў Сейлавічах ніколі не было, прынамсі слядоў яго размяшчэння няма. Абразы маглі вывезці ў Нясвіж, у касцёл, не трэба думаць, што іх было вельмі шмат. А вось фігурка Ісуса Хрыста засталася на месцы, хоць да праваслаўнай царквы ніяк не пасавала, але, відаць, яна моцна шанавалася мясцовымі жыхарамі, і новыя ўлады вынесці яе з царквы не адважыліся.

Да 1919 (1920) года ў сейлавіцкай царкве быў свой настаяцель. На жаль, дабіцца інфармацыі пра імя ці прозвішча сейлавіцкага бацюшкі тых часоў пакуль не ўдалося, але пра тое, што праваслаўны бацюшка жыў у Сейлавічах, сведчыць тое, што хутары Касцянева мелі паралельную назву Папоўшчына (магчыма, Папоўшчына - гэта толькі частка Касцянева, бо ўсё Касцянева - гэта недзе гектараў 70, а на Нясвіжчыне гэта вельмі шмат, тут некаторая шляхта мела па 7 гектараў). Пра тое, што бацюшка жыў у Сейлавічах, сведчыць ход далейшых падзей і мянушкі некаторых сейлаўцаў.

Праваслаўная царква ў Сейлавічах функцыянавала якраз гадоў 80, з 1839 да 1919 (1925) года, да ўстанаўлення польскай улады. Польска-савецкая мяжа прайшла ад Сейлавічаў за 7-8 кіламетраў на ўсход. Адпаведна Сейлавічы аказаліся на польскай тэрыторыі і ў памежнай зоне. Тут размясціўся пастарунак, на пэўным этапе гэта была памежная застава або і больш буйная залога. Прынамсі, пры пастарунку было вялікае "баявіска" - шыхтовы пляц, поле для вайсковых практыкаванняў і заняткаў. На месцы гэтага “баявіска” пасля вайны пры апрацоўцы агародаў пастаянна знаходзілі польскія вайсковыя гузікі, медныя лыжкі, быў знойдзены "Крыж валечных".

Ператварэнне праваслаўнай царквы ў каталіцкі касцёл адбылося ў 1925 годзе. Як распавядаў Казімір Некраш (1929 г.н.), польскі капітан зайшоў да сейлавіцкага бацюшкі і папрасіў ключы ад царквы, каб адспавядаць жаўнераў. Ключы бацюшку больш не вярнулі.

Трэба адзначыць, што ў дадзеным выпадку пры ператварэнні сейлавіцкай царквы ў касцёл у дзеяннях польскіх уладаў была пэўная логіка. На дадзенай тэрыторыі на той момант знаходзіліся дзве праваслаўныя царквы на адлегласці трох кіламетраў адна ад другой: у Сейлавічах і ў Кунасе. Абедзве яны некалі былі ўніяцкія, і маральнае права на абедзве мелі і католікі, і праваслаўныя. Але ў Сейлавічах царква стаяла ў шляхецкім засценку, які на гэты час цалкам быў каталіцкім, а ў Кунасе насельніцтва было амаль цалкам праваслаўнае, шляхецкіх сямей там засталося адна ці дзве. Таму

палякі даволі абгрунтавана вырашылі забраць пад касцёл царкву ў Сейлавічах, а для праваслаўных пакінуць царкву ў Кунасе. Такі падыход быў зразумелы і вялікага абурэння праваслаўнага насельніцтва не выклікаў, ды і не моцна польскія вайсковыя ўлады на той народ зважалі.

Праз некаторы час пачалося ўладкаванне касцёла ў Сейлавічах. Паўтарылася ўжо вядомая гісторыя з часоў ліквідацыі ўніі. Прыехаў ксёндз. З царквы пачалі выносіць на гэты раз усё праваслаўнае начынне. Павыносілі абразы, аналой, падстаўкі пад свечкі, усё іншае, уладавалі на воз. Вынеслі і паклалі на воз і фігурку Ісуса Хрыста. Усё павезлі ў кунаскую царкву. А назаўтра фігурка ізноў аказалася на тым самым гуку, на той самай бярозе.

Гэтае другое аб'яўленне фігуркі на бярозе ў Сейлавічах цалкам паўтарае першую легенду. Але пра яго распавядаюць ужо ўсе сейлавіцкія старажылы. На жаль, усе яны нарадзіліся ўжо пасля 1920 года, самі былі або малыя, або яшчэ іх і не было, і распавядаюць пра тыя падзеі паводле аповядаў сваіх бацькоў і дзядоў. Аднак гэтае другое аб'яўленне было моцна ўбіта ў памяць, як і наступныя падзеі, з ім звязаныя.

Вестка пра паўторнае аб'яўленне фігуркі на бярозе ў Сейлавічах мігам абляцела ўвесь засценак і ўсю вёску (Сейлавічы тады складаліся з двух населеных пунктаў: засценка Сейлавічы і вёскі Сейлавічы, а разам на ўсё паселішча гаварылі "сяло"). Ля бярозы сабраліся і каталікі, і праваслаўныя, і вайскоўцы. Прыйшоў ксёндз.

Ну і што рабіць? Учора фігурку Хрыста вынеслі з касцёла, а сёння яна зноў тут. І настрой у народа сёння зусім іншы. Але ж і ксяндзу, што рабіць? Фігурка то Хрыста, фігурку шануюць і праваслаўныя, і каталікі, а з касцёла яе вынеслі, а ў Кунасе яна быць не захацела. Трэба даходзіць да ладу.

Раду вырашылі даць наступным чынам - пабудаваць каля касцёла пад той бярозай асобную каплічку з асобным алтаром для гэтай фігуркі, каб была гэтая каплічка агульнай для каталікаў і праваслаўных. Такі матэрыяльны сімвал экуменізму ў асобна ўзятых Сейлавічах.

Каплічку пабудавалі, алтар уладкавалі, вера ў цудадзейную сілу фігуркі толькі ўмацавалася. Жонка польскага капітана пашыла для фігуркі плашчык. Польшча Польшчай, а язычніцтва неўміручае, як гэта Хрыстос будзе не апрануты, холадна, пашылі плашчык. І часта можна было бачыць, як поўзаюць вакол каплічкі людзі, найчасцей праваслаўныя бабкі, просячы ў фігуркі Божай ласкі, пазбаўлення ад хваробы, ад іншых няшчасцяў. Чаму поўзалі? Не поўзалі, а праходзілі на каленях тры рытуальныя кругі вакол капліцы, ахвярныя



***Цудадзейная фігурка Хрыста ў пустыні ў плашчыку.*** *Здымак 2018 года*

кругі. Дзеля ахвяры піхалі дробныя грошы ў шчыліны капліцы. Ксёндз Даменік паглядаў на гэта скоса, але не замінаў.

Так цягнулася да апошняй вайны.

У вайну немцы расстралялі ксяндза Даменіка.

Пасля вайны касцёл стаяў замкнёны. Людзі сяды-тады адмыкалі, каб памаліцца, у касцёле сталі харугвы, крыж, якія бралі, калі трэба было хаваць нябожчыка. Фігурка Хрыста знаходзілася ў капліцы, і людзі працягвалі складваць ахвяры да яе.

Надышлі 60-я гады 20-га стагоддзя. У Савецкім Саюзе наогул, а ў Беларусі асабліва, пачалася чарговая антырэлігійная кампанія.

*Як збіралі пустадомкаў з гарадоў і сёлаў,*
*Зачынялі пустадомкі цэрквы і касцёлы...*

Пустадомкі, гэта значыць савецкія і партыйныя актывісты ды атэісты, рушылі па гарадах і вёсках, руйнуючы і знішчаючы ўсё, што нагадвала пра Бога. Дабраліся пустадомкі і да Сейлавічаў. Пазразалі па ўсёй вёсцы крыжы, якія стаялі тут ад веку, абвязаныя ахвярнымі фартушкамі. Было тых фартушкоў мо па сотні на кожным крыжы. Вешала іх не адно пакаленне. Пазразалі крыжы на скрыжаваннях дарог, каля могілак. На могілках не чапалі. Пазбівалі крыжы нават з людскіх хат, што было насуперак і савецкаму праву, але на гэта не зважалі. Ну і, канешне, дабраліся да касцёла. Абвясцілі пра закрыццё. Людзі вынеслі з касцёла ўсё, што маглі. Разабралі па хатах абразы, харугвы, крыжы, кнігі... Калі пустадомкі прыйшлі да капліцы і спыталі, што там, то людзі адказалі, што там ста-

рыя венікі ды граблі, каб каля касцёла падмятаць, а ключа няма, а замок іржавы. Адчапіліся.

Так і засталася капліца адзіным святым месцам на ўсе Сейлавічы, ды і не толькі. У касцёле зрабілі склад для збожжа, пасля для мінеральных угнаенняў, а да капліцы прыходзілі жанчыны, паціху маліліся.

Але ніхто асабліва нічога не расказваў ні пра фігурку, ні пра яе гісторыю. Мы, колішнія піянеры і камсамольцы, наогул не ведалі, што яна там ёсць. Часам знаходзілі колькі ржавых капеек, якія вывальваліся са шчылін капліцы.

Капліцу не адмыкалі. Замок заржавеў зусім. Сама капліца пачарнела, пакасілася і нічым не выдавала, што ўнутры знаходзіцца найвялікшая сейлавіцкая святыня, ды і не толькі сейлавіцкая. Па значнасці гэтая ўніяцкая фігурка не менш каштоўная, чым абраз Маці Божай Жыровіцкай або Маці Божай Тракельскай, але воляй лёсу і да гэтага часу пра сейлавіцкую святыню амаль ніхто нічога не ведае. Няма спісу цудаў, якія здзейсніла фігурка, паўміралі сведкі, але сама фігурка ёсць, і яе гісторыя працягваецца.

Без малога сорак гадоў прабыла цудадзейная фігурка Ісуса Хрыста пад замком у капліцы. Прыйшлі лепшыя часы. У канцы 80-х - пачатку 90-х гадоў 20-га стагоддзя сышла ў небыццё антырэлігійная палітыка савецкай улады, а следам і сама ўлада. У Сейлавічах зноў адкрыўся касцёл, хоць як філіяльны ад Нясвіжскага, але адкрыўся. І людзі, і калгасы працавалі дзеля гэтага. Грошы давалі і каталікі, і праваслаўныя, як звыкла прынята ў нашым краі. Дарэчы, на адбудову кунаскай царквы таксама давалі грошы і праваслаўныя, і каталікі. А я ганаруся і буду ганарыцца тым, што крыж на самым версе таго касцёла мацаваў мой бацька



***Капліčка ў Сейлавічах.*** *Здымак 2018 года*

Вацлаў Суднік.

Касцельны двор агарадзілі плотам, шчыкетамі, што вельмі важна ў нашай гісторыі. Пайшлі рэгулярныя набажэнствы, а цудадзейная фігурка Хрыста - душа і абярэг Сейлавічаў працягвала стаяць пад замком у капліцы, і ніхто не рабіў у той бок ніякіх захадаў.

І не ад шчырай веры, і не ад памяці людской, і не ад нечай ініцыятывы, а ад звыклай нашай беднасці вярнулася фігурка Ісуса Хрыста ў касцёл.

Як ужо казалася, касцельны двор у пачатку 90-х гадоў агарадзілі плотам. Але шулы былі не дубовыя, шчыкеты, калі і маляваныя, то не адразу. Прайшло дзесяць гадоў, згніў той плот. Сейлавіцкі сельсавет зразумеў праблему і выдзеліў для агароджы касцёла плот бетонны. Выдзеліць то выдзеліў, але, як заўсёды, малавата. Мералі, лічылі, загарадзілі і выгарадзілі капліцу з касцельнага двара, засталася яна за плотам. У прынцыпе не хапіла чатыры праслы, па два з абодвух бакоў.

І вось з-за гэтых чатырох праслаў ізноў паўстала пытанне пра фігурку, пра якую, дзякуй Богу, было яшчэ каму помніць. У пачатку 2000-х гадоў узламалі ржавы замок на капліцы і ўнеслі фігурку ў касцёл, дзе і стаіць яна да гэтага часу ў тым, а мо новым плашчыку, але ў сваім алтары і ў Сейлавічах.

І пакуль яна там, нічога не пагражае і Сейлавічам.

А тое, што не вядомая яна ў свеце, што няма да яе шматлікіх пілігрымак, дык, можа, так і трэба, хай шануюць яе сейлаўцы, а ў іншых месцах хай шануюць свае святыні, і з тысяч такіх маленькіх шанаванняў выйдзе адно вялікае і ўсенароднае шанаванне і Усемагутнага Бога і ўсяго таго, што ён нам даў і дасць у наступныя вякі".

*(Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". Сучасны стан беларускага краязнаўства. Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі 16 красавіка 2012 г. і валанцёрскі рух. Ліда, 2012.)*

**Заўвага.** Праз некаторы час капліčку адрамантавалі, угарадзілі ў касцельны двор і фігурку вярнулі ў капліčку.

Ну і цяпер вельмі важнае пытанне. **Калі быў пабудаваны Сейлавіцкі касцёл?**

У 1819 годзе ўжо быў (статус - капліца).

Карта 1770 года не паказвае царквы ў Сейлавічах, хаця капліцу маглі і не паказаць.

Сейлавічы раслі. У 1796 годзе вёска налічвала 53 дымы, 285 жыхароў, была карчма.

У засценку традыцыйна было прыблізна столькі ж.

Згадаўшы, што Сейлавічы - гэта Нясвіжская парафія Перамянення Божага, можна рабіць выснову, што сейлавіцкая капліца - гэта капліца менавіта нясвіжскай царквы Перамянення Божага.

Улічыўшы падзеі, якія адбываліся ў гэты час: другі падзел Рэчы Паспалітай - 1793 год, паўстанне Касцюшкі - 1794 год, трэці падзел Рэчы Паспалітай - 1795 год, Напалеонаўская вайна - 1812 - 1813 гг., поўная неразбярыха са спадчынай Радзівілаў пасля смерці Дамініка Радзівіла ў 1813 годзе, можна зрабіць выснову, што сейлавіцкая капліца была пабудавана ў больш спакойныя адрэзкі нашай гісторыі: паміж 1770 і 1793 гадамі, або ў Паўлаўскую адлігу (1796 - 1801 гг.).

Калі б хто калі вырашыў надаць Сейлавічам герб, то, сыходзячы з усяго сказанага пра сейлавіцкую святыню, мэтазгодна было б звярнуцца менавіта да цудадзейнай фігуркі Езуса Хрыстуса.



***Герб аграгарадка Сейлавічы (праект)***

**Апісанне герба аграгарадка Сейлавічы**

На левай палове барочнага шчыта змешчана выява Езуса Хрыстуса з біблейскага сюжэту "Хрыстус у пустыні". Падстава: у сейлавіцкай капліцы захоўваецца цудадзейная фігурка Хрыста з XVIII стагоддзя, якая адпавядае гэтаму біблейскаму сюжэту. Фігурка мае складаную гісторыю, і ўся гэтая гісторыя цесна знітавана з гісторыяй Сейлавіч. Жоўты колер - колер пустыні і адначасова колер герба г. Капыля. Да Капыльскай акругі Сейлавічы адносіліся да 1920 года.

На правай палове шчыта зверху - радзівілаўскія "Трубы". Радзівілы - векавечныя сюзерэны нашага краю. "Трубы" Радзівілаў ёсць на гербе Нясвіжа. Знізу - герб Слуцка. Сейлавічы да 1792 года ўваходзілі ў Слуцкае княства, а пасля яго ліквідацыі, да 1920 - у Слуцкі павет. Сіні колер - колер, на якім традыцыйна падаюцца "Трубы" Радзівілаў, і сіні колер - асноўны колер герба Слуцка.

Штрых-пункцірная лінія сімвалізуе мяжу ("сцяну") паміж землямі засценка Сейлавічы і радзівілаўскімі землямі ў старыя часы ды рознымі іншымі ўладаннямі ў больш позьнія. "Сцяна" гэтая ўзнікла ў 16-м стагоддзі падчас Валочнай памеры каралевы Боны Сфорцы і непарушна на вялікіх адрэзках існуе да нашага часу. Прынамсі, мяжа паміж сейлавіцкімі і затурэнскімі (бузуноўскімі) землямі ёсць тая самая "сцяна" паміж землямі шляхты засценка Сейлавічы і землямі затурэнскіх радзівілаўскіх сялян.

Малы герб - проста выява Хрыста ў пустыні. Выява ўзята з копіі карціны Івана Крамскога



***Малы герб аграгарадка Сейлавічы (праект)***

"Хрыстус у пустыні". Узята з копіі невядомага аўтара ў вольным доступе. Аўтарскія правы Крамскога не парушаюцца.

Зрэшты малюнак трэба было б мець свой, унікальны. Можа, хто калі намалюе.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Уладзіслаў Станіслаў Рэймант*

# 1794 год

## Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Соймавая зала была вельмі высокая, доўгая і з белымі сценамі, прарэзаная высокімі вокнамі, і таму нагадвала як бы касцельны неф, толькі ўпрыгожаны з вялікай мадэсціяй[1]; гэтае падабенства яшчэ больш узмацнялася бочкападобнай столлю, размаляванай у блакітнаватыя разеткі[2], з якой звісалі на пазалочаных ланцугах чатыры медныя павукі з пяццюдзесяццю васковымі свечкамі кожны, а паміж вокнамі віселі партрэты каралёў у каранацыйных касцюмах.

Дубовая галерэя, абапёртая на слупы, абліцаваныя пад пярэсты мармур, ахоплівала памяшканне з трох бакоў, а ў франтоннай сцяне ў паўкруглым па-глыбленні, мудрагеліста высечаным у форме ракавіны, з пафарбаванымі золатам званочкамі і арнаментамі, знаходзілася ўзвышэнне, пакрытае чырвоным сукном, дзе стаяла высокае пазалочанае каралеўскае крэсла.

Насупраць, у другім канцы залы, таксама на памосце, толькі крыху ніжэйшым і пакрытым зялёным, стаяў стол маршалка сойму, сакратароў і месцы пісараў, якія запісвалі прамовы. А з бакоў залы і па ўсёй яе даўжыні стаялі дэпутацкія лавы, абцягнутыя зялёнай трыпай і з пюпітрамі для секстэрнаў і чарніліц, пасярэдзіне - шырокі вольны праход, а ўздоўж сцен, у цяні галерэі, былі вузкія праходы да выхадных дзвярэй, за якімі наглядала соймавая служба.

У нішы за пазалочаным крэслам таіліся дзверцы, заслоненыя чырвонай тканінай, а над імі бялела авальнае акенца, праз якое Сіверс, як кажуць, часта слухаў абмеркаванне, схаваўшыся за картунавай[3] фіранкай.

Галерэі былі ўжо цалкам перапоўненыя, і Зарэмба з немалым здзіўленнем прыглядаўся да публікі, бо ніколі не бачыў такой ні ў месцах сходаў, ні на якіх-небудзь асамблеях. Гэта быў збор самых розных простых людзей, якія сустракаліся толькі на вечарынках, у царкве ці на кантрактах[4]; а паміж імі мільгалі лісіныя, прыгнутыя галовы, моцна стрыгучы вушамі, нейкія латаныя хабіты і аскетычныя твары, нейкія змарнелыя людзі ў пацёртых вайсковых курткtах і нейкія драбы з тварамі разбойнікаў. Не бракавала таксама ні дам, што жавалі цукар, ні пераапранутых маскоўскіх афіцэраў, ні лакеяў у стракатых ліўрэях, якія гучна выказваліся пра сваіх гаспадароў і людзей усялякіх кандыцый.

Таму быў ужо немалы шум; некалькі дзесяткаў дэпутатаў гаварылі ў лавах і ў праходзе, іншыя пры маршалкоўскім стале ў паўголас чыталі дыярыюш[5] апошняга паседжання і раптуляр[6] бягучых спраў, а новыя ўсё яшчэ прыбывалі, сустрэтыя галёркай шумам то з удзячнасцю, то са зларадным смехам, то з такой грубай мянушкай, што чуўся агульны смех і тупат. Потым з кутка пачуўся бас:

- Мосці панове, цішэй! Мосці панове!

Так крычаў тоўсты Рох, старшы спраўнік соймавай службы, і стукаў кіем па падлозе, але не сцішыў зухвалага натоўпу, а толькі наклікаў на сябе абразы і кпіны.

- Р-р-р-роху! Р-р-р-роху! Р-р-роху, есць многа, а ходзіць па-троху! - на ўсеагульную пацеху кудахталі некаторыя жартаўнікі, пераймаючы галубкоў.

Але што найбольш здзівіла Зарэмбу, дык тое, што ён убачыў падкаморшу Грабоўскую.

* Пераклад Станіслава Судніка паводле Wladyslaw St. Reymont. Rok 1794. Ostatni sejm Rzeczypospolitej. Wydawnictwo Literackie. Krakow, 1953 г.

[1] Мадэсція (лац.) - сціпласць.

[2] Разетка (з франц.) - арнамент у выглядзе ружы ці іншай раскрытай кветкі.

[3] Картунавы (з ням.) - баваўняны.

[4] Кантракты (з лац.) - штогадовыя сходы шляхты, якія адбываліся ў вызначаныя дні і месцах для ўрэгулявання камерцыйных і маёмасных інтарэсаў.

[5] Дыярыюш (з лац.) - дзённік, спіс спраў

[6] Раптуляр (з лац.) - нататнік, запісная кніжка.

Яна сядзела на сярэдняй галерэі, над маршалкоўскім сталом, уся ў чорным, з веерам у руцэ і з не-грыцёнкам пры боку, які ўвесь час абмахваў яе веерам, бо ў зале было горача.

Заўважыла яго і яна, ды настойліва паклікала да сябе.

Ён выказаў глыбокае здзіўленне з гэтай сустрэчы, на што яна з пахвальбой сказала:

- Я не прапусціла ніводнага паседжання. Спытайся у драбантаў, колькі разоў яны мяне адсюль выганялі. Маршалак і гэтыя соймавыя саноўнікі не любяць, каб ім глядзелі карты, і пры любой прычыне гоняць арбітраў. Сядайце бліжэй, каб я магла абаперціся на вас пры патрэбе. Не я адна тут на паседжанні: справа сядзіць цудоўная Юла Патоцкая з сыночкамі, а каля яе - старая квахтуха матрона Агінская. Ёсць таксама і пані кашталянша Плятар з гэтай амшалай Баданёўнай ад сясцёр брыгітак. Часта бывае таксама маршалкова Цэньская са сваім прыгожым фраўцымерам. Яны гарачыя патрыёткі! - Яна раптам сцішыла голас і, засланяючы твар веерам, зашаптала яму на вуха: - Ты заўважыў мяне на балі, але я цяпер гэтага не памятаю, толькі не ўдавай з сябе цнатлівага Юзафа, бо я - не Путыфара[1], - яна ціха засмяялася.

- У мяне сапраўды не павінна было быць вачэй, - адразу адрэзаў ён, гледзячы на яе прыдзірлівымі вачыма, таму што яна ўразіла яго сваёй рашучасцю і прыгажосцю.

- Я стаўлю жаўнераў вышэй за ўсё, - шапнула яна мядовым голасам. - Хаця ў Войны язык куслівы, ён мне пра вас склаў шчырую рэляцыю.

- Война любіць усё прыўвялічыць для жартаў ці для ўласнай уцехі.

- Мадэстыя[2] заўсёды пасуе ветліваму кавалеру. Што так васпан выглядае?

- Здалося, убачыў у натоўпе знаёмы твар і недзе ён запрапаў.

- Ці не паручніка Закрэўскага, бо ён якраз цяпер на нас глядзіць?

- Вы яго ведаеце, пані падкаморша?

- Паміж намі ёсць нават далёкая канексія[3], з якой я яму прыходжуся нейкай цёткай і таму апякуюся ім. Але ўдае мне шалапута і не слухаецца.

- Затое перад нарачонай ён павінен ведаць нормы этыкету.

Яна раптоўна варухнулася і, схаваўшы веерам распалены твар, сказала:

- Ён мне ў гэтым прызнаўся, але я не памятаю, - голас яе быў прыдушаны.

- Кёнігоўна, бацька - палкоўнік каралеўскіх уланаў у Казеніцах.

- Ах, гэта тая смаркачка з ружовым тварыкам! - яна нарэшце авалодала сабой і здзекліва працягнула: - Марцін, відаць, возьме за ёю ў пасаг уланскі барабан і старую тэрліцу[4]. Не асаблівы выбар.

- Не ведаю яго сентыментаў, але, не вагаючыся, думаю, што з гэтага шлюбу нічога не будзе, - сказаў ён, не звяртаючы ўвагі на яе хваляванне.

Яна маўчала, пагружаная ў нейкую цяжкую барацьбу з самой сабой.

- "Horrendous publicum" [5], - прашаптала яна, шырока расплюшчыўшы вочы на Закрэўскага, які высунуўся з натоўпу і раптам нырнуў у яго.

- А плебс ужо пачынае анімаваць[6] айчыннымі справамі, - асцярожна адзначыў ён.

- Вось толькі, што дзе-нідзе, як міндаль у перніку, відаць у тым паспольстве нехта радавіты. Натуральна, сацыета перашкаджае соймавым абмеркаванням, адрабляе абеды ў амбасадзе і сустрэчы з камраткамі. Што для іх значыць Бацькаўшчына!

У яе голасе была горыч, а поўныя вусны дрыжалі ад прыхаванай пакуты.

Ён глядзеў і не разумеў гэтай раптоўнай перамены, разумеў, што гэта было зроблена дзеля нейкага выгляду. Таму ён не ўнікаў занадта глыбока.

Яна прыпудрыла свой спатнелы твар і, асвяжыўшыся водарамі, зірнула на яго палаючымі, дзіўна прыемнымі вачыма і зашаптала з націскам:

- Вы тут знаходзіцеся па даручэнні сканфедэраваных палкоў?

Ён вытрымаў яе позірк, паказваючы толькі твар у надмерным здзіўленні.

- Не бойся, хлопча, я не выпытваю сакрэту, - пяшчотна прытулілася яна да яго. - Ясінскі ўжо нешта мне намякаў, таму, калі такая сітуацыя ўзнікне, я таксама гатовы рызыкаваць усім. Але пад вашым камандаваннем, - дадала яна больш пяшчотна.

[1] Путыфара - паводле Бібліі, жонка высокага чыноўніка пры двары фараона ў Егіпце, дарэмна спакушаючы раба Юзафа да граху.

[2] Мадэстыя - сціплпсць, стрыманасць.

[3] Канексія (з лац.) - роднасныя адносіны; знаёмствы з уплывовымі людзьмі.

[4] Тэрліца (з лац.) - сядло, не абцягнутае скурай, драўляная частка сядла.

[5] Horrendalne publicum (лац.) - страшная публіка.

[6] Анімаваць (ад лац.) - ажыўляць, разаграваць.

[7] Інватацыя (з лац.) - запрашэнне.

- Дзеля Бога, тут шмат доўгіх вушэй, можа, яшчэ дзе, - спалохана прасіў ён.

- Дык не чакай цырыманіяльнай інватацыі[7], а прыходзь да мяне, калі хочаш. Я буду табе заўсёды радая.

Нейкі гадзіннік пачаў біць пятую, і на лаўках раптам пачуўся шум.

- Кароль ідзе! Ціха, панове, кароль! - загрукатаў гулкі бас Роха.

Усталявалася чаканая ціша, і ўсе вочы былі скіраваныя на чырвоныя заслоны.

Дзверы адчыніліся насцеж, і гвардзейцы сталі па баках з карабінамі ля нагі. На парозе з'явіўся кароль, а за ім два кадэты ў парадных касцюмах, страўсавых пер'ях і з аголенымі шпагамі.

Кароль ішоў павольна, паводзячы ацяжэлымі вачыма тых, хто схіляўся перад яго вялікасцю; галаву меў усю ў сівых, заплеценых буклях, твар белы, нібы крыху прыпухлы, нос вельмі правільны, вусны чырвоныя, постаць дародная.

Ён быў апрануты ў штодзённы гранатовы мундзір з чырвонымі абшлагамі, белыя панталоны, панчохі і чаравікі з залатымі спражкамі. Карункавыя жабо ўздымаліся на грудзях, як пена, паблескваючы дыяментавымі зашпількамі, а чырвоная ордэнская стужка праходзіла наўскос па белай камізэльцы; ён абапіраўся левай рукой на залатую рукаяць шпагі, а ў правай трымаў пальчаткі.

Хада яго была як бы нясмелая і няўпэўненая, пагляд запытальны, і ў кожным руху адчуваўся клопат пра свае выгляд і веліч.

Ён свабодна сеў на пазалочанае крэсла. Кадэты, пахаваўшы шпагі, сталі збакоў, сакратар прынёс чырвоную тэчку, ключык ад якой кароль насіў на ланцужку, а лёкай паклаў на стол побач насоўку і табакерку.

Першымі прыбылі біскупы, яшчэ чырвоныя ад нядаўніх выпівак у Сіверса, з нейкімі дакладамі, пры чым Масальскі так захлынаўся ад смеху, аж сутана задрыжала на тлустых баках, а Касакоўскі іранічна ўсміхаўся, водзячы па зале занудланымі вачыма.

Вялікі канцлер і маршалкі каронны, літоўскі і соймавы стаялі крыху ўбаку, чакаючы сваёй чаргі.

Дэпутаты занялі свае месцы, і прыціхлыя галерэі нібы скамянелі, так што над балюстрадамі была нерухомыя, счарнелая гаць галоваў і вачэй, якія трывожна глядзелі на сенатараў і караля.

Зарэмба меў караля перад сабою і арлінымі вачыма ўпіўся ў яго, нібыта хацеў сарваць з твару гэтую лагодную і падманлівую маску і зазірнуць у душу, але бачыў толькі яго вялую ўсмешку, нібы народжаную з сухой пустэча ў сэрцы, яго мутны, завучаны погляд і штучны выгляд годнасці.

- Чалавечы труп, размаляваны пад караля! - падумаў, раздражнёны яго выглядам. - Жывая марыянетка! Рыцар, які разумее толькі капітуляцыю! Гетман нацыі, куплены сваімі смяротнымі ворагамі! Кароль камратак! - усё мацнейшы голас страшэннага сораму і бязмежнага жалю шаптаў у ім. - Табе каронай заплацілі за дазвол першага падзелу, а чым жа яны цяпер заплацяць, гіцаль, чым? - крычаў да яго ранамі сваёй душы, і ўсе няшчасці і крыўды нацыі, уся ганьба і знявага ўсплывалі ў яго ў галаве, быццам гэтыя расчлянёныя часткі Рэчы Паспалітай, што сплывалі жывой крывёй, гаварылі цяпер у яго моцным голасам, які пранізваў яго сэрца мячамі, пякучых крыўдаў, так што яго ахапіла страшэнная злосць, і ён, не могучы больш цярпець жахлівае тугі, загаварыў пылка да падкаморшы:

- Я бачыў, як каралеўская галава ляцела з-пад нажа гільяцінны, а кат схапіў яе за валасы і паказаў людзям.

Ён быў амаль сіні ад хвалявання.

- Што з табой здарылася? Можа, ты хворы? - спытала яна з трывогай, не разумеючы яго бязладных слоў, яго дзіка палымяных вачэй. - Хадзем на паветра, гарачыня табе, відаць, ударыла ў галаву, - шчыра запеважывала яна за яго стан, асвяжаючы яго нейкімі солямі.

Трохі супакоіўся, але сыходзіць не хацеў і праз некаторы час зноў заглянуў у бездань едкіх думак. Ён халоднымі вачыма глядзеў на галовы сенатараў, дэпутатаў і саноўнікаў, адных доўга ўзважваў, другіх нібы адкладаў на бок, але на большасці біў цяжкім, як сякера ката, словам: "Вінаваты!"

І ён у думках кідаў іх у кош, сцякаючыя крывёй, на белыя пілавінне.

Раптам маланкай стрэліла ў ім асляпляльная думка:

- Усе вінаватыя!

Нібы гром выцяў яго, але ён не сагнуўся пад ударам і няўмольна думаў:

- Усюды разруха, гніль, прыватны інтарэс; разбурэнне ўсюды і апошняя гібель. Балота вечнай ганьбы, заганы і бязбожжа! Праклён дзецям, што прадаюць родную маці ў кайданы, праклён!

Але ён як бы ўпаў на калені перад схаваным тварам няўмольнай долі, і ўсёй глыбінёй сваёй збалелай і любячай душы маліў дапамогі.

На галерэях адразу пачуліся нейкія шэпты, і там яго сумныя вочы паплылі сярод змардаваных твараў, растрапаных галоў, грубых рысаў твараў і простых постацяў паспольства. Ён завіс над імі на хвілю, як арол перад ударам у статак, але нейкі віхор выхапіў яго душу і панёс у неабсяжныя

абшары, у вёскі і гарады, сярод мітуслівых натоўпаў, утаптаных гвалтам у зямлю і вечна галодных, вечна пакрыўджаных і вечна нявольных, а ледзве толькі формай падобныя на чалавечае племя.

- Да зброі! Да зброі! - гукаў, яго голас, набрынялы адчаем.

І з трывогай чакаў адказу, ці пачуюць? Ці зразумеюць? Ці захочуць?

У рэшце рэшт толькі домам няволі ёсць для іх гэтая паміраючая Бацькаўшчына!

Ці могуць яны аддаць жыццё, каб знішчыць кайданы і гвалт?

- Вы вырашылі напалохаць мяне сваёй панурасцю, - скардзілася падкаморша, пяшчотна зазіраючы яму ў вочы.

- Найшлі на мяне такія фантазіі, што не мог даць сабе рады.

- Вы павінны ў іх выспавядацца, я не пашкадую вам адпушчэння.

Не дайшло аднак ні да прызнанняў, ні да пяшчотных абсалюцый[1], бо маршалак сойму Бялінскі трыма ўдарамі кія адкрыў паседжанне[2] і, выконваючы рэгламент, а галоўным чынам загад Сіверса, сурова звярнуўся да арбітраў, што тоўпіліся на галярэі:

- Шаноўнае панства, дазвольце, калі ласка, пачаць!

І хоць тоўсты Рох у сіняй капоце з залатымі пазументамі, стукаў кійком, акутым срэбрам, і грозна паўтараў адно і тое ж, ніхто не спяшаўся.

Тэнгаборскі, сакратар сойму, зачытаў высокім голасам кароткі змест пытанняў, якія зараз падлягаюць разгляду.

Адразу пасля яго маршалак пачаў сесію з прадстаўлення прускай прапановы: аб паўнамоцтвах дэлегацыі, якая павінна будзе весці перамовы з Бухгольцам, калі такую хочуць мець высокія Станы, пытаўся.

- Не! Далоў паўнамоцтвы! Няма патрэбы! Не дазваляем! Не хочам!

Жорсткія пратэсты падняліся з парламенцкіх лаваў, і галерэі нецярпяліва адклікаліся тупатам і крыкамі.

Тады каронны канцлер Сулкоўскі падняўся са свайго месца каля караля і пачаў хрыплым голасам тлумачыць, што паўнамоцтвы, арганізаваныя паводле волі Станаў ужо ў руках біскупа Масальскага. Іх копію ў суцэльным шуме пачаў чытаць сакратар.

Але зноў падняўся галас, з паўтара дзясятка дэпутатаў настойліва патрабавалі слова, галерэі паднялі страшэнны шум, не даючы Тэнгаборскаму гаварыць, які раз за разам ўставаў і пачынаў чытаць, але дарэмна.

- Зараз нас багнетамі пагоняць, - заклапочана сказаў Зарэмба, гледзячы ў бок дзвярэй.

- Вы можаце паўстаць супраць прускага караля, але паспрабуйце зрабіць тое ж самае супраць саюзнікаў! - прашаптала яна з-за веера.

Маршалак біў кіем па стале, аж грукатала, кароль хмурыўся, сенатары нецярпліваліся, але толькі калі загаварыў Карскі з Плоцка, раптам сціхла.

Пасля яго гаварыў Скаржынскі з Ломжы; гаварыў і Краснадубскі з Ліваў, і ўсе ў адзін тэнар: што рашэнне Станаў мець паўнамоцтвы ў праекце ўнесеным канцлерамі, не ёсць ужо прадвызначаным.

- Спрачаюцца на пустых словах, - нецярпліва сказаў Зарэмба.

- Гаворка ідзе аб зацягванні справы, а не аб вырашэнні, - адказала яна, пляскаючы Краснадубскаму, а за ёй, як па камандзе, запляскалі арбітражныя лавы.

- А цяпер слухайце ўважліва, - папярэдзіла яна, гледзячы ў бінокль.

З'явіўся Гасткоўскі з Цеханова, мужчына сярэдніх гадоў, хударлявы, апрануты ў мазавецкі цёмнасапфіравы кунтуш і жупан саламянага коле-ру; галава ў яго была паголеная, твар уцягнуты і загарэлы, вочы блакітныя, светлыя вусы, падстрыжаныя над губой.

Ён з ходу пачаў асуджаць пропуск артыкулаў аб неўступленні прускаму каралю Торуня і Гданьска.

- І ні адной пядзі польскай зямлі, - пачуўся нечы голас з ліку арбітраў.

- І ніводнай пядзі польскай зямлі, ніводнага каменя з Торуня і Гданьска, - паўтарыў з сілай Гасткоўскі. - Гвалт, подласць і інтрыгі хочуць закаваць у кайданы ўсю Рэч Паспалітую! Міласцівы кароль! Найяснейшыя Станы! - крыкнуў ён голасам, поўным сардэчнай заклапочанасці, - не ўдзельнічайце ў памнажэнні стогнаў і крыўдаў братоў вашых, не дапускайце трыумфу гвалту і здрады, каб праз стагоддзі не казалі, што мы пайшлі ў ярмо добраахвотна, з гнуснасці, нізкага страху і ганебнага разліку.

Пруські кароль з лісінай ліслівасцю і ілжывымі клятвамі абяцаўся быць нашым саюзнікам і сябрам[3], і першы ганебна здрадзіў нам.

[1] Абсалюцыя (ад лац.) - адпушчэнне грахоў.

[2] Рэймант апісвае тут паседжанне 3 жніўня.

[3] Абяцаўся быць нашым саюзнікам і сябрам- У 1790 г. Прусія заключыла саюз з Польшчай, які абавязваў абедзве краіны аказваць дапамогу ў выпадку агрэсіі.

З такім недаваркам не павінна быць ніякіх дамоваў! Ніякіх пактаў быць не павінна! Бо з шалёным сабакам, які кусаецца і разносіць заразу, не дамовішся, а той, хто жывы, хапае ўсё, што трапіцца пад руку, ці то камень, ці то жалеза, ці то кол з плоту, і б'е, б'е яго, пакуль ёсць дух у ворага, б'е яго насмерць! - скончыў.

Узарвалася бура апладысментаў, і галерэі аж калаціліся ад шуму і крыкаў.

- Ніякіх пактаў! Біць сволачаў! Далоў прусакоў!

Нянавісць выбухнула з усіх сэрцаў і гнеў скалынуў увесь свет пры напамінку пра прускую клятву і прускае вераломства.

Маршалак, не маючы магчымасці супакоіць шум ні званком, ні голасам, перапыніў пасяджэнне і пакінуў сваё месца, а кароль таксама схаваўся! за чырвонымі заслонамі, і тады з трэскам расчыніліся дзверы, якія вялі на галерэю, пачуліся цяжкія крокі жаўнераў, і бліснуў лес нізка нахіленых багнетаў.

Егеры хутка ачысцілі балконы ад крыклівых натоўпаў, пакінуўшы толькі дам, сваіх афіцэраў і Роха, ахрыплага ад крыку.

Зарэмба, падхоплены вірлівым натоўпам тых, хто ўцякаў ад багнетаў, не заўважыў, як апынуўся на замкавым двары.

Ён якраз прыводзіў у парадак свой моцна пакамечаны пінжак, разважаючы, як вярнуцца да падкаморшы, калі Навакоўскі наляцеў на яго.

- Я цябе шукаю. Мы можам ехаць дадому.

Ён быў злы і ўсхваляваны.

- Ці кароль ужо пастанавіў сесію на панядзелак?

- Пакуль не, але сёння там нічога вартага ўвагі не будзе.

Яны селі ў брычку, што чакала на плошчы, і коні рушылі з месца.

На горад ужо апускаўся змрок, толькі сямтам свяціліся крыжы касцёлаў і ў небе ляжалі залацістыя плямы. З палёў веяла холадам, на ўзгорках свяціліся вогнішчы бівакоў, па завулках рыкалі каровы і трэсліся гусі. Вуліцы былі ўжо амаль пустыя, толькі вартавых і конных патрулёў прыбывала на рагах і плошчах.

- Ты чуў гэтага цеханаўскага разумніка? - азваўся Навакоўскі.

- Добры гулец, ведаў чыму біць па чуласці. Зачапіў нават дэпутатаў.

- Гавары з такімі, і яны пазяхаюць, а пляці ім смалянога дуба пра святую зрэнку шляхецкай вольнасці і ўзбуджай іх апавяданнямі пра роўнасць. з каралямі, успомні Аляксандра Македонскага, устаўляй праз кожныя два словы: “цнота”, праз кожныя тры: “гонар”, праз кожныя пяць: “служэнне грамадству”, праз кожныя дзесяць: "найяснейшыя Станы", і крычы пры тым з усёй моцы, махай рукамі, як вятрак, то ў рэшце рэшт, яны заплачуць ад пяшчоты і нават гатовыя падняць цябе на рукі і абвясціць збаўцам Айчыны.

Зарэмба маўчаў, спрабуючы ўгадаць прычыны яго раздражнення.

- Але не дай Бог спадзявацца на іх запал, бо што б яны ні ўхвалілі сёння, яны гатовы абвергнуць заўтра, і любое супрацьдзеянне адразу будзе расцэнена як здрада ці глупства.

Нейкі час ён маўчаў, пакуль яны ехалі па жудасна выбоістай бруказанцы.

- І дамова з Бухгольцам зноў будзе адкладзена, - горка прашаптаў ён.- Яны пачакаюць, пакуль Мюлендорф захопіць Варшаву, і толькі тады падымуць жаласны лямант.

Нарэшце Зарэмба зразумеў прычыну яго абурэння і суцяшальна сказаў:

- Ігельстром гэтага не дапусціць, бо ўжо абяцаў яе імператрыцы.

Яны спыніліся перад двухпавярховым домам. З расчыненых вокнаў ліліся агні і шум.

Слуга, моцна памяты і ў падранай ліўрэі нёс варту ў цёмнай і насцеж адчыненай браме, але неўзабаве з'явіўся камердзінер, апрануты ў чорнае, француз, з запаленым кандэлябрам, пакорліва кланяючыся, вёў па лесвіцах, пакрытых дыванамі, недзе на задні боку дома.

- Шмат людзей? - сказаў Навакоўскі, уваходзячы ў невялікі пакой.

- Чатыры столікі ламбера і фараон. Астатнія ў салоне.

- Прабач, трэба пераапранацца, надакучыў мне гэты маскарад! - паказаў ён на свой кунтуш і знік у прылеглай бакоўцы.

Зарэба з цікаўнасцю агледзеў пакой, які служыў кабінетам, а разам з тым быў сховішчам туга акутых куфраў, замкнёных скрыняў, якія стаялі на сталах, вупражы, складзенай у кутах, і рознакаляровых ліўрэяў, якія віселі на сценах. Былі таксама раскладныя ложкі і некалькі шырмаў.

Увайшоў Навакоўскі ўжо ў модным рудаватым фраку, панчохах і паўчаравіках; камергер з фанабэрыстым тварам абкруціў яго шыю белай хустачкай і, працягнуўшы табакерку, годна стаяў збоку.

- Набыў яго разам з мэбляй псля палкоўніка Стапкоўскага, - пахваліўся ён напаўголасу. - Нібыта нейкае "дэ" ці нават нешта, больш, рэвалюцыяй выгнанае. Князь Цыцянаў - даваў мне за яго адступное - выезд у чацвёра англійскіх коней з вупражжу.

- Цікавіць тую княскую мосць, - усміхнуўся ён.

- Аднак трэба табе памятаць, што князь знаходзіцца ў цеснай дружбе са старэйшым Зубавым, цяперашнім фаварытам.

Ён узяў яго пад руку, і яны пайшлі па звілістых калідорах. Француз асвятляў ім шлях кандэлябрам.

- Уяўляеш, што гэта за палітычная персона? - цішэй, як пад сакрэтам, шаптаў ён. - Мы ў такой канфідэнцыяльнасці, што ён мне даверліва расказваў пра свае цяжкія любоўныя прыгоды.

- Ён яшчэ не памірыўся з шамбялcounшай? - спытаў Зарэмба падступна.

- Але яна не хоча яго бачыць, шле яму нераспячатаныя лісты, гаворыць як царыца, а ён проста шалее ад адчаю. Ведаеш, мне прыйшла ў галаву геніяльная думка: дапамажы яму ў гэтай бядзе.

- І як? - ён адразу зразумеў, да чаго той хіліць.

- Калі б ты, як блізкі кузін, пры такіх абставінах растлумачыў ёй, што прымірэнне з ім пажадана нават для дабра краіны.

- Не пярчы, Петра, перцам вепра! - засмяяўся Зарэмба.

- А я даю табе слова, што гавару сур'ёзна. Не забывай, Пецярбург глядзіць на нас яго вачыма. Ягоныя зычлівыя рэляцыі могуць там вельмі шмат заважыць. І табе згадзілася б пратэкцыя такога магната. Ён на смерць закаханы ў шамбялянш у і умеў бы табе адплаціць за паслугу. Павер мне, магутны сябар і апякун - сапраўдная фартуна для худароднага пахолка. І калі мы дайшлі да гэтых спраў, я табе скажу, што прыязджае малодшы Зубаў[1].

- Гэта прэтэндэнт на будучага фаварыта?

- Палітычная рацыя вымушае нас наладзіць баль у яго гонар. Над гэтым ужо працуюць граф Анквіч і гетман Касакоўскі. Па дваццаць пяць дукатаў з чалавека, адборная сацыета і найпрыгажэйшыя дамы. Я многім ужо адмовіў, але магу цябе запісаць.

- І так. На сабачым вяселлі часам лепш за ўсё карыстаюцца дружкамі, - усміхнуўся ён.

- Усё павінна быць па найвышэйшаму гусце, асабліва дамы! Зубаў павінен вывезці з Польшчы прыемныя ўспаміны. Нават з гэтай прычыны хацелася б, каб князь паладзіў з шамбяляншай. Гэта ўпрыгожыла б забаву, разумееш?

Ён разумеў, што хацеў бы ўдарыць яго кулаком у рудую морду, але толькі ўсміхнуўся і, нягледзячы на ўласныя пачуцці, паабяцаў памірыць гэтую варагуючую пару.

- Няхай кахаюцца дзеля дабра краю! Няхай мілуюцца! - сказаў ён, мучачы ўласнае сэрца з дзікай зацятасцю. - Я паспрабую яе пераканаць.

Яны ўвайшлі ў салон, прыгожа абстаўлены і асветлены.

Гаспадыня дома ў чырвонай дэзабільцы[2] спачывала ў глыбокім вальтэры[3], з белым сабачкам у прыполе, з залатой бальсамінкай у руцэ, ад якой яна ўсё яшчэ ўдыхала водары, і ў атачэнні некалькіх хлапчукоў, найбольш модна апранутых у аднолькавыя фрачкі колеру карыцы і вузкія панталоны да костачак, з капелюшамі на каленях і тоўстымі чаротамі ў руках. Іх было трое; у іх былі твары, як свежаспечаныя булачкі, светлыя кудзеркі, завітыя вакол галавы, выпуклыя вочы, нахабныя выразы, і ўсе яны зваліся Кратоўскімі, сыны адной маці, аднаго дарэктара слаўныя выхаванцы і спадчыннікі ўсяго дваццаці сялянскіх душ. Але гаварылі яны, відаць, пра вясёлыя рэчы, бо пані залівалася смехам і, падаўшы Зарэмбу руку для пацалунку, нават не зірнула на яго.

Дама была падобная на спелую вянгерку, найсаладзейшая тады, калі яе крыху кране першы асенні холад, але прыгожая і спакуслівая. На выбеленым твары ў яе былі мушкі, палымяныя вочы, галава ў локанах, скручаных, як вылусканыя чорныя струкі, невыразнае дэкальтэ, хрыплы голас, і яна ўвесь час аблізвала вусны тлустым языком; у салоне яна гаварыла толькі па-французску, абагаўляла Русо[4], ездзіла з ручной авечкай, з любоўю марыла аб сельскім жыцці на зялёных рывáжах[5] пад саламянымі стрэхамі шамерак[6] і тым часам яна правярала вернасць бяржэраў[7], а дома лаялася, як жабрак з паперці, біла слуг, не пагарджала анісаўкай і егіпецкім соннікам.

[1] Малодшы Зубаў - Валяр'ян Зубаў (1771-1804), малодшы брат Платона Зубава, генерал, ваяваў у Польшчы супраць паўстання 1794 г.

[2] Дэзабітка (з франц.) - негліжэ, жаночая начная або ранішняя вопратка.

[3] Вальтэр (з франц.) - фатэль.

[4] Русо Жан-Жак (1712-1778) - выдатны пісьменнік і філосаф французскага Асветніцтва, адыграў выдатную ролю ў ідэалагічнай падрыхтоўцы рэвалюцыі 1789 г. У сваіх творах Русо крытыкаваў тагачасную цывілізацыю; ён прапаведаваў лозунгі роўнасці і народнага суверэнітэту.

[5] Рываж (з франц.) - бераг ракі.

[6] Шамерка (з франц.) - хата.

[7] Бяржэр (ад франц.) - пастух.

Навакоўскі крутнуўся і пайшоў да суседніх пакояў, дзе раз-пораз успыхвалі спрэчкі паміж гульцамі, а нейкі стары кунтушовы егамосць заапекаваўся Зарэмбам і праз колькі хвілінаў сардэчна яму давяраўся:

- А я запэўніваю вас, што ўсё ўжо прапала. Няма ўжо ні Літвы, ні Русі, ні Кароны, і адзіны ратунак - у высакароднай чалавечнасці імператрыцы. Лічыў так і так, а выходзіць адно: толькі...

Лёкай далажыў аб Цыцыянаве, якога прынялі ўрачыста і з такім гонарам, што нават гаспадыня ўстала, каб павітаць яго.

Навакоўскі доўга размаўляў з ім у баку, пакуль князь, моцна асавелы, значна ажывіўся, ласкава падаў руку Зарэмбу і, ашчашлівіўшы яго некалькімі добрымі словамі, засеў за карты.

Дама вярнулася ў фатэль, маладыя людзі - да перапыненых дыскурсаў, а Навакоўскі прымаў шматлікіх наплываўшых гасцей, толькі Зарэмба блукаў самотна, не ведаючы, што з сабой рабіць; у яго было жаданне ўцячы, але гэтыя рыбіны, бялявыя вочы Цыцыянава трымалі яго на прывязі.

Прыглядаўся да яго з розных бакоў і медытаваў усё з большай і большай нянавісцю.

Тры салоны былі ўжо амаль забітыя; гулялі на многіх століках; дым з люлек прыкрываў усё сіняватым воблакам, адкуль даносіўся беспярапынны звон перасыпанага золата, назвы выкінутых карт, лічбы, размовы пра сойм, прынагодныя анекдоты, ціхія праклёны і позвы слуг, якія мітусіліся ў сваіх ліўрэях як бы на выраст, з падносамі, поўнымі бутэлек.

- Успомніш, вашмосць, як табе Сракоўскі казаў: усё прапала!

Уцёк ад гэтага каркаючага голасу і зноў прыглядаўся да князя, прысядаў за бакавыя сталы, дзе людзі забаўляліся бутэлькамі і палітычнымі разважаннямі, нідзе, аднак, не мог здоўга вытрымаць.

Мярзотным было яму гэтая дзіўная сацыета, якая складалася з нейкіх падазроных асобаў, маскоўскіх афіцэраў і вядомых паўсюль п'яніц і карцёжнікаў, такіх як Падгорскі, Лабаржэўскі, Юзафовіч[4], на чале з каралём распуснікаў Мячыньскім,

Напаўнялі яго непераадольнай агідай і нянавісцю.

Уражваў яго і гэты цудоўны дом, які насамрэч нагадваў сапраўдны Пацееў ці карчму, так годная рэшткі палацаў былі ўперамешку з падаллю і закончанай галотай.

Нарэшце ён пачаў кіравацца да выхаду, калі князь аказаўся побач з ім і прашаптаў:

- Я хацеў бы з вамі пагаварыць, але ў гэтым доме гэта немагчыма.

- Можам выйсці на вуліцу.

Раптам яго ахапілі дрыжыкі.

- Едзь, пан, да мяне. Я кватарую пры штабе на Гарадніцы.

Ён яшчэ вагаўся, але, успомніўшы загады Ясінскага, згадзіўся.

Яны выйшлі амаль незаўважанымі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

---

[1] Юзафовіч - стараста мярэцкі, лівонскі дэпутат на Гарадзенскім сойме, агент Бухгольца.




**Касцёл Сэрца Езуса ў Сейлавічах, сучасны выгляд.** ***Здымак С. Судніка.***